С. АМОСАЎ і А. СЛУЦКІ

# УЗАЕМАДЗЕЙСТВА ТАНКАЎ З ПЯХОТАЙ

Пераклад з трэцяга рускага выданьня,
пераапрацаванага і дапоўненага

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВАЕННАЕ ВЫДАВЕЦТВА БССР
МЕНСК 1933

**С. Аммосаў і А. Слуцкі.—„Узаемадзейства танкаў з пяхотай“.**

Праца выходзіць трэцім, значна пераапрацаваным, выданьнем. Нанова напісаны задачы: „Наступальны бой стралковага палка, узмоцненага танкамі“; „Танкавая група ДД“ і „Баявое выкарыстаньне роты і батальёна малых быстраходных танкаў у палку і дывізіі ў сустрэчным баі“. Па-новаму таксама аўтары ставяць узаемаадносіны агульнавайсковых і пяхотных начальнікаў з дадзенымі падначаленымі ім танкеткамі. Але ў кнізе ёсьць недахопы. Яна, напрыклад, не дае ніводнай задачы на асьвятленьне новых форм бою пяхоты, мэханізаванай у сваіх агнявых сродках: кулямётавозы, мінамётавозы і гарматы, разумеючы пад апошнімі самаходныя ўстаноўкі накшталт танкетак Кардэн-Лойда. Прычына—тэрміновасьць перавыданьня. Але ня гледзячы на гэта кніга заслугоўвае самага шырокага распаўсюджваньня сярод камандзіраў пяхоты і танкістаў, якімі зьмест яе павінен быць прапрацаваны з самай сур‘ёзнай увагай. Яна будзе карысна і для камандзіраў іншых родаў войска, якія з дапамогай яе могуць уразумець узаемадзейства танкаў з пяхотай.

---

Падрыхтавалі да друку:
Рэдактар *М. Калента.*
Літпраўка *П. Барсукоў.*
Карэктар *Б. Фрыдлянд.*
Тэхрэдакгар *А. Невяровіч.*
Здана ў друк 19/V—33 г.
Падпісана да друку 7/VI—33 г.

Уп. Галоўлітбелу № 1168. **Заказ 2513—3000 экз.** Гомель „Палесдрук“.

## Ад аўтароў да III выданьня.

Тэрміновасьць перавыданьня наклала адбітак на зробленыя зьмены ў кнізе: маштаб гэтых зьмен бязумоўна ня поўнасьцю адбіў усе справядлівыя заўвагі аб памылках і недахопах прынцыповага (тактычнага) і тэхнічнага парадку ў першых двух выданьнях.

Аўтары пакінулі ў кніжцы прадмову да другога выданьня, у якім асьветлены рад прынцыповых пытаньняў па баявому ўжываньню танкаў, выклікаўшых шырокі абмен думак. Абедзьве прадмовы даюць гісторыю гэтай невялікай кніжкі. Нам, вядома, ды і чытачом не патрэбна сама па сабе гэта гісторыя. Але яна адбівае рост тэхнічнага аснашчэньня Чырвонай арміі і зьмены ў асноўных палажэньнях баявога ўжываньня і тактыкі танкаў; яна бязумоўна адбівае таксама і рост аўладаньня тэхнікай камандным саставам рабоча-сялянскай Чырвонай арміі, рост, у якім актыўна ўдзельнічаюць і самі аўтары. Узяць хоць-бы такі характэрны прыклад, як пытаньне ўзаемаадносін танкіста і агульнавайсковага і пяхотнага камандзіра. Калі ў першым выданьні асноўнай формай узаемаадносін і ўдзелу танкіста ў распрацоўцы пляну бою быў даклад, то ў другім выданьні ён пераходзіць у прапанову, а ў трэцім мы ў межах часу, дадзенага на перавыданьне, імкнуліся паказаць нармальную форму ўзаемаадносін. Агульнавайсковы або пяхотны камандзір прыймае рашэньне самастойна. Перад апошнім часам можа быць пытаньне да танкавага камандзіра або загаданьне яму далажыць сваю думку.

Калі першае выданьне выклікала ў асноўным дыскусію аб форме ўзаемадзейства і насычэньня танкамі баявога парадку, то другое выданьне выклікала жывое абгаварэньне пытаньня аб эшалёнаваньні танкаў. Чоткая ўстаноўка на адначасовае падаўленьне агнявой сыстэмы праціўніка ва ўсёй глыбіні яго абарончай паласы выклікала патрэбу ў эшалёнаваньні танкаў не „назад“, а „ўперад“ (ДД, ДПП і НПП), скараціўшы неабходнасьць эшалёнаваньня ў глыбіню танкаў НПП.

Імкненьне аўтараў было накіравана да таго, каб унікнуць шаблёнаў у разьмеркаваньні (эшалёнаваньні) танкаў. На гэта зварачваецца ўвага чытачоў. У прыватнасьці ў першай-жа задачы даецца выпадак нешаблённага разьмеркаваньня танкаў.

Як у другім, так і ў трэцім выданьні бярэцца *ўпорна ўдарнае насычэньне танкамі*, але даюцца задачы (на наступленьне), дзе ёсьць насычэньне мінімальнае (узвод танкаў на батальён пяхоты), бо цяжка сабе ўявіць, каб у сапраўднасьці ўсюды мела месца ўдарнае насычэньне.

Важнае прынцыповае пытаньне было ўпушчана ў папярэднім выданьні. Гэта пытаньне аб тактыцы, аб формах наступленьня пяхоты. Пагляд, які раней праводзіўся, што пяхота з танкамі павінна наступаць так, як быццам-бы танкаў няма,—справядлівы для слабага насычэньня пяхоты танкамі (бяз ДД і ДПП)—і танкузвод на стралковы батальён, у гэтым выпадку танкі зьяўляюцца сродкам узмацненьня пяхоты, дапамагаюць ёй і артылерыі рашаць задачы, але гэты пагляд відавочна зьяўляецца няправільным для ўдарнага насычэньня пры спрыяючай мясцовасьці, якое дазваляе адначасовае падаўленьне абароны на ўсю тактычную глыбіню. У гэтым выпадку рашаючым родам войскаў зьяўляюцца танкі; яны рашаюць у асноўным задачу бою, хоць за пяхотай застаецца права даваць танкам задачы і ставіць ім у абавязак захопліваць і ўтрымліваць мясцовасьць да падыходу пяхоты. Зусім ясна, што ў апошнім выпадку роля пяхоты відазьмяняецца: элемэнты пяхотнага бою ў звычайным сэнсе слова зьмяняецца элемэнтамі ачысткі і замацаваньня мясцовасьці, замяняецца ў ступені проста прапарцыянальнай насычэньню танкаў.

Гэта відазьмяненьне формы бою і асноўнай яго данай—тэмпа наступленьня і атакі—залежыць яшчэ і ад *мэханізацыі пяхоты*, г. зн. мэханізацыі сродкаў суправаджэньня—кулямётаў і батальённых пушак, дазваляючай гэтым сродкам не адставаць, як звычайна, ад стралкоў і ручных кулямётаў, здольных гэтым павялічыць тэмпы наступленьня пяхоты, мы ня здолелі прывесьці ніводнага прыкладу з ужываньнем мэханізаванага кулямётавоза, мінамётавоза або гарматы, разумеючы пад апошнімі самаходныя ўстаноўкі накшталт *танкеткі Кардэн-Лойд*. Бязумоўна, што ў галіне асьвятленьня новых форм бою мэханізаванай (у сваіх агнявых сродках) пяхоты кніжка ўжо адстае, далёка не асьвятляючы ўсіх пытаньняў. Прычына—тэрміновасьць перавыданьня.

Падобным да гэтага пытаньня зьяўляецца пытаньне магутнасьці груп ДД і ДПП. Зусім ясна, што пытаньне аб адначасовым падаўленьні абароны праціўніка, аб зьмене форм бою пяхоты можа быць вырашана толькі пры вылучэньні магутных груп ДД і ДПП, якія складаюцца з адпаведнага для данай мясцовасьці тыпу танкаў і забясьпечаны садзейнічаньнем магутнай артылерыі і авіяцыі. Крахаборніцтва ў гэтым пытаньні, распыленьне сродкаў, прывядзе толькі да няўдачы, зрыву пляну, расчараваньня і дыскрэтызацыі ідэй эшалёнаваньня танкаў (ДД, ДПП і НПП). Бязумоўна, што характар мясцовасьці, групоўка і падзяленьне абароны праціўніка можа прывесьці да ўзмацненьня і памнажэньня эшалёнаў танкаў. Напрыклад, можа быць

патрэба ў эшалёне выведваньня, якое вызначае кропкі стаяньня процітанкавых гармат і разьмяшчэньне мінных палёў; можа быць патрэба ва ўзмаценьні і эшалёнаваньні груп ДПП.

Сапраўды звычайна групе ДПП ставіцца задача падаўленьня (больш правільна зьнішчэньня) агнявых сродкаў у глыбіні раёна, батальёна і эшалёна, г. зн. у прыватнасьці па польскай сыстэме падаўленьне—„срудшанца", які знаходзіцца на глыбіні ў 1—1,5 км. ад папярэдняга краю. Між тым на пазыцыі „Запарова[1]) разьмяшчаюцца агнявыя сродкі, якія ўдзельнічаюць у агнявой загародзе перад пярэднім краем і ў глыбіні ротных раёнаў і эшалёну. Гэта пазыцыя знаходзіцца на глыбіні ў 2—3 км. ДД яе не падаўляе, бо батарэі праціўніка стаяць за гэтай пазыцыяй; не падаўляюць яе і ДПП. Напрашваецца вывад аб неабходнасьці ўзмацніць групу ДПП так, каб яна магла рашаць дзьве задачы: падаўленьне „Срудшанца" і „Запарова". Напэўна для гэтага патрэбна не адна рота, а дзьве роты танкаў, падаўляючых адначасова (2 эшалёны ДПП) або пасьлядоўна (1 эшалён ДПП) гэтыя два агнявыя ачагі. Важнасьць падаўленьня „Запарова" вынікае з назначэньня яе як апорных кропак, прыкрываючых артпазыцыю і разгортваньне рэзэрваў. Пытаньне аб двух эшалёнах або аб узмацненьні наогул ДПП аўтары парашылі вынесьці за старонкі кнігі, як пытаньне прынцыповае і падкрэсьліваючае неабходнасьць пры вылучэньні груп ДД ДПП і НПП строга лічыцца з тымі задачамі, якія вынікаюць з ацэнкі мясцовасьці і разьмяшчэньня праціўніка.

Некалькі слоў аб разьдзеле „Сустрэчны бой". Па гэтаму у разьдзеле было вельмі мала сказана на ўсіх бібліяграфічных вечарох і ў рэцэнзіях па абодвух выданьнях. Недахопам яго зьяўляецца: 1) неразгорнутая абгрунтаванасьць прынцыпаў ужываньня танкаў у сустрэчным баі, 2) адсутнасьць задачы, якая апісвае баявое выкарыстаньне і тактыку батальёна быстраходных танкаў: кіраўніцтва на маршы—месца ў калёне дывізіі і палка, арганізацыя выведкі, пастаноўка задач, разгортваньне і дзейства па калёнах. У тэарэтычным уступе да „Сустрэчнага бою" мы толькі ўстанаўліваем выгоду выкарыстаньня танкаў па калёнах, але не даказваем яе ні на водным прыкладзе. Гэта недахоп, упушчаны і аўтарамі і ўсімі рэцэнзэнтамі.

Аўтары, з другога боку, ня лічаць памылкай ужываньне быстраходных танкаў узводамі ў перадавых часьцях, маючых спэцыяльныя задачы (напрыклад, перадавы атрад). Дзействы броняаўтамабіляў 2—3 машынамі і ўзводамі на асобных кірунках лічацца нармальнымі. Быстраходнасьць сучасных танкаў 30—35 км. па дарогах, 20—25 па мясцовасьці) бязумоўна не дазваляе іх выкарыстаць так сама, як і броняаўтамабілі (з некаторай папраўкай) на усё яшчэ абмежаваную апэратыўную рухомасьць, ня маю-

---

[1] Лінія разьмяшчэньня невялікіх груп (пяхузвод, кульузвод і менш) ззаду срудшанца ад папярэдняга краю у 2—2,5 км.

чую аднак рашаючага значэньня для задач тактычнага парадку, якія рашаюцца ў межах, напрыклад, стралковай дывізіі.

З асобных пытаньняў, пастаўленых перад аўтарамі на разборах і рэцэнзіях, трэба застанавіцца на наступных.

Хоць кніга і ня мае на мэце даць тактыку танкаў у разгорнутым выглядзе, аднак мэтазгоднасьць даць ў ёй уяўленьне аб арганізацыі выведкі, арганізацыі і рабоце танкавага тылу зусім відавочна і ў гэтым выданьні гэта пажаданьне выконваецца.

У той-жа час мы яшчэ раз агаварваемся, што кніга прызначаецца для пяхотных камандзіраў для ўразуменьня ўзаемадзейства пяхоты і танкаў і дзействаў апошніх у баі. Мы адсылаем усіх танкістаў і тых, хто цікавіцца тэхнікай работы танкаў, да адпаведных афіцыяльных настаўленьняў і спэцыяльных кніжак.

Пытаньне аб дымох пастаўлена толькі ў першай задачы. Урэшце пытаньне аб стратах у танках, аб барацьбе з міннымі загародам і па-ранейшаму ня вырашана.

Таму мы лічым вельмі неабходным даць рэкамэндацыйны сьпіс літаратуры, з якога-б можна было паглыбіць і дапоўніць тое, што ў кнізе асьветлена павярхоўна або не закранута зусім.

Аўтары прыносяць таварыскую падзяку за каштоўныя ўказаньні і парады, даныя інспэктарам мэханізацыі РСЧА т. Дзераўцовым С. І. і начальнікам штаба баявой падрыхтоўкі тав. Ткачовым М.

*С. Амосаў.*
*А. Слуцкі.*

---

## Замест прадмовы (да другога выданьня)

Кніга ў сваім першым выданьні выклікала жывую дыскусію, шмат правільных і няправільных думак, падзяліла ўсіх, хто з ёй пазнаёміўся, на прыхільнікаў і праціўнікаў яе. Адсутнасьць на рынку ня толькі другой такой кнігі (калі ня лічыць перакладнога Клайо „Баявое выкарыстаньне танкаў у цесным узаемадзействе з пяхотай") і хуткае разыходжаньне першага выданьня прымусілі аўтараў выпусьціць другое выданьне. Аўтары старанна перагледзелі зьмест першага выданьня, улічылі ўсё тое, што было сказана і ў друку і на вядомых ім бібліяграфічных разборах. Улічана было і ўсё новае, што адбылося за прайшоўшы час у галіне, якая закранаецца кнігай. Не забыты быў і вопыт апошняга лета (1930 год).

Тым ня менш кніга ня была рэзка і карэнна пераапрацавана як па сутнасьці, так і па аб'ёму свайго зьместу. Яна была толькі „мадэрнізавана", калі можна так сказаць.

Каб зразумець, што аўтары зрабілі з кнігай у яе новым гэтым выданьні, ня толькі карысна, але і трэба спыніцца на вузлавых пытаньнях, навокал якіх разгарнулася дыскусія.

Так сама, як і ў першым выданьні, кніга ня мае на мэце даць тактыку танкаў, ахопліваючую ўсе выпадкі выкарыстаньня і дзейства танкаў усіх тыпаў.

Ня гледзячы на загаловак кнігі „Узаемадзейства танкаў з пяхотай у роце, батальёне і палку", многія хацелі абвінаваціць аўтараў у тым, што яны зьніжаюць ролю і значэньне танкаў, зводзячы іх ролю нібы толькі да суправаджэньня пяхоты ў цесным узаемадзействе з імі. У сапраўднасьці аўтары бралі толькі адзін кірунак баявога выкарыстаньня танкаў—ва ўзаемадзействе з пяхотай. Імкненьне абхапіць у кнізе ўсе формы баявога выкарыстаньня танкаў (§ 206 ПС 29) і ўласна тактыку танкаў прывяло-б няўхільна да распыленасьці працы і адсутнасьці ў ёй мэтанакіраванасьці пры малым аб'ёме або да вялікага аб'ему. Так сама, як і ў першым выданьні, кніга мае на мэце: дапамагчы пяхотнаму (агульна-вайсковаму) і танкаваму камандзіру разабрацца ў пытаньнях баявога выкарыстаньня і ўзаемадзейства пяхоты з тан-

камі ў межах стралковага злучэньня. Ніякіх іншых мэтаў аўтары ня ставілі перад сабой.

Аўтары з другога боку ўлічылі справядлівыя заўвагі і пашырылі зьмест кнігі, увёўшы задачу на выкарыстаньне танкаў у групе ДД (у саставе дывізіі,—замест няправільна ўзятага ў саставе палка) і задачу на выкарыстаньне танкаў у абароне. Аднак гэта не парушае мэтаўстаноўкі кнігі: узаемадзейства танкаў і пяхоты ў стралковых злучэньнях.

Другім дакорам было абвінавачваньне ў разыходжаньні з Палявым статутам, у пытаньнях масавасьці выкарыстаньня, нормаў насычэньня і разьмеркаваньня танкаў.

Зьмест кнігі ня мог і ня можа адбіць патрабаваньні § 206 ПС 29—„Танкі ў наступленьнях з рашучай мэтай выкарыстоўваюцца ў значных масах і на шырокім фронце"—па той простай прычыне, што маштаб выкладзенага ў кнізе вельмі малы, каб ахапіць апэратыўна тактычны зьмест паняцьця „ў значных масах і на шырокім фронце". Пытаньнямі насычэньня і разьмеркаваньня танкаў у арміі корпусе кніга не займаецца; таму дарэмнымі былі б спробы „апэратараў" знайсьці ў ёй адказ на пытаньні падобнага роду. Некаторае справядлівае сумненьне магло ўзьнікнуць у чытача ў адносінах другой паловы кнігі: „Сустрэчны бой", дзе танкі асобнымі ўзводамі дзействуюць разам з пяхотай. Першая задача на бой палка, ўзмоцненага ўзводам танкаў, павінна была выклікаць нараканьне ня толькі тым, што на дывізію прыпадала толькі рота танкаў, а „ня менш батальёна" (§ 206 ПС 29), гэта было-б паўбяды, бо ў сустрэчным баі магчыма такое насычэньне [1]), але галоўным чынам тым, што пры такой слабай норме насычэньня аўтары, замест таго, каб папоўніць яе выкарыстаньнем танкаў разам у важны момант і ў важным кірунку, распылілі танкавую роту па палкох.

Што датычыцца дзействаў танкаў у саставе атрадаў (галаўных, перадавых і выведчых), то тут насычэньне танкамі таксама, як і бронямашынамі і танкеткамі, можа быць у саставе ўзвода. У гэтых задачах аўтары мелі на мэце паказаць характар узаемадзейства дробных падразьдзяленьняў пяхоты, танкаў, артылерыі і броняаўтамабіляў у хутказьменнай абстаноўцы сустрэчнага бою, у наступленьні на шырокім фронце з вялікімі прамежкамі ў баявым парадку або з адкрытымі флянгамі.

Што датычыцца нормаў насычэньня і разьмеркаваньня танкаў у наступленьні на праціўніка, які абараняецца, то аўтары ня выходзілі з межаў насычэньня: „ударнага"—батальёна на полк і „скоўваючага"—роты на полк. Гэта зьяўляецца агуль-

---

[1]) Аб норме „батальён на стралковую дывізію" гаворыцца ў ПС 29 для наступленьня на праціўніка, які абараняецца.

ным і для першага і для другога выданьня з той розьніцай, што ў апошнім зроблены ўхіл у бок „ударнага“ насычэньня.

Разьмеркаваньне танкавых ўзводаў па стралковых ротах не зьяўляецца ў данай кнізе абавязковай схэмай. Наадварот, аўтары праводзяць думку, што пры карыснасьці ў некаторых выпадках дадаваньня танкавага ўзвода стралковай роце ў многіх выпадках акажацца яшчэ больш карысным не дадаваць іх ротам, а арганізоўваць узаемадзейства ў цэлым батальёне па наступных меркаваньнях:

— Батальён мае штаб і здолее лепш, чым роты, паставіць задачу танкам.

— Ажыцьцяўляецца менш сьціснутых манэўр і, калі трэба, кампактны ўдар, які накіроўваецца самім каmандзірам танкавай роты.

— Не заўсёды ёсьць час для ўстанаўленьня сувязі паміж ротамі і танкавымі ўзводамі.

Што датычыцца разьмеркаваньня танкаў па задачах (ДД, ДПП, НПП), то яно залежыць перш за ўсё ад патрабаваньня ПС (§ 267) забясьпечыць перш за ўсё пяхоту непасрэднай падтрыманай і значыць ад колькасьці танкаў (насычэньня), а таксама тыпу танкаў. У першым выданьні мы абмежаваліся зусім сьвядома вывучэньнем выкарыстаньня і ўзаемадзейства пяхоты з пэўным тыпам танка—лёгкім танкам суправаджэньня пяхоты. Натуральна, што ўпор браўся на цеснае ўзаемадзейства, што, як відаць, не разыходзіцца з устаноўкай § 207 ПС 29.

У гэтым выданьні мы бярэм, апрача лёгкага танка, і сярэдні танк абодва з больш высокімі баявымі данымі.

Наступным цяжкім абвінавачваньнем было абвінавачваньне ў прапаведваньні „прыліпаньня пяхоты да броні“ „да фізычнай блізкасьці“ і ў сувязі з гэтым адсутнасьць указаньняў аб неабходнасьці аднаўленьня сувязі з пяхотай. Уважлівае вывучэньне кнігі прыводзіць да адваротнага вываду: ні аб якім прыліпаньні і фізычнай блізкасьці аўтары не прапаведаюць. Цеснае ўзаемадзейства ня ёсьць фізычная блізкасьць—гэта ўзаемадзейства, якое вызначаецца зрокавай і агнявой сувязьзю пяхоты і танкаў (да дальнасьці ручнога кулямёта—700—800 м.) і, значыць, здольнасьцю адзін аднаго падтрымліваць, дапамагаць і выручаць пры дзействах і пяхоты і танкаў па адных і тых-жа аб'ектах. У кнізе гэта падкрэсьліваецца як у дынаміцы, так і ў рашэньнях і разборы.

Бясспрэчна, што цеснае ўзаемадзейства зьяўляецца цяжкай формай узаемадзейства, патрабуючай узгадненьня дзействаў, сувязі, кіраўніцтва; тым ня менш яна зьяўляецца ня толькі неабходным (§ 207 ПС 29), але і няўхільным для таго, каб даць

пяхоце магчымасьць наступаць. Адмаўленьне такога ўзаемадзейства апраўдваецца боязьню цяжкасьці.

Бязумоўна прыходзіцца адзначыць вялікія цяжкасьці ва ўстанаўленьні і падтрыманьні сувязі пяхоты з танкамі ў сэнсе магчымасьці паставіць новую задачу танкам. Да гэтага часу адзіным спосабам сувязі было назначэньне пунктаў аднаўленьня сувязі з пяхотай. Танкам, якія манэўруюць больш свабодна чым пяхота па полі бою, лягчэй ажыцьцёвіць сувязь ад сябе да пяхоты, чым пяхоце ад сябе да танкаў. Відавочна, што гэта сувязь палягчаецца ня толькі ў зьвязку з магчымасьцю радыё-сувязі, але і з павялічэньнем манэўранасьці танкаў (больш лёгкі і хуткі зварот да пяхоты).

Усё вышэй сказанае ні ў якім разе не адзначае якога-небудзь зьніжэньня ролі танкаў як самастойнага роду войск (мэханізаваныя злучэньні).

Далей ішло пытаньне аб удзеле танкавага камандзіра у танкавым рашэньні пяхотнага або агульнавайсковага камандзіра.

Удзел танкавага камандзіра ў выглядзе кароткага дакладу (па 3 выданьню даведкі) ацэнкі абстаноўкі і прапановы неабходна і ня выклікае сумненьняў. У нашых задачах мы гэта даволі пасьлядоўна праводзім і зварачваем на гэта ўвагу чытача. Праўда, мы даем і прыклады, калі ў камандзіра часу вельмі мала, а мясцовасьць і абстаноўка ясныя, і таму ён прыймае рашэньне самастойна. Усё пытаньне толькі ў тым, каб танкавы камандзір найбольш сьцісла, ясна і канкрэтна даў у некалькіх словах сваю прапанову аб задачах і разьмеркаваньні танкаў, падмацаваную вывадам з ацэнкі мясцовасьці, праціўніка і часу.

Умовы ныкарыстаньня танкаў (розныя задачы нават у стралковых злучэньнях (ДД, ДПП, НПП) значна ўскладніліся, таму ня гледзячы на агульны рост засваеньня агульнавайсковым (пяхотным) камандзірам тэхнікі патрэб ў заслухоўваньні прапановы танкіста ня зьнікла. Мы настойваем на тым, каб называць гэта прапановай, але не дакладам.

Разам з тым камандзір павінен быць досыць тэхнічна і тактычна пісьменны, каб прыняць рашэньне па танках самастойна або падыйсьці крытычна да прапановы танкавага камандзіра. Дапамагчы гэтаму і зьяўляецца задачай нашай кніжкі..

Тут-жа трэба закрануць і пытаньне аб ролі танкавага камандзіра не ў падрыхтоўцы бою, а ў яго правядзеньні. Больш дакладна трэба паставіць пытаньне аб ролі камандзіра танкавай роты ў баі.

Калі стаць на пункт погляду Клайо—абавязковага да даваньня ўзвода танкаў батальёну і ротам,—то функцыі кіраўніцтва боем узводаў натуральна выпадаюць, бо кожны ўзвод выконвае іменна тую задачу, якую яму паставіў пяхотны камандзір.

Бязумоўна гэты пункт погляду можна прыняць толькі для вядомых умоў: 1) для ціхаходных танкаў, 2) у пазыцыйнай вайне або 3) ў баі на значным фронце (700—1000 м на батальён), калі кіраўніцтва танкавымі ўзводамі камандзірам роты робіцца цяжкім, бо на танкувую роту, падтрымліваючы полк, прыпадае 1400—1700 м. фронту. Да таго-ж і задачы батальёнаў бываюць настолькі самастойныя, што часта патрабуецца адначасовае ўзьдзеяньне танкаў на аб'екты атакі і таго і другога батальёну.

У гэтых выпадках камандзіру роты застаецца толькі адыгрываць ролю назіраючага за дзействамі танкаў, дапамагаючага падтрымліваць сувязь ад пяхоты да танкаў і назад, арганізатара аднаўленьня і забясьпечаньня ў баі.

Наадварот, ва ўмовах насычэньня стралковага батальёна ротай танкаў і дзействаў па пэўнаму аб'екту, часьцей за ўсё па ротным раёне абароны зьяўляецца больш выгодным дзейства танкавай роты ў цэлым па гэтаму аб'екту. Яшчэ большая роля камандзіра танкаў роты ў групах ДПП і ДД.

Такім чынам баявое значэньне камандзіра роты ўсё больш узрастае ня толькі ў шырокіх межах рознастайных відаў выкарыстаньня танкаў (§ 206 ПС 29), але і ў межах стралковых злучэньняў. Зразумела, што ў сустрэчным баі роля камандзіра роты яшчэ большая чым у наступленьні на праціўніка, які спыніўся, бо свабодны манэўр тут яшчэ шырэйшы.

Аўтарам была ў свой час прыпісана недаацэнка здольнасьцяй танкаў утрымліваць мясцовасьць. § 210 ПС 29 гаворыць: „пяхота павінна засвоіць, што танкі ня могуць захапіць і ўтрымліваць за сабой мясцовасьць." Працягласьць утрыманьня мясцовасьці залежыць ад арганізаванасьці агню праціўнікам па танках. Гэты агонь прымушае танкі падтрымліваць рух, каб не падстаўляць сябе пад больш небясьпечны агонь пры сгаянцы на адным месцы. Такім чынам гэта ўтрыманьне мясцовасьці можна ўявіць у такім выглядзе, што танкі знаходзяцца за закрыцьцем, бліжэйшым да рубяжа, які ўтрымліваецца, і адбіваюць кароткім ударам з глыбіні ўсе спробы праціўніка вярнуць гэты рубеж. Тым ня менш агнявая магутнасьць, скарастрэльнасьць, рухомасьць процітанкавых гармат і ступень насычэньня імі баявога парадку пяхоты настолькі ўзрасьлі, што, ня гледзячы на ўдасканаленьні ў танках праблема ўтрыманьня мясцовасьці ніколі не спрасьцілася, Тым ня менш танкам прыдзецца ўтрымліваць мясцовасьць і ў сустрэчным баі (гэта лягчэй), і ў наступленьні на праціўніка, які абараняецца і асабліва ў групах ДД і ДПП, але гэты час ўтрыманьня мясцовасьці лічыцца дзесяткамі мінут.

У кнізе мы стараліся ва ўсіх задачах падкрэсьліць неабходнасьць старannай выведкі мясцовасьці і праціўніка і асаблівасьці выяўленьня яго проці танкавых сродкаў як перад боем, так і ў баі. Цяжкасьць вызначэньня месца знаходжаньня

сродкаў ПТА вельмі вялікая: на пярэднім краі іх мала, і яны дзействуюць кінжальна; цэнтр цяжару ПТА ляжыць у глыбіні батальённых раёнаў.

Ці вырашаецца пытаньне садзейнічаньня танкам стральбой па падазроных мясцох? Бязумоўна, поўнасьцю не вырашаецца, бо разьлічваць на зьнішчэньне невялікай процітанкавай гарматы або кулямёта стральбой па плошчы нельга, але надавіць яго або пагоршыць яго назіраньне і ўмовы вядзеньня агню (панізіць якасьць наводкі і тэмп агню) сканцэнтраваны агонь, бязумоўна, можа. Відавочна таксама, што ўзьдзеяньне на процітанкавую гармату спыняецца часьцей за ўсё са спыненьнем агню. Адмаўляцца-ж ад агню па „падазроных зонах" (часьцей за ўсё закрытых раёнах) немэтазгодна. Стральба звычайнымі дымавымі і хімічнымі знарадамі бязумоўна дасьць пэўную карысьць, аднак, не такую, каб ня лічыць суправаджэньне танкаў процітанкавымі гарматамі і звычайнымі кулямётамі асноўным спосабам садзейнічаньня танкам у баі.

Аўтары сьвядома ішлі на некалькі спрошчаную і палегчаную абстаноўку для танкаў у сэнсе паказу слабага ўзьдзеяньня праціўніка на танкі. Гэта выклікалася жаданьнем паказаць ва ўсёй глыбіні ўзаемадзейства паміж пяхотнымі і танкавымі падразьдзяленямі. Гэта тактычнае дапушчэньне, якое зусім апраўдваецца мэтадычнымі меркаваньнямі, падмацоўваецца цэлым радам падкрэсьленых канкрэтных указаньняў, як трэба пяхоце і артылерыі садзейнічаць танкам у баі. Аўтары стараліся ўсюды падкрэсьліць цяжкасьці дзейства танкаў у баі, няўхільнасьць сур'ёзных страт у танках.

Цэлы рад добрых парадаў і ўказаньняў быў прыняты аўтарамі і на аснове іх ўнесены папраўкі і тлумачэньні, якія адхіляюць няяснасьць, недагаворанасьць тых або іншых пунктаў, умоўнасьць, нават дапушчаную з мэтадычных меркаваньняў (напрыклад разьлік часу ў табліцах), урэшце адхіленых рад проста меўшых месца тактычных і тэхнічных памылак.

Мы асьвятлілі ўсе гэтыя пытаньні выключна таму, што яны зьяўляюцца пытаньнямі асноўнымі і практычна важнымі; яны ўкладзены ў зьмест самой кнігі, але сказаць аб іх трэба было для абагуленьня ўсіх матэрыялаў і разуменьня той канцэпцыі, якой кіраваліся аўтары. Такім чынам, нашай мэтай зьяўлялася дапамагчы пяхотнаму камандзіру навучыцца выкарыстоўваць танкі, засвоіць неабходнасьць ім дапамагаць і, наадварот, атрымаўшы аб гэтым ўяўленьне, навучыцца і змагацца супроць танкаў. Для танкавых камандзіраў наша кніга павінна быць карыснай у адносінах засваеньня ўзаемадзейства і спосабаў сувязі з пяхотай. Артылерыйскі камандзір знойдзе тут указаньне, як у час і ў патрэбным месцы даць зьнішчальны або нэйтралізуючы агонь, дапамагаючы танкам выконваць сваю задачу і выконваючы тыя задачы, якія ня могуць быць выкананы танкамі.

Для правільнага выкарыстаньня танкаў і чоткага ўзаемадзейства камандзіры пяхоты і артылерыі павінны ведаць асноўныя ўласьцівасьці танкаў, якія могуць зьмяніцца, але ня зьнікаць.

Танк ёсьць баявая ўсюдуходная машына, злучаючая ў сабе агонь, рух і броню. Ад адноснага злучэньня гэтых трох элемэнтаў залежаць і ўласьцівасьці танкаў: магутнасьць агню, быстраходнасьць і ўсюдыходнасьць, радыўс дзейства і абароненасьць ад таго або іншага агнявога ўзьдзеяньня праціўніка.

Агнявыя сродкі. Лёгкі і сярэдні танк мае адпаведна 37,47 або 57-мм. пушку і 1—4 кулямёты.

Сапраўднасьць агню залежыць ад скорасьці руху танка, ад мяккасьці яго падрысорваньня і ўмоў назіраньня.

Рух па няроўнай мясцовасьці паніжае сапраўднасьць агню тым больш, чым больш няроўная глеба, меншы танк, горшае падрысорваньне, горшыя ўмовы назіраньня. Але як-бы яны ні зьмяняліся, трэба памятаць, што дыстанцыя сапраўднага агню з танка ў 2—3 разы меншая, чым дыстанцыя яго для такой-жа зброі, што стаіць на зямлі, г. зн. пры паедынку напрыклад, пушкі і танка, апошні павінен прайсьці значную адлегласьць пад агнём гэтай пушкі перш чым ён здолее сам адкрыць агонь. Так любая процітанкавая і звычайная пушка мае сапраўднасьць агню з 1000 м.,а танкавая пушка—з 500 - 600 м., а надзейны агонь усяго толькі з 300 м.

Адсюль імкненьне танка хутчэй прайсьці гэту адлегласьць, каб паменшыць шансы праціўніка на пападаньне, а падышоўшы на дыстанцыю свайго сапраўднага агню, сьцішыць ход звычайна да 10—15 км., на якіх магчыма назіраньне за полем бою, адшукваньне цэляй і вядзеньне агню.

Рухомасьць танка вызначаецца здольнасьцю перамагаць перашкоды і хутка перасоўвацца па-за полем бою і на полі бою. Пры гэтым вялікія скорасьці руху выкарыстоўваюцца для перасоўваньня па-за полем бою або для ўхіленьня ад стрэлаў пушкі праціўніка, для чаго танк можа і на полі бою рухацца скачкамі са скорасьцю, якая даходзіць да 20—25 км. у новых танках; але для адшукваньня цэляй, назіраньня і вядзеньня агню ўсякі танк у саўпраўдных умовах ня можа рухацца са скорасьцю большай, чым 10—15 км. у гадзіну.

Таму ва ўмовах наступлэньня на праціўніка, які спыніўся, калі трэба адшукваць кулямёты, што маскуюцца або ўкрыты ў акопах, процітанкавыя гарматы, сярэдняя баявая скорасьць нават у быстраходнага танка, не ўладаючага стробаскапічным назераньнем, ня можа быць большай за 10—15 км. у гадзіну, а часам яна зьніжаецца і да меншай велічыні.

Пяхотны (агульнавайсковы) камандзір, які дзействуе з танкамі, павінен добра ведаць, што ўяўляе сабой наогул танк і канкрэтна той іменна танк, які дзействуе на яго вучастку або

яму даданых, што ён можа зрабіць для пяхоты і ў чым яму трэба дамагчы. Садзейнічаньне танкам з боку пяхоты і артылеры набывае яшчэ большае значэньне ва ўмовах узросшага і ўзрастаючага насычэньня пяхоты ўсё больш ўдасканаленымі процітанкавымі сродкамі.

У кнізе няма падрабязна апісаных тэхнічных уласьцівасьцяй розных тыпаў танкаў, а знаёмства з імі неабходна, але іх можна знайсьці ў дапаможніках, указаных у канцы кнігі, і ў пэрыядычнай літаратуры.

У заключэньне аўтары выказваюць бадзёрую надзею, што гэта кніга дасьць сваю карысьць каманднаму саставу РСЧА.

*С. Амосаў.*

*А. Слуикі.*

---

# НАСТУПАЛЬНЫ БОЙ

## Наступленьне стралковага палка, узмоцненага батальёнам танкаў

(Карта 1 в. у дм., рад XXVII, арк. А 1 чарцёж 1).

I.

Фарсаваўшы р. Сьвіслач, нашы часьці 15. 7. 31. з боем выйшлі на лінію: Юраўляны [1]), ф. Аляксандраўка, кусты 1 км, на ўсход ад ф. Рахавік (чарц. 1), дзе сустрэлі арганізаваны артылерыйскі і кулямётны агонь абароны праціўніка, акопы якога былі ўзмоцнены дротам у 3 калы. Боем перадавых батальёнаў удалося захапіць і замацаваць вышыню на гасьцінцы $^3/_4$ км. на захад ад Карч.

II.

Камандзір 10. с. п. у $14^{00}$ 15. 7. 31. 11 быў выкліканы ў Служкі ў штаб дывізыі, дзе быў азнаёмлены начальнікам штаба дывізыі з абстаноўкай (зьвесткамі аб праціўніку, задачай корпуса і суседзяў).

Пасьля чаго атрымаў вусны загад камандзіра 4 с. д.:

1. Праціўнік моцна займае абарончую паласу, маючы вельмі моцна разьвітую сыстэму агню на вышыні 92,6 і на поўдзень ад яе. Па грэбеню вышыні 90,1 (на захад ад Паўночны востраў)—акопныя работы. На вучастку дывізіі абараняюцца часьці 59 п.п.

2. Корпус прарывае фронт праціўніка з задачай выйсьці да канца дня за р. Слойка і прасьледваць праціўніка ў заходнім кірунку.

3. 4 с.д. з VI і VII а.т.б. [2]) атакуе на фронце ф. Аляксандраўка, кусты 1 км. на ўсход ад ф. Рахавік, маючы бліжэйшай задачай аўладаньне рубяжом Шудзялава (выключна), вышыня 90,1 і далейшай—раён Казловы луг, Равок, Слойка.

4. II с.п. з 1 і 2 р. VII а.т.б. атакаваць на фронце ф. Аляксандраўка, вышыня на гасьцінцы (выключна); бліжэйшая задача—84,5, Астравок; далейшая—вышыня на поўнач ад 90,1.

---

[1]) 3,5 км. на поўнач ад ф. Аляксандраўка.

[2]) А.т.б.—Асобны танкавы батальён.

5. 10 с.п. з VI а.т.б. і 3 р. VII а.т.б. атакаваць на фронце: вышыня на гасьцінцы (уключна), кусты (уключна); бліжэйшая задача—аўладаць раёнам 92,6; 89,8 могілкі рускія, далейшая—вышыня 90,1, Паўночны востраў.

Разьмежавальная лінія з II с.п.—чарцёж 1.

6. 12 с.п. складае 2-гі эшалён дывізыі і ўдарам праз сутык 11 і 10 с.п. вядзе бой за аўладаньне вышынёй 90,1 і разьвівае посьпех на захад.

7. Артылерыя: П.П., II—III дывізыён 4 а. п. і I/V А. П. РГК, П.П. 10,1 і II дывізыёны 4 а. п. II/V А. П. РГК і ПА 12, адказная паласа справа, Піражкі Шудзялава, зьлева—ф. Рахавік, Пагост, Пачапок. Дадатковы сэктар: справа—ф. Аляксадраўка, вышыня 94,7 Г. Папова, у 1 км. на поўнач ад Піражкі.

Пасьля аўладаньня грэбенем 85,1—92,6 перадаць у падначаленьне камандзіра 12 с.п. II дывізыён 4 а.п. Барацьба артылерыяй ўскладзена на I і II дывізіёны корпуснага а.п.

8. Атака заўтра раніцою: у Ч., пасьля гадзіннай артпадрыхтоўкі.

9. Мой камандны пункт—на вышыні з адзнакай 87,5, у наступным—92,6 і 90,1.

10. Мой другі намесьнік—кампалка 10.

Даданы 10 с.п. VI а.т.б. складаецца з трох рот малых танкаў па 16 танкаў, гэтага-ж саставу і 3 р. VII а.т.б. Усе танкі з наступнымі данымі:

Вага—каля 8 т.

Скорасьць—найбольшая 35 км/гадз.; сярэдняя па дарогах—25 км., сярэдняя па мясцовасьці—15—20 км.

Запас ходу—на 6 гадзін, або каля—150 км.

Каманда—3 чалавекі.

Узбраеньне—37-мм. пушка і 1 кулямёт у 2 вежах.

Праходнасьць—клірэнс—38 см., акоп—2 мм., брод—1 м, крутасьць—40° сьценка—70 см.

Запас патронаў—пушка 50, кулямёт—3000.

Надвор'е сухое і яснае, дарогі добрыя. Усход—4,00; захад—21,00. Ч.—час пачатку артпадрыхтоўкі.

## Выведка

У $16^{00}$ камандзір 10 с.п. з начальнікам штаба, камандзірам 4 а.п., камандзірам танкавага батальёна і камандзірамі стралковых батальёнаў (пасьля намёткі рашэньня і азнаямленьня з ёю гэтых камандзіраў) зрабілі рэкагнасцыроўку мясцовасьці з пунктаў: вышыня з адзнакай на гасьцінцы і вышыня на поўнач ад хмызьняку.

Рэкагнасцыроўка (чарцёж 2 і 3) разам з данымі, здабытымі раней баявой выведкай, прывялі камандзіра палка да вываду:

1. Перад фронтам палка—батальённы раён абароны В. (Варона), Г (Гусь), 92,6 справа—на А (Бусел) пункт супраціўленьня, зьлева—ф. Рахавік тое-самае, прычым апошні флянкіруе на поўнач.

2. За 92,5 нічога ня відаць, але магчыма разьмяшчэньне рэзэрваў праціўніка (палкавых) у раёне вышыні 89,8 могілак рускіх Паўночны Востраў.




2 палажэньне
к ч+1,00 (4.30)
3. пачатак атакі
танкаў

1р.(НПП) ч+0,55
2р.(НПП) ч+0,53
3р(ДПП) ч+0,47

ДППв
ч+0,52

Агонь артылерыі

дд ч+0,41

дд ч+0,50

дд ч+0,50

дд ч+1,00

Дымы

Палажэньне дымхвалі
к ч+0,45


Палажэньне дымхвалі
к ч+0,52


Чарц. 2.

Палажэньне ў ч+0,52:




Чарц. 3.

3, Назіраньне такім чынам толькі да грэбеня 92,6 і то нявыстарчальнае, за грэбенем-жа нічога ня відаць. Наадварот, пасьля аўладаньня 92,6 назіраньне робіцца глыбокім.

4. Мясцовасьць для дзействаў танкаў у паласе наступленьня палка даступная.

Камандзір палка рашыў:

1. Пры атацы пярэдняга краю наносіць удар: зьлева у сувязі з 6 с. д., якая б'е правым флянгам на пагост.

2. У першым эшалёне—2 батальёны, у другім—1.

3. Бліжэйшая задача батальёнаў 1 эшалёна аўладаць раёнам вышыні 92,6; далейшая—89,8—могілкі рускія.

2 эшалён разгортваецца з-за правага флянгу 1 эшалёна для захопу 89,8.

### Разьмеркаваньне танкаў і пастаноўка ім задач.

Камандзір танкавага батальёна па загаданьню камандзіра палка далажыў сваю думку аб разьмеркаваньні танкаў: „Тав. камандзір палка! 4 танкавыя роты, якія ёсьць у вашым распараджэньні, я лічыў-бы мётазгодным разьмеркаваць адну роту вылучыць у групу ДПП для зьнішчэньня агнявых сродкаў на 92,6; астатнія роты разьмеркаваць па роце на кожны батальён. Даданьне роты танкаў 2 эшалёну палка выклікаецца: адсутнасьцю танкавай групы ДД у паласе наступленьня палка і, значыць, неабходнасьцю мець сьвежы эшалён танкаў для дзействаў у раёне артпазыцыі—90, 1—Паўночны востраў".

Начальнік штаба прапанаваў: „Вылучыць у ДПП не адну, а дзьве роты: для зьнішчэньня агнявой сыстэмы на 92,6 і адваротных спадах і ў раёне 89,8 правей „Дзяцел": дзьве роты МПП дадаць паротна батальёнам 1 эшалёна".

Камандзір палка згадзіўся з думкай камандзіра танкавага батальёна і запытаў, як мяркуе камандзір танкавага батальёна выкарыстаць у далейшым, пасьля захопу вышыні 92,6, роту ДПП.

Камандзір танкавага батальёна адказаў: „Грэбень вышыня 92,6 павінен быць рубяжом аднаўленьня сувязі з пяхотай. Для НПП—з камбатамі і камротамі, а для ДПП—з кампалка. Пасьля аўладаньня 92,6 роту танкаў ДПП трэба адвесьці за 92,6 (зборны пункт). Яе больш выгодна пакінуць для зьнішчэньня контратакуючых часьцей, якіх можна чакаць з раёну гаёў, што на поўдзень усходні ад Астравок і з Паўночнага вострава. Гэта затрымка тым больш неабходна, што роту прыдзецца часткова аднаўляць, бо страты ў ёй няўхільны. Выкарыстаць яе ў перадзе танкаў НПП ня варта, бо няма адпаведных аб'ектаў, тым больш, што падтрымка артылерыі з захопам вышыні 92,6 паляпшаецца."

Камандзір палка загадаў начальніку штаба прыняць прапанову камандзіра танкавага батальёна ў адносінах разьмеркаваньня і вызначыў задачы:

1. Танкам ДПП: вылучыць у групу ДПП адну роту танкаў. Задача: да моманту пераходу ў атаку пяхоты і падаўленьня НПП агнявых кропак на пярэднім краю, атакаваць і зьнішчыць агнявыя кропкі на ўсходніх спадах вышыні 92, 6 і ў раёне кустоў на заходніх спадах гэтай вышыні. Кірунак руху ў атаку: П. дв. 1 км на поўдзень заходні ад м. Крынкі, лагчына, што ідзе да вышыні „Варона", вышыня 92/6. Пасьля выхаду танкаў НПП на заходнія спады вышыні 92,6 адыйсьці на зборны пункт—лагчына на ўсход ад 92, 6. Мець на ўвазе задачу: або падтрымку другога эшалёна палка або барацьбу з контратакамі праціўніка з раёнаў Паўночны востраў і Пагост.

2. Камандзіру артгрупы ПП:

а) да выхаду танкаў ДПП на лінію Б (Баклан),—Г (Гусь)—агонь па Г (Гусь), яе паўночнаму і паўночна-ўсходняму спадах, а потым перанос на 92,6;

б) пасьля дасягненьня грэбеня 92,6 агонь па кустох і гаі на поўдзень заходні ад 85,1 і задымленьне лагчыны каля могілак рускіх;

в) у час знаходжаньня ў раёне на захад ад вышыні 92,6 патрабуюцца стральба звычайнымі і дымавымі знарадамі па раёну 89,8 праз вышыні „Дзяцел";

г) мець на ўвазе неабходнасьць выяўленьня і зьнішчэньня процітанкавых гармат і падаўленьне батарэй праціўніка ў лагчынах на ўсход і захад ад Паўночнага вострава.

Начальніку штаба палка загадам узгадніць з суседзямі забесьпячэньне флянгаў атакі: з 11 с. п. ад 85,1 і на захад ад яе з 6 дывізыяй заходніх спадаў вышыні $^3/_4$ км на поўдзень ад 92,6.

## Выбар выходнага палажэньня для атакі танкаў ДПП і МПП і час яго заняцьця.

Начальнік штаба VI т.б. далажыў камандзіру танкавага батальёна рэзультаты выведкі.

Выходнымі пазыцыямі могуць быць толькі лагчыны з Карч. і П. дв. на поўдзень заходні ад м. Крынкі. Абедзьве яны нядобрыя, бо маскі невялікія па плошчы (агароды каля Карч. і сад. каля П. дв.). і могуць прыцягнуць увагу праціўніка і яго згрупаваны артылерыйскі агонь. Таму частку танкаў трэба разьмясьціць у адкрытай частцы лагчыны і замаскаваць масксеткамі.

Выходныя пазыцыі: правай роты НПП—раён Карч., для левай НПП—сад. П. дв., ДПП—лагчына паміж Карч. і П. Дв. для роты НПП 2 эшалёна—усходняя частка П. дв.

Шлях высоўваньня да выходных пазыцый: 1) Парэчча, Служкі пляц у м. Крынкі, Карч. для правай НПП і 2) Крынкі, П. дв.— для левай НПП і ДПП.

Адлегласьць—6 км. Пры заняцьці пазыцыі за адну гадзіну да расьсьвітаньня, г. зн. да 3 гадзін, трэба выступіць у $2^{00}$. Таму камандзір батальёна просіць камандзіра палка на час з $2^{00}$ да $3^{00}$ ачысьціць дарогу ад павозак, каб ня было затрымак і лішняга шуму, тым больш, што ноч цёмная, а ісьці трэба без сьвятла.

Апрача таго, неабходна ўмацаваньне маста цераз роў каля П. дв. для праходу танкам.

Камбат далажыў аб гэтым начальніку штаба с. п., які пасьля дакладу камандзіру палка павідаміў у загадзе скончыць згрупаваньне часьцей, асабліва артылерыі, да $1-^{30}$.

### Работа начальніка штаба стралковага палка

(Чарцёж 4 і 5)

Перш чым пачаць складаньне плянавай табліцы, начальнік штаба разам з камандзірам танкбата і камандзірам артгрупы ПП або яго начальнікам штаба і начхімам складае разьлік атакі танкаў і пяхоты і прыкрыцьце яе артагнём і дымам.

Для гэтага ён улічвае: рашэньне кампалка аб моманце атакі даных аб'ектаў ДПП і НПП, скорасьць руху і атакі танкаў і пяхоты, адлегласьць ад выходных пазыцый танкаў і лініі, выходнай для наступленьня (атакі) пяхоты, а таксама глыбіню атакі танкаў ДПП.

1. Выходнае палажэньне для атакі (яно-ж для наступленьня) пяхота займае к $4^{00}$ пад прыкрыцьцем артпадрыхтоўкі, высоўваючы на выходнае палажэньне танкі НПП і агнявыя сродкі, забясьпечаныя выведкай, к $24^{00}$.

2. Пяхота пераходзіць у атаку тады, калі танкі ДПП дасягнуць усходніх спадаў вышыні 92,6, а МПП пачнуць рабіць праходы ў дроце па пярэдняму краю і пачнуць зьнішчаць агнявыя кропкі там-жа. Гэта палажэньне пяхоты і танкаў у Ч.+1,00 (4,30) момант атакі пяхоты. Артпадрыхтоўка пачынаецца ў Ч. (3,3) (чарцёж 4).

Пытаньне да камандзіра танкавага батальёна:

„Тав. Камбат, з якой скорасьцю танкі могуць ісьці да пярэдняга краю і ад пярэдняга краю да 92,6?"

Адказ камандзіра танкбата:

„Тав. начальнік штаба! Скорасьць да пярэдняга краю—15 км, бо мясцовасьць сапсавана ямамі і трэба ісьці па разьмяшчэньню

пяхоты, пасьля пярэдняга краю—10 км, зьмяншэньне скорасьці з-за акопаў і ям ад нашых знарадаў".

3. Значыць: пачатак атакі танкаў ДПП у Ч.+0,47 або акругляючы Ч.+0,45 (Ч.+1,00—0,04—0,09=Ч.+0,47) [1]).

Пачатак атакі танкаў НПП: правай роты ў Ч.+1,00—0,04, або акругляючы Ч.+0,55, левай роты Ч.+0,53.

4. Задачы артылерыі: з пачаткам руху ў атаку танкаў ДПП (Ч+0,47, па загаданьню) агонь на падаўленьне агнявых кропак на пярэднім краю (Варона, Гусь) і назіраньня на вышыню 92,6 (агонь ад Ч.+0,47—Ч.+0,50); пры падыходзе танкаў ДПП да пярэдняга краю (Ч+0,52) перанос агню на ўсходнія спады і на вышыню 92,6 (ад Ч.+0,50 да Ч.+1,00—па назіраньню за рухам танкаў); пасьля дасягненьня танкамі ДПП усходніх спадаў 92,6 агонь на 89,8, прав. Дзяцел.

5. Пытаньне да начхіма палка:

„Тав. Начальнік хімслужбы: кірунак і скорасьць ветру на раніцу, якія чакаюцца?"

Адказ начхіма:

„Тав. Начальнік штаба! Цяпер вецер усходні, перамены кірунку не чакаецца, скорасьць—3 м/сэк.".

Начальнік штаба: „Кампалка загадаў прыкрыць дымапускам рух танкаў у атаку. Вам арганізаваць дымапуск з лініі Карчма—Пдв. Канец дымапуску перад пачаткам руху ў атаку ДПП ў Ч.+0,45. Працягласьць 10 мінут".

Увага. Пры працягласьці хвалі ў 10 мінут і скорасьці ў 3 м/сэк=10 км² глыбіня хвалі складзе каля 2 км, і такім чынам да Ч+0,45 яна закрые пярэдні край. Танкі ДПП рухаюцца за хваляй, але ня ў хвалі; к R+0,52, моманту дасягненьня танкамі ДПП пярэднага краю, дымахваля закрые вышыню 92,6.

Начальнік штаба: „Тав, Камандзір артгрупы ППІ Майце на ўвазе, што пры спрыяючых умовах будзе зроблены дымапуск па гэтаму разьліку і вам прыдзецца перад дымапускам адкрыць агонь па пярэдняму краю, а ў далейшым рашаць пастаўленыя артылерыі задачы без назіраньня".

Непасрэдная падтрымка атакі танкаў ускладаецца на кінжальныя гарматы, якія дадаюцца батальёнам; задача зьнішчаць гарматы ПБА праціўніка, якія адкрываюць агонь па танках і разьмешчаны па пярэдняму краю.

---

[1]) Усе мінуты павінны быць акруглены да пятка; мы іх не акругляем для таго, каб разьлік быў ясны.

„Тав. камандзіры, гэтым выходным разьлікам кіруйцеся пры разьмеркаваньні і пастаноўцы задач вашым падначаленым.

Загад разам з плянавай табліцай атрымаеце праз 1 г. 30 м., г. зн. 19,30“.




(Чарцёж 4).

Пасьля гэтага начальнік штаба пачаў складаць плянавую табліцу для даданьня да загаду, які быў напісаны і прадстаўлены 1 П.Н.Ш.

Штаб 10 с. п. Крынкі 15. 7. 32. 1915.

**Баявы загад № 017 ап карта 42,000**

1. На вучастку 10 с. п. батальённы абарончы раён. Рэзэрвы праціўніка мяркуюцца ў раёне Паўночны востраў.

2. 4 с. д. раніцою 6. 7. атакуе праціўніка з бліжэйшай задачай аўладаць рубяжом, бязымяннай вышыні на поўнач ад 90,1 і далейшай—выйсьці на заходні бераг р. Слойка.

3. 10 с. п. з VI а. т. б. і 3 р. VII а. т. б. пры падтрымцы I і II/4 а. п.; і I/V а. п. РГК атакуе на вучастку: вышыня на гасьцінцы, кусты 1 *км.* на ўсход ад ф. Рахавік; бліжэйшая задача—аўладаць 89,8 прав., вышыня на поўдзень далейшая—раён 90,1, Паўночны востраў.

4. Справа—II с. п. з I і II р./VII т. б.; бліжэйшая задача—84,5 Астравок, разьмяжавальная лінія—схэма I.

Зьлева 18 с. п. 6 с. д. атакуе на пагост; бліжэйшая задача—бязымянныя вышыні ў 1 км на ўсход ад Пагост.

5. 1/10 с. п. з 1 р./VI т. б. 1 б. ПА 10 атакаваць на вучастку: вышыня на гасьцінцы і вышыня $^{3}/_{4}$ км на поўдзень ад яе, бліжэйшая задача—паўночна-заходнія спады 92,6, далейшая—89,8. Падтрымлівае 1/4 а. п.

Разьмежавальная лінія—Г. дв. (выключна), 92,6 (выключна) прав. (выключна).

6. II 10 /с. п. з 2 р./ VI т. б. 2 б. ПА 10 атакаваць на вучастку: вышыня, што $^{3}/_{4}$ км на поўдзень ад вышыні на гасьцінцы (выключна),—кусты: бліжэйшая задача—92,6, далейшая—прав. і вышыня на поўдзень ад прав. Падтрымлівае П/4 а. п., 1/V а. п. РГК і ПА 12.

7. III /10 с. п. з 3 р./ VII т. б. наступаць у кірунку 92,6.89,8 і, разгарнуўшыся ў сутыку I і II/10 с. п., аўладаць 89,8.

Пры разгортваньні падтрымліваецца ПА 10 с. п.

8. ПП. 10—1 і П/4 а. п. I/V а. п. РГК і ПА 12. Адказная паласа справа: бязымянная вышыня ў 1 *км.* на поўнач усходнюю ад разьвіліны гасьцінцаў 85,1, Г. дв., 90,1: зьлева Г. д. в. ф. Рахавік, Пагост. Дадатковы сэктар справа: 87,5, гай на поўнач ад 85,1, 84,5.

9. Танкі ДПП—3 р./VI т. б. Кірунак атакі—лагчына на поўнач заходнюю ад Г Дв. каля м. Крынкі, 92,6. Задача: падавіць кулямётную і процітанкавую абарону праціўніка на 92, 6 і адваротных спадах з кустамі.

10 Кампункт—на вышыні, што на гасьцінцы; у далейшым—92,6. 2-гі намесьнік—камбат III.

Д а д а т а к. Плянавая табліца.

Арыентырная схэма (не зьмяшчаецца).

*Камандзір палка.*

*Начальнік штаба.*

## Плянавая табліца атакі 10 с. п. 16. 7. 31.

Карта 42000

| Этапы / Баявое разьмеркаваньне | Артпадрыхтоўка ад Ч да $Ч+1^{00}$ | Ад пачатку атакі пяхоты да выхаду на рубеж 92,6 $Ч+1^{00}$ да $1+2^{00}$ | Да выхаду на рубеж 89,8, прав выш. «Дзяцел» |
|---|---|---|---|
| Пяхота | Займае выходнае палажэньне для наступленьня і атакі. Танкі НПП выступаюць: 1-я рота з раёну Карчма ў $Ч+0^{55}$, 2-я рота — з Г дв. — у $Ч.+0^{53}$ | І і ІІ батальёны вядуць бой за аўладаньне вышынёй 92,6 | І батальён вядзе бой за аўладаньне паўночнымі спадамі 89,8. ІІІ — прав., Дзяцел. ІІ—разгортваецца на 92,6 і вядзе бой за аўладаньне 89,8 |
| ПП10 | Д $Ч+0^{35}$. Зьнішчэньне агнявых кропак на пярэдняму краю (Варона і Гусь) і на Баллан; зьнішчэньне НП на 92,6. | Агонь па гаю Малы. 89,8, прав. Дзяцел. | Агнявое заражэньне—на Г. дв. на поўдзень ад Астравок, вышыні на поўнач усходнюю ад Паўночны востраў, усходняя ўскраіна Паўночны востраў |
| | З $Ч+0^{35}$—да $Ч+0^{50}$—суправаджэньне танкаў ДПП падаўленьнем агнявых кропак па пярэдняму краю да $Ч+1^{00}$—падаўленьне агнявых кропак каля краю Малы, НП на 92,6. | Забароненая зона—92,6 і кусты на адваротных спадах. | З разгортваньнем ІІІ батальёна перападначаліць ІІ/4 а. п. |
| Артгрупа ДД | Падаўляе батарэю праціўніка ў раёнах: на поўдзень заходні ад Астравов, на поўдзень заходні і на ўсход ад Паўночны востраў. | | Падрымліваюць перамену пазыцыі ўперад ПП |
| ДПП | Выступае з выходных пазыцый у лагчыне на поўнач ад Г. дв. каля м. Крынкі ў $Ч+0^{45}$ у кірунку—92,6 і к $Ч+1^{00}$ атакуе агнявыя кропкі на 92,6 | Зьнішчаюць агнявыя кропкі на 92,6 і ў раёне кустоў. Зборны пункт — лагчына на ўсход ад 92,6. | Атрыманьне новай задачы адпаведна абстаноўцы |
| Хімузвод | Пуск НД з лініі Карчма, Г. дв. ад $Ч+0^{35}$ да $Ч+0^{45}$. | Падрыхтоўка дымапуску з лініі кустоў на захад ад 92,6 | Зборны пункт—паўднёвыя кусты на захад ад 92,6 |

**К і р а ў н і ц т в а** КП—бязымяная вышыня на гасьцінцы. КП—92,6.

Сыгналы дасягненьня рубяжоў: пяхота . . . . . . . . . . . . . . . . . сэрыя чырв. ракет;
танкамі ДПП . . . . . . . . . . . . сэрыя чорн. ракет;
танкамі НПП . . . . . . . . . . . . сэрыя зялён. ракет;
зварот на зборныя пункты ДПП . . . . белыя ракеты.

Спыненьне агню: для ДПП—белыя і чорныя, для пяхоты—белыя і чырвоныя.

Баявыя данясеньні: Выступленьне ў атаку. Дасягненьне 92,6. Дасягненьне 89,8, прав.

*Нач. штаба 10 с. п.*

## Работа камандзіра танкавага батальёна.

У задачы камандзіра танкавага батальёна ўваходзіць:

1. Арганізацыя падрыхтоўкі атакі:

а) арганізацыя выведкі праціўніка і мясцовасьці ў адносінах вырабу выходных пазыцый, шляхоў руху з чакальных на выходныя пазыцыі;

б) прыняцьце ўсіх захадаў да скрытнага заняцьця выходнай пазыцыі;

в) адказы на пытаньні камандзіру палка (калі ён знойдзе патрэбным задаць іх) па выкарыстаньню танкаў; у адносінах разьмеркаваньня іх, задач танкам ДПП і ўказаньняў як камандзірам стралковых, так і сваіх рот МПП аб найбольш выгодным і адказваючым ідэі рашэньня і пляну камандзіра палка выкарыстаньні танкаў НПП у батальёнах.

2. Кіраўніцтва боем танкавых рот у адносінах,

а) удзелу ў пастаноўцы новых задач групе ДПП;

б) назіраньня за правільным выкарыстаньнем танкаў НПП у батальёнах.

3. Арганізацыя забясьпечаньня і аднаўленьня рот у баі, г. зн. манэўраваньне ротай аднаўленьня, забясьпечаньня і рамонту. Тут асноўнымі пытаньнямі зьяўляюцца: а) рамонт падбітых танкаў, б) хуткая замена рэзэрвнымі ўзводамі страт у ротах, в) замена раненых, кантужаных або вельмі самлелых ад бэнзынных і масьляных газаў, г) папаўненьне агняпрыпасаў (іх можна атрымаць і ад пяхотных падразьдзяленьняў), д) эвакуацыя ў тэхнічную базу ўсіх падбітых танкаў, якія ня могуць быць пушчаны ў бой безадкладна са зборных пунктаў.

4. Арганізацыя канчатковага збору танкаў пасьля бою.

## Работа камандзіра танкавай роты.

Яна разьбіраецца ў далейшых прыкладах. Мы толькі адцягняем розьніцу гэтай работы ў двух выпадках: 1) калі рота дзействуе згрупавана, камандзір вядзе роту ў бой, 2) калі рота разьмяркоўваецца паўзводна паміж ротамі або батальёнамі, тады роля камандзіра роты зводзіцца да назіраньня, удзелу ў пастаноўцы новых заданьняў і ў арганізацыі забясьпечаньня.

Першы выпадак зьяўляецца больш зручным, асабліва калі няма часу даводзіць да адпаведнай чоткасьці арганізацыю ўзаемадзейства танкістаў і пяхоты да стралковых рот уключна.

## Баявое разьмеркаваньне танкаў.

Пад баявым разьмеркаваньнем танкаў мы разумеем разьмеркаваньне агульнавайсковым (пяхотным) камандзірам усіх танкавых сіл данай часьці або злучэньня па сваіх падразьдзяленьнях і па задачах, якія танкі павінны выканаць.

Так, баявое разьмеркаваньне танкавых сіл, даданых стралковаму корпусу, будзе канчацца вылучэньнем танкаў у групы ПП, г. зн. даданьнем танкаў стралковым дывізыям і часам вылучэньнем групы танкаў ДД, калі танкі ёсьць у дастатковай коль-




Чарцёж 5

касьці і калі артылерыя групы ДД таксама аб'яднана ў руках камандаваньня корпуса.

Стралковая дывізыя вытварае сваё баявое разьмеркаваньне танкаў шляхам даданьня танкаў у групы ПП стралковым палкам 1 эшалёна і ўтварэньня групы танкаў ДД, калі ў стралко-

вым корпусе такая група не арганізавана і калі артылерыя групы ДД дзействуе ў саставе і па ўказаньнях камандзіра стралковай дывізыі.

Калі група танкаў ДД далучана стралковым корпусам, то стралковая дывізія можа заняцца толькі вылучэньнем групы танкаў ПП, прычым гэту апошнюю яна можа падзяліць на танкі ДПП і НПП, хоць гэтага падзелу стралковая дывізія можа і не рабіць, а даць зрабіць гэта стралковым палком, самой-жа абмежавацца толькі разьмеркаваньнем танкаў па стралковых палкох.

Ці вылучыць стралковай дывізіі групу танкаў ДПП ці ня вылучаць—будзе залежыць ад разьмеркаваньня артылерыі шырыні фронту наступленьня, стану пазыцыі абароны праціўніка і наяўнасьці часу. Калі група артылерыі ПП аб'яднана ў стралковай дывізіі, то можна назначаць танкі і ў групу ДДП, бо паміж танкамі ДПП і артылерыяй ПП павінна быць пастаянная ўвязка дзействаў, каб, па-першае, разумна разьмеркаваць усе сілы, падтрымліваючыя пяхоту, і, па-другое, не паразіць артылерыяй свае танкі, калі яны будуць выконваць свае задачы ў глыбіні.

Шырыня фронту наступленьня аказвае свой уплыў і на вылучэньне танкавай групы ДПП. Калі фронт вузкі, то такая танкавая група павінна быць арганізавана ў саставе стралковай дывізіі, каб магчыма лепш увязаць дзействы ўсіх радоў войск на даным малым па памерах вучастку і, значыць, моцна насычаным сродкамі барацьбы. А чым апошніх больш, тым цяжэй унікнуць перамешваньня і поўнай увязкі дзействаў, усіх часьцей. Таму ў такіх выпадках патрэбна цэнтралізацыя дзействаў, каб апошнія былі лепш увязаны. Таму пры наступленьні на вузкім фронце групы танкаў ДПП павінны арганізоўвацца не ў палкох, а ў дывізіі.

Вылучэньне групы танкаў ДПП таксама залежыць ад стану пазыцыі абароны. Калі ў глыбіні ($2^1/_2$—2 км.) апошняй знаходзіцца яскрава акрэсьлены рубеж, які праходзіць праз усю хоцьбы і шырокую паласу наступленьня стралковай дывізіі, і які трэба падавіць танкамі ДПП, перш чым пусьціць пяхоту ў атаку, то на гэты адзіны рубеж патрэбна і адзіная група танкаў ДПП, г. зн. арганізаваная ў суставе стралковай дывізыі. Калі-ж ў глыбіні абароны вылучаецца два або некалькі рубяжоў, ачагоў або аб'ектаў, якія не становяць адзінага цэлага, і разьмешчаны ў палосах наступленьня стралковых палкоў, то ў гэтых выпадках групы танкаў ДПП павінны быць арганізаваны ў саставе сралковых палкоў.

Трэба, вядома, яшчэ падкрэсьліць, што вылучэньне танкаў у групы ДПП залежыць у вялікай меры ад ступені насычэньня танкамі. Ясна, што чым апошвіх будзе менш, тым імавернасьць утварэньня групы ДПП будзе ніжэй.

У стралковым палку танкі разьмяркоўваюцца паміж батальёнамі і могуць вылучацца ў групы ДПП. Утварэньне апошняй будзе залежаць ад прычын, разабраных вышэй.

Пры разьмеркаваньні танкаў паміж батальёнамі трэба выходзіць з імкненьня мець больш танкаў для барацьбы на пярэднім краю абароны, таму танкі галоўным чынам трэба дадаваць батальёнам 1 эшалёна. Разам з тым ня трэба забываць і барацьбы ў глыбіні абарончай паласы.

## Рота танкаў у ДПП.

(Чарцёж 6, 7 і 8).

У $17^{15}$ кампалка 10 паставіў задачу камандзіру 3 р. VI т. б., выкліканаму ў штаб палка:

„Ваша рота складае групу ДПП. Задача: да пачатку атакі пяхоты зьнішчыць кулямёты і процітанкавыя гарматы ў раёне ўсходніх спадаў вышыні 92,6 і кустоў на яе заходніх спадах. Выходная пазыцыя па ўказаньню камбата VII т. б. Кірунак руху—лагчына на поўнач ад Г. дв. каля м. Крынкі, 92,6. Зборны пункт—лагчына на ўсход ад 92,6. Час выступленьня з выходных пазыцый, указаньні па сувязі—атрымаць у НШ. У далейшым мець на ўвазе задачы барацьбы з контратакамі праціўніка.

Камандзір 3 т. р., даведаўшыся ў камандзіра VI т. б. аб выходнай пазыцыі, да $18^{30}$ правёў з камузводамі выведку праціўніка, баявога курсу і выходных пазыцый і на месцы выходных пазыцый паставіў задачы:

1. Рота выступае ў $2^{00}$ з Парэчча па дарозе Служкі, Крынкі і Г. дв. і да $3^{00}$ займае выходную пазыцыю тут—у лагчыне на поўнач ад П. дв.

2. Час выступленьня з выходнай пазыцыі будзе ўказаны дадаткова-

3. Баявы курс роты—лагчына, паўднёвыя спады вышыні „Варона", па лагчыне на поўдзень ад гасьцінцу на 92,6 і далей на яе заходнія спады.

4. Парадак атакі[1]) першай роты да лагчыны на поўнач ад „Гусь" перадбаявы парадак—накіравальны ўзвод II ідзе ў разгорнутым страі; I і III узвод—лініі ўзводных калён у 100 *м*. ззаду за II узводам; інтэрвалы паміж узводамі—150 м; дыстанцыі паміж машынамі—50 *м*. У лагчыне на поўнач ад „Гусь" па майму сыгналу „разгарніся" рота разгортваецца; усе узводы прыймаюць разгорнуты строй і атакуюць: I узвод паўночна-ўсходнія спады 92,6 і кусты на поўнач заходнюю ад яе, II узвод паўднёвыя спады 92,6 і кусты на захад ад 92,6. Інтэрвалы паміж машынамі—50 *м*., паміж узводамі—200—250 *м*. III узвод уступам назад у 200 *м* за I і II узводамі. Я—з II узводам.

5. Пасьля зьнішчэньня кулямётаў у раёне кустоў рота вяртаецца ў лагчыну на ўсход ад 92,6—на зборны пункт.

6. Арганізацыя аднаўленьня распараджэньнем камбата; вось баявога забясьпечаньня і сувязі—па баявому курсу.

7. Сыгналы—дадаткова.

8. Мой намесьнік—камандзір I узвода.

---

[1]) Магчымыя страі і парадкі танкавых падразьдзяленьняў глядзі чарцяжы 40 41, 42 у канцы кнігі.


100м
II Узв.
Разгортваньне ў баявы парадак
III
II
200м
Перадбаявы парадак
II зв.
Камроты
III
Узводы
I
100м
200м

Чарц. 6.



I Б
89,8
Паўн. Востраў
Прав
III Б
3р. VI ас. б
II Б
92,6
Дзяцел
Пагост
Контр-атакуючы б-н пр-ка
Паўдн. Востраў
0
1 км


Чарц. 7.



Астравок
Л. дв
90,1
89,8
11 С. П.
м. КРЫНКІ
Паўн Востраў
89.8
Прав.
Карч.
92,6
10 С. П.
Б-Н
Крынкі
Пагост
Л. дв
Рахавік
6 С.Д.
Пях. узвод
Кул. -
пушка
Б-Н
Паўдн. Востраў


Чарц. 8.

## Рух да раёну атакі.

Рота была ў поўнай гатоўнасьці. Было $4^{10}$. Ішла ўжо 50-мінутная артылерыйская падрыхтоўка. Праціўнік адказваў артагнём па лагчыне на поўнач ад Г дв. Па тэлефону было атрымана загаданьне: „Крэйсэр дзевяноста два", што па ўмове азначала танкам выступіць уперад.

Рота, разгорнутая ў перадбаявы парадак, рушыла з саду па лагчыне ў кірунку моцнага ачага разрываў на вышыню В (Варона). Пры пераходзе танкаў праз перадавыя часьці пяхоты артылерыя перанесла агонь на Г (Гусь) і 92,6. Над В (Варона) працягваў вісець дым і пыл ад толькі-што перанесенага адсюль шквалу агню.

Мінаючы гэту вышыню па паўднёвых яе спадах, танкавая рота са скорасьцю да 12 км у гадзіну накіравалася на вышыню 92,6. Па дарозе I узвод зьнішчыў станкавы кулямёт у лагчыне Танкавая. Вышыня Г (Гусь) на поўдзень ад танкаў успыхвала чорнымі і белымі клубамі дыму. Разрывы ўперадзе на вышыні 92,6 карэктавалі баявы курс роты. Па сыгналу флажкамі і радыё з танка камандзіра роты ўзводы разгарнуліся і пайшлі ў атаку на 92,6. I узвод на паўночна-усходніх спадах 92,6 каля гасьцінцу наскочыў на кулямёты, але не пасьпеў іх падавіць, III узвод заўважыў іх і зьнішчыў кулямётным агнём.

Камандзір III узводу убачыў, як каля I і II узводаў сталі ірвацца знарады і ў 3 танку II узвода была падбіта вусеніца.

Камандзір III узвода пераканаўся, што гэта адкрыла агонь процітанкавая пушка з лагчыны на захад ад вышыні Гусь; ён адкрыў агонь па ёй, але падыйсьці да яе ня мог з-за абстрэлу гаўбічнымі знарадамі сваёй артылерыі. Тое-ж самае зрабіў і падбіты танк, якому нічога не заставалася, як выкарыстаць свой нярухомы стан для інтэнсыўнага агню з мэтаю дасягненьня найбольшага рэзультату ў кароткі тэрмін: бо яго маглі ў любую мінуту дабіць канчаткова.

## Дзействы ў раёне атакі.

Агонь артылерыі перакінуўся на вышыню на поўдзень ад 92,6. Рота прарвалася цераз дрот і ўварвалася ў разьмяшчэньне праціўніка: I узвод падавіў некалькі агнявых кропак праціўніка на паўночна-усходнім спадзе, а III узвод зьнішчыў два станкавыя кулямёты на поўдзень ад вышыні. I і II узводы пераваліліцераз грэбень вышыні, зьнішчыўшы два назіральныя пункты, адкуль было кінута ў танкі некалькі гранат. III узвод трапіў пад агонь проціганкавай пушкі з той-жа лагчыны: знарадам быў зьбіты кулямёт. Камандзір узвода заўважыў пушку і павярнуў на яе свой узвод, адкрыўшы пры гэтым агонь з усіх пушак і кулямётаў. Гармата зрабіла яшчэ да дзесятку стрэлаў і была зьнішчана ўзводам. Павярнуўшы зноў на вышыню 92,6, узвод на-

ткнуўся на групу агнявых кропак на паўднёва-заходніх спадах вышыні 92,6 і хутка дагнаў роту, якая зьнішчыла ў кустох адну процітанкавую гармату.

Калі танкі павярнулі на поўдзень, яны трапілі пад агонь адначасова адной гарматы з паўднёвых кустоў і двух 76 мм гармат з раёну сутыку дарог на поўдзень узходні ад вышыні 89,8.

У аднаго танка II узводу была прабіта дробнакалібравай гарматай гарматная вежа і забіта два чалавекі, у другога танка I узводу ўзрывам пушачнай гранаты каля вусеніцы былі перабіты каткі. Агнём з тылу быў падбіты апошні танк II узводу, атрымаўшы прабоіну і ўзрыў у машынным аддзяленьні.

Аднак ён загасіў агонь, безадкладна павярнуў вежу і адкрыў агонь па процітанкавай дробнакалібравай пушцы з раёну могілак рускіх; яна працягвала весьці агонь па I узводу і тым сябе выявіла. Між тым I узвод, рухаючыся па ўзятаму курсу, атакаваў дробнакалібравую пушку на краю паўднёвых кустоў.

Камандзір роты, трапіўшы пад агонь узвода палкавых пушак павярнуў да III узводу, які ў гэты час, пасьля зьніщчэньня рэзэрву праціўніка ў паўднёвых кустох, атакаваў два станкавыя кулямёты на поўнач ад паўднёвых кустоў, прапушчаныя I узводам.

Дзьве батарэі праціўніка адкрылі інтэнсыўны агонь па раёну паўночных і паўднёвых кустоў. Наша артылерыя трымала пад абстрэлам вышыню 89,8 і могілкі рускія.

У гэты-ж час зьявіліся на грэбені 92,6 танкі суправаджэньня пяхоты. Рота танкаў ДПП адыйшла на ўсходнія спады вышыні 92,6. Рэзультатам яе дзейства было падаўленьне ў асноўным супраціўленьня срудшанца[1]) на вышыні 92,6, зьнішчэньне (быў разагнаны) рэзэрва праціўніка пазбавіла яго магчымасьці контратакаваць часьці, што ўварваліся на вышыню 92,6, і, апрача гэтага, былі зьнішчаны тры процітанкавыя і дзьве палкавыя гарматы. Далей па шляху былі падаўлены і зьнішчаны 4 станкавыя кулямёты. Процітанкавая пушка ў лагчыне на поўнач усходнюю ад 92,6 была падаўлена, але ня зьнішчана і ў сваю чаргу падбіла, як пасьля высьветлілася, яшчэ два танкі з 2 роты, якая падтрымлівала II (левы) батальён.

Танкі НКП уварваліся ў кусты і дабілі ўцалеўшых абаронцаў вышыні 92,6. У гэты-ж час пяхота выйшла на вышыню 92,6. Пасьля чаго танкі НПП пад моцным артылерыйскім агнём праціўніка адыйшлі за 92,6.

## Рашэньне далейшай задачы батальёнаў.

Праз паўгадзіны пасьля адыходу танкаў за вышыню 92,6 яна была цьвёрда занята пяхотай, падцягнуты кулямёты і батальённыя пушкі, перамясьціліся ўперад перадавыя назіральнікі артылерыі, падцягнуты 2-і эшалён палка. Прыбыўшы на

[1]) Срудшанцы—цэнтральныя ўмацаваньні батальённых вучасткаў.

вышыню 92,6, камандзір палка загадаў безадкладна працягваць атаку, што ўжо і было зроблена, бо камандзір II батальёна загадаў танкам безадкладна атакаваць вышыню Д (Дзяцел) на поўдзень ад 89,8.

II с. п. вёў бой у гаёх на ўсход ад Астравок, захапіўшы вышыню 85,1.

18 с. п. (6 с. д.) вышаў на вышыню на поўдзень ад 92,6.

З роце танкаў было загадана: на вышыні 92,6 разгортваецца 2-і эшалён палка (III батальён) для ўдару на вышыню 89,8 і аўладаньне ёю; быць гатовым садзейнічаць яму ў зьнішчэньні контратакуючых часьцей праціўніка, якія чакаюцца або з раёну Астравок, п. дв., або паўднёвай часткі Паўночны востраў. Зборны пункт за вышынёй на ўсход ад паўднёвай ускраіны гэтага паселішча. Зборны пункт пры няўдачы—паўднёвыя кусты. Выкананьне па ўласнай ініцыятыве.

### Зьнішчэньне котратакуючага батальёна праціўніка

Часьці 10 с. п. к $7^{00}$ дасягнулі: I батальён—заходніх спадаў вышыні 89,8, прычым па лагчыне на захад ад вышыні выведчыя аддзяленьні III батальёну выявілі сьляды ад пасьпешнага закопваньня мін. II батальён заняў вышыню на ўсход ад паўднёвай ускраіны Паўночны востраў.

Танкі панесьлі страту: I рота, узышоўшы на грэбень на поўнач заходнюю ад 92,6, трапіла пад агонь двух процітанкавых пушак і захавала толькі 5 танкаў, якія садзейнічалі ўдару трэцяга батальёна на 89,8; 2-ая рота страціла два танкі на міннай загародзе і два—ад агню з паўднёвай ускраіны Паўночны востраў.

Артылерыя адкрыла агонь па Паўночны востраў.

II-с. п., увёўшы 2-гі эшалён, вёў бой за вышыню 84,5 і Астравок.

6 с. д. была спынена моцным агнём на ўсходніх спадах лагчыны на поўдзень ад вышыні Д (Дзяцел).

У гэты час праціўнік, адкрыўшы моцны артагонь па вышынях на ўсход ад паўднёвай ускраіны Паўночны востраў і 89,8, кінуў у контратаку да батальёну пяхоты з Паўднёвы востраў па лагчынцы на могілках рускіх і з раёну Пагост на вышыню на ўсход ад паўднёвай ускраіны Паўночны востраў (чарцёж 7).

Камроты 3/VI т. б. на 92,6 атрымаў загад ад кампалка:

„III батальён з ротай танкаў атакуе Паўночны востраў. Задача вашай роты—атакаваць у кірунку 92,6 пагост і зьнішчыць контратакуючую пяхоту у раёне на ўскод ад Пагост. Зборны пункт—паўднёвыя кусты на захад ад 92,6. У далейшым мець на ўвазе забясьпечаньне левага флянгу II батальёну. Атаку падтрымлівае $^{1}/_{4}$ а. п.“

Камроты сыгналам выклікаў камузводаў на вышыню 92,6 і паставіў задачу:

„Полк разьвівае ўдар правым флянгам, але падпадае пад контратакі да батальёну з боку Пагост і лявей (паказвае рукой). Нашай роце загадана: зьнішчыць контратакуючую пяхоту, а ў далейшым забясьпечваць левы флянг II батальёну.

Баявы курс—92,6 паўднёвыя кусты, Дзяцел, Пагост.

Баявы парадак разгорнуты: III узвод—галаўны і накіравальны; II узвод—ззаду ў 200 м., I узвод—уступам зьлева назад на 200 м. да III узвода.

Зборны пункт—паўднёвыя кусты на захад ад 92,6. Я—з 3-м узводам“.

Разбор. Мы гэтым прыкладам хацелі паказаць тэхніку выкананьня сваёй задачы ротай танкаў ДПП і тыя вялікія цяжкасьці, якія выпадаюць на яе долю пры дзействах бяз сувязі з пяхотай.

Разьбярэм асноўныя пытаньні баявой работы ДПП.

Шлях да раёну дзействаў павінен быць пройдзены як мага хутчэй без затрымак. У гэтых адносінах ДПП не павінна затрымлівацца зьнішчэньнем агнявых сродкаў на шляху, апрача тых, што непасрэдна наносяць ёй шкоду (процітанкавых). Разьлічваць цалкам на артылерыю ня прыходзіцца: бязумоўна, што і пад абстрэлам артылерыі (страляючай па плошчы) процітанкавая гармата можа ўцалець і весьці агонь. У той-жа самы час агонь сваёй артылерыі па гэтаму раёну можа не дазволіць прыбліжацца к гэтай гармаце да яе зьнішчэньня сапраўдным агнём (за 300 м). У нашым прыкладзе гармата ў лагчыне на поўдзень ўсходні ад 92,6 ўцалела пад агнём артылерыі і танкаў і здолела падбіць адзін танк з ДПП і два танкі з НПП.

Выгодна, каб шлях да раёну атакі ішоў па вузкаму агнявому вучастку (па лагчыне). Але ці выгодна пускаць ДПП у паласе, слаба занятай пяхотай працiўніка? Відавочна, што нявыгодна ў тым сэнсе, што ў ёй можа быць артылерыйскі калідор—процітанкавы вучастак—танкі могуць наткнуцца на сродкі ПТА раней, чым яны дасягнуць свайго першага аб‘екту. Такім процітанкавым раёнам і была так званая „Танкавая“ лагчына. Але ў даным выпадку выбару іншых ня было, бо больш паўднёвы баявы курс ішоў праз равок, непраходны для танкаў, а браць яшчэ больш на поўдзень азначала-б трапіць пад агонь з суседняга вучастку.

Які быў раён атакі: па фронце ён быў каля 1 км. і ў глыбіню некалькі больш, г. зн. зусім дастатковы для атакі роты. Паглыбляць яго ня мела сэнсу з-за цяжкасьці падтрыманьня танкаў пры атацы рубяжу 89, 8 прав. Дзяцел артагнем па небясьпечных у процітанкавых адносінах раёнах: Астравок і Паўночны востраў. Абарона была створана за працiўніка аб‘ектыўна (чарцёж 8), г. зн. танкі былі пастаўлены ў зусім рэальную абстаноўку, якая асабліва цяжка для іх склалася, калі яны трапілі пад скрыжаваны агонь дзьвюх процітанкавых і дзьвюх палкавых пушак пры адсутнасьці дапамогі пяхоты (на яе, як ДПП, яны не

разылічваюць) і артылерыі; апошняя аказвала яе да 92,6 і часткова далей, вядучы назіраемы агонь па 89,8. Тут-жа натуральна падкрэсьліць вострую неабходнасьць кожнаму ўзводу і кожнаму танку ведаць, з аднаго боку, задачы (баявы курс) роты, а з другога—безадкладна праяўляць патрэбную ініцыятыву.

Бязумоўна, што танкі маглі-б мець яшчэ большыя страты. Мы іх паменшылі, каб паказаць да канца работу танкаў ДПП.

Заняцьцем раёну 89,8 Паўночны востраў, могілак рускіх полк выконваў сваю далейшую задачу, якая заключаецца ў зьнішчэньні ўдарамі і агнём супраціўленьня палкавога рэзэрву праціўніка. Зусім натуральна паставіць роту ДПП у 2-гі эшалён з тым, каб нанесьці магутны ўдар праціўніку, які паспрабуе перайсьці ў контратаку.

Задачы зьнішчэньня контратакуючай групы праціўніка з раёну Паўднёвы востраў камандзір 3-й роты рашыў так, што накіраваў танкі амаль у лоб контратакуючай пяхоце, замест таго, каб глыбей ударыць па флянгу.

Гэта выклікалася тым меркаваньнем, што пры больш паўднёвым баявым курсе танкі трапілі заўчасна пад агонь праціўніка з раёну Паўднёвы востраў і вышыні ў паўкілёмэтры на поўнач усходнюю ад яго. З другога боку, нявыгода лабавога ўдару часткова адхілялася зьяўленьнем танкаў у разьмяшчэньні сваёй пяхоты, што павінна было-б падняць яе дух. Потым танкі, зьяўляючыся на фронце контратакуючай пяхоты праціўніка, не рызыкавалі трапіць пад агонь агнявых процітанкавых сродкаў, якія забясьпечваюць флянгі пяхоты.

Адсутнасьць ДД адчулася ў тым, што артылерыя праціўніка ўцалела, і палку прышлося энэргічна атакаваць як 89,8, Дзяцел, так у далейшым і Паўночны востраў,

У нашым прыкладзе разьмяркаваньне танкаў абгрунтоўвалася наступнымі меркаваньнямі: група ДД ня гледзячы на значны лік танкаў (два батальёны на дывізыю) ня была вылучана з-за нявыгоды атакі ў раёне, маючым такую перашкоду, як Паўночны востраў, які мае флянгавы агонь ад Астравок і балота.

З прычыны гэтага камдыв даў лішнюю роту танкаў 10 с. п. для аўладаньня раёнам Паўночны востраў і 90,1.

У 11 с. п. было дадзена толькі дзьве роты, бо па ўмовых мясцовасьці (закрыцьці) арганізаваць групу ДПП ня мела сэнсу.

У 10 с. п. камандзір палка дадаў у 2-гі эшалён палка 4-ю роту танкаў. Гэта тлумачыцца ўмовамі абстаноўкі і адсутнасьцю ДД, таму становіць сабой некаторае адхіленьне ад нармальнай схэмы атакі; ДД, ДПП і НПП, эшалёнаваны толькі ў мэжах стралковых батальёнаў 1 эшалёну.

## Стралковы полк з ротай танкаў у наступленьні на праціўніка, які абараняецца

### Абстаноўка

75 с. п. з даданай ротай лёгкіх танкаў, наступаючы з поўдня на поўнач, к вечару 30. 7 падышоў да пазыцыі галоўнага су-




Чарцёж 9.

праціўленьня праціўніка каля вёскі Саломенка і заняў палажэньне, указанае на чарцяжы 9. Танкі ў баі ня ўдзельнічалі і на працягу ночы перайшлі па-ўзводна ў раёны Сял. дв. і могілкі каталіцкія. Артылерыйская падрыхтоўка пачынаецца а 6-й гадзіне, атака—а 7 гадзіне 31. 7.

Задача 75 с. п.—зьбіць праціўніка і заняць раён: вышыня 104,3 і 108,3, потым Лайгаболы, працягваючы адкідаць праціўніка далей на поўнач.

Справа наступае 74 с. п. зьлева—36 с. д.

Па даных паветранай выведкі, пошукаў і паказаньня палонных вядома, што праціўнік умацаваўся ў раёне вышынь з млынам і з адзнакай 100,1 дрот у 2 калы, але з прамежкамі. Вышыні 104,3 і 108,3 маюць суцэльны дрот у 2 калы; у вёсцы Саломенка ёсьць процітанкавыя перашкоды.

### Рашэньне камандзіра палка

У $4^{00}$—г. 31.7 камандзір 75 с. п. знаходзіўся на вышыні 93,4. Сюды-ж прыбылі і камандзір П. А. 75 с. п., камандзір групы ПП— 75 і камандзір танкавай роты. (Чарцёж 10)

З пытаньняў, заданых апошнім і з асабістага назіраньня камандзіру палка было вядома, што з прычыны невялікай колькасьці назіральных пунктаў і дрэннага агляду з іх пяхота можа быць падтрымана артылерыяй без перамены нззіральных пунктаў толькі да лініі вышынь з млынам—100,1. Для падтрыманьня пяхоты пры атацы ёю вышыні 104,3 і 108,3 трэба будзе перанесьці большасьць назіральных пунктаў уперад.

Мясцовасьць дазваляе выкарыстаць танкі ва ўсёй паласе. Перашкоду становіць толькі пярэдні край—вёска Саломенка і Г. дв.

Выходныя пазыцыі знаходзяцца на адлегласьці $^3/_4$ км ад пярэдняга краю. Паласа, па якой наступае полк, адкрыта, і танкам прыдзецца рухацца з выходных пазыцый у атаку па мясцовасьці, якая дае праціўніку магчымасьць шырокага выкарыстаньня процітанкавых гармат. Барацьба з апошнімі зьяўляецца вельмі цяжкай па ўмовах назіраньня.

Выходзячы з гэтага, камандзір палка прышоў да наступных вывадаў[1]): мацней за ўсё ўмацаваны вышыні 104,3 і 108,3, і ў гэтым раёне будзе найбольш цяжкая барацьба з праціўнікам; 2) пры атацы пяхотай вышынь 98,0, 98,7 і потым з млынам і 100,1 яна можа расстрэльвацца кулямётным агнём з вышынь 104,3 і 108,3, з якімі нашай артылерыі весьці барацьбу будзе цяжка да перанясеньня сваіх назіральных пунктаў уперад, хоць-бы ў раён вышынь 98,0, 98,7; 3) пры атацы вышынь 104,3 і 108,3 артылерыя мажа аказаць пяхоце вельмі слабую дапамогу, так сама, як і пры адбіцьці наступных контрудараў: таму тут трэба пяхоту падтрымаць танкамі; 4) вёска Саломенка будзе перашкаджаць дзействам танкаў.

1) Гэтыя думкі камандзір палка, вядома, ня выказвае ў голас. мы іх падаем толькі, каб паказаць вобраз мышленьня старшага начальніка.

Рашэньне камандзіра палка было наступнае: атакаваць праціўніка двума эшалёнамі, наносячы галоўны ўдар сваім левым флянгам. Танкавай роце скласьці групу ДПП; пасьля захопу пяхотай вёскі Саломенка танкам высунуцца ўперад на вышыні з млынам і 100,1, зьнішчыць тут агнявыя кропкі, потым падавіць агонь на вышынях 104,3 і 108,3 і зрабіць на гэтых вышынях па 4 праходы шырынёй у 5 м. кожны. Пасьля аўладаньня пяхотай вышынямі 104,3 і 108,3 танкам адыйсьці ў гай Тапор.

Артылерыі падтрымаць пяхоту пры атацы в. Саломенка і вышынь 98,0, 98,7 з млынам і 101,1; садзейнічаць прасоўваньню танкаў на вышыні 104,3 і 108,3. Палкавому дывізіёну вылучыць батарэю для суправаджэньня агнём і коламі танкаў. Камандзірам батальёнаў назначыць батальённую артылерыю і частку кулямётных рот для барацьбы з процітанкавымі гарматамі ў палосах свайго наступленьня.

## Плян выкананьня задачы танкавай ротай

У $5^{00}$—31.7. камандзір танкавай роты далажыў камандзіру палка: 1) выходныя пазыцыі танкаў там, куды яны перайшлі ноччу (3/4 км. ад пярэднага краю); 2) баявы курс для 1 узвода—паміж Г. дв. і в. Саломенка на вышыню 104,3, для II і III—міма заходняй ускраіны гэтай вёскі на вышыню 108,3; 3) для асьвятленьня назіральнікаў на вышынях 104,3 і 108,3 і захаваньня ад іх руху танкаў неабходна: утварыць дымавую заслону, працягам на 200 м. на кожнай з гэтых вышынь працьгласьцю 10 мінут. Абстраляць раёны, дзе можна падазраваць процітанкавыя гарматы—паўночны спад вышыні з млынам, паўночны край гаю Тапор, паўднёва-усходні край Доўгага гаю каля гасьцінцу і паўночны край гэтага-ж гаю.

Гэту заяўку танкавага камандзіра камандзір с. п. загадаў камандзіру артгрупы ПП выканаць.

*Разбор*: У разабраным прыкладзе мы прывялі выпадак, калі стралковы полк, маючы ўсяго адну танкавую роту, выкарыстоўвае яе ў саставе групы ДПП. Зразумела, танкі можна было выкарыстаць і іншым парадкам.

Па-першае, адразу пасьля аўладаньня пярэднім краем—в. Саломенка. У гэтым выпадку для атакі вышынь 104,3 і 108,3 здолела-б прыняць удзел ня ўся рота, бо напэўна шмат танкаў было-б выведзена са строю.

Па-другое, частка танкаў магла быць выкарыстана з 1 эшалёнам палка для аўладаньня вышынёй з млынам і 100,1, і частка з другім для аўладаньня вышынёй 104,3 і 108,3. Пры гэтым таксама ўзьнікала небясьпека, што для атакі разам з пяхотай вышынь 104,3 і 108,3 застаецца вельмі мала танкаў.

Па-трэцяе, усе танкі выкарыстаць для цеснага ўзаемадзейства з пяхотай пры аўладаньні ёю вышынямі 104,3 і 108,3. Пры такім выкарыстаньні пяхота, атакуючая вышыні 104,3 і 108,3, атрымала-б магутную дапамогу ад танкаў, але пры аўладаньні вышынёй 100,1 і з млынам яна трапляла пад абстрэл з раёну вышыні 104,3 і 108,3, бо барацьба артылерыі з агнявымі кропкамі ў гэтым раёне будзе абмежавана з-за дрэннага назіраньня.

Па-чацьвертае, усе танкі можна было-б выкарыстаць бяз цеснага ўзаемадзейства з пяхотай, складаючы групу ДПП для падаўленьня агнявых кропак на вышыні 100,1, з млынам, 104,3 і 108,3, як рашаў кампалка. Выкарыстоўваючы такім чынам танкі, мы атрымаем наступныя выгоды: 1) танкі ўводзяцца ў бой толькі пасьля аўладаньня в. Саломенка, небясьпечнай для танкаў; апрача таго, ім прыдзецца дзействаваць на меншай глыбіні, значыць, менш будзе страт танкаў, і адсюль большы лік іх здолее падтрымаць пяхоту для аўладаньня вышынямі 104,3 і 108,3; 2) паколькі танкі будуць складаць групу ДПП, то яны здолеюць адарвацца ад пяхоты для падаўленьня агнявых кропак на вышынях 104,3 і 108,3, якія будуць вельмі перашкаджаць пры атацы пяхотай вышынь 98,0, 98,7 з млынам і 100,1; 3) уводзячы адразу ўсю роту, мы робім цяжэйшай для праціўніка барацьбу з танкамі.

Дзействы танкаў гэтай групы ДПП некалькі адрозьніваюцца ад дзействаў такой-жа групы ў першай задачы. Там танкі, адрываючыся ад пяхоты, зьнікалі з яе поля зроку, тут-жа зрокавая сувязь танкаў і пяхоты захоўваецца. Там група ДПП, выконваючы задачу па падаўленьню дальніх кулямётных кропак і процітанкавых гармат, адыходзіць да пункту эбора. Тут-жа на адны і тыя-ж танкі ўскладаецца спачатку задача па дальняй падтрымцы пяхоты—ДПП, а потым непасрэднай падтрымкі—НПП.

Урэшце там група ДПП выкідвалася да пачатку руху пяхоты да пярэдняга краю; тут-жа танкі кідаюцца ўперад пасьля аўладаньня пярэднім краем.

У прыведзеным прыкладзе дапамогу танкам можа аказаць ня толькі артылерыя, але і пяхота, накіроўваючы свой кулямётны агонь па процітанкавых гарматах, якія выяўляюцца, бо адрыў танкаў ад пяхоты тут невялікі. Потым артылерыя можа аказаць дапамогу танкам ня толькі з асноўных пазыцый, але ёсьць магчымасьць высунуць уперад асобную батарэю з пэўнай мэтай падтрыманьня танкаў агнём і коламі. З прычыны блізкасьці пяхоты такую дапамогу акажа і батальённая артылерыя.

Даны прыклад мы прывялі, каб паказаць, што трэба ўнікаць схематычнасьці ў выкарыстаньні танкаў і пабудове іх баявога парадку. На схэму баявога разьмеркаваньня танкаў, якая прыводзіцца намі ва ўсёй кнізе, і на задачы, што ўскладаюцца на розныя групы танкаў, трэба глядзець як на адпраўныя даныя, якія трэба дапаўняць кожны раз у залежнасьці ад умоў абстаноўкі і мясцовасьці.

## Рота лёгкіх танкаў са стралковым батальёнам 1-га эшалёну

### Абстаноўка

Праціўнік пасьля раду баёў адышоў на загадзя ўмацаваныя пазыцыі.

1 батальён 5 с. п., наступаючы ў саставе апошняга на захад у разьмежавальных лініях згодна чартяжу 11, к $19^{00}$ 10. 8. адціснуў часьці прыкрыцьця праціўніка і вышаў на лінію вышынь, што парасьлі хмызьняком. Часьці батальёна і ўсяго палка спынены моцным кулямётным агнём з боку вышыні 104,3, вышынь на поўнач ад яе і вышыні 108,3 і далей прасунуцца ня могуць.

1 батальён з даданай ротай лёгкіх танкаў, складаючых групу МПП, пры падтрымцы 1 дывізіёна 2 а. п. мае задачай: наступаючы ў саставе 1 эшалёна свайго палка, на расьсьвітаньні 11,8 зьбіць праціўніка з абарончай пазыцыі і выйсьці ў раён вышынь з адзнакай 109,9 і з млынам на захад ад першай. Правей на вышыні 97,9—105,3 наступае II батальён 5 с. п., лявей на Доўгі гай—Дойлідкі наступае 6 с. п.

### Выведка

У $3^{30}$ 11. 8 камандаір 1 баталёна разам з камандзірамі артідывізыёна, танкавай роты, стралковых і кулямётных рот, узвода батальённай артылеры вышаў на выведку.

З вышыні, што 100 м. на поўдзень ад капліцы, яны ўстанавілі наступнае:

Абарончая паласа праціўніка становіць сабой дзьве абарончыя лініі: першая—вышыня 104,3 і вышыні на поўнач і поўдзень ад яе, другая—вышыні 108,3—99,6.

Акопы разьмешчаны на абедзьвюх лініях; больш за ўсё іх відаць на вышынях 104,3 і 108,3. Тут-жа згрупаваны і кулямёты. Усяго выяўлена 9 кулямётаў. З іх 4—на вышыні 104,3 і 5 на вышыні 108,3. Перад першай і другой лініямі дрот у два калы. Умацаваньні на вышыні 109,9 з прычыны маскіроўкі і дальнасьці назіраюцца дрэнна, і меркаваць аб характары абарончых пабудоў там нельга. З паказаньня палоннага вядома, што яна ўмацоўваецца. З гэтага камандзір батальёна вывеў заключэньне, што на вышынях 104,3—103,3 знаходзіцца ротны апорны пункт, а на вышыні 109,9 напэўна—„срудшанец“.

Вывучаючы па мясцовасьці і па карце пункты, якія могуць скрываць процітанкавыя гарматы, можна было заключыць, што найбольш імавернымі могуць быць: 1) раён выселак (Выс.); 2) раён хмызьняку, што ў паўкілёмэтры на поўдзень усходні ад вышыні 108,3; 3)паўночны край Доўгага гаю.

## Рашэньне і загад камандзіра батальёна і правядзеньне яго ў жыцьцё

Скончыўшы выведку, камандзір батальёна прыняў рашэньне: у $6^{30}$ пасьля 40-мінутнай артылерыйскай падрыхтоўкі (артылерыйская падрыхтоўка цэнтралізавана і час яе, назначаны камандзірам палка) атакаваць праціўніка двума эшалёнамі, наносячы яму галоўны ўдар зьлева 2 і 3 ротамі, у кірунку вышынь 104,3 і 108,3.

Танкі камандзір батальёна рашыў дадаць: 1 узвод 1-й роце, 2 узводы 2-й роце, 3-й роце пасьля яе разгортваньня дадаць 1 узвод за лік 2-й роты.




Чарцёж. 11.

Тут-жа на вышыні камандзір батальёна аддаў наступнае распараджэньне:

„Батальён атакуе праціўніка на фронце: Сялянскі двор (Сял. дв.)—Выселкі(Выс.), наносячы галоўны ўдар дзьвюма ротамі на сваім левым флянгу ў кірунку вышынь 104,3—108,3—109,9. Бліжэйшая задача—аўладаць вышынямі 99,6, 108,3, далейшае—аўладаць вышынёй 109,9.

1-й роце з даданым узводам танкаў аўладаць дзьвюма вышынямі на поўнач ад вышыні 104,3, у далейшым наступаць на вышыню 99,6 і на вышыні на поўнач ўсходнюю ад вышыні 109,9.

2-й роце з даданымі двума ўзводамі танкаў аўладаць вышынёй 104,3, у далейшым наступаць на вышыні 108,3 і 109,9. Пасьля аўладаньня батальёнам вышынёй 108,3 перападначаліць 1 узвод танкаў 3-й роце.

3-й роце ісьці за левым флянгам 2-й роты ў 2-гім эшалёне і, разьвіваючы яе посьпех пры падтрымцы даданага ўзводу танкаў, заняць тры вышыні на поўдзень ад адзнакі 109,9 і вышыню з млынам. Кулямётнай роце даць агонь па выяўленых агнявых

кропках на вышынях на поўнач ад адзнакі 104,3 і на поўначным краю хмызьняку, што ў паўкілёмэтры на поўдзень усходні ад вышыні 108,3.

Батальённай артылерыі падавіць агнявыя кропкі каля Выселак (Выс.) і мець задачай барацьбу з процітанкавымі гарматамі

Артылерыйскаму дывізіёну, падтрымліваючаму батальён, даць агонь па раёнах, дзе мяркуецца прысутнасьць процітанкавых гармат: 1) хмызьняк, паўкілёмэтра на поўдзень усходні ад вышыні 108,3, 2) паўночны край Доўгага гаю і асьляпіць назіральныя пункты на вышынях 104,3 і 108,3.

Танкавай роце: 1) выходныя пазыцыі ў хмызьняку, дзе разьмешчаны роты; 2) дадаць 1-шы узвод 1-ай роце і 2 ўзводы 2-ой роце з задачай падтрымаць наступленьне рот на вышыні 104,3, 108,3, 99,6, 109,9. Пасьля аўладаньня 2-ой ротай вышынёй 108,3 1 узвод танкаў ад яе дадаць 3-й роце для падтрыманьня апошняй пры аўладаньні ёю трымя вышынямі; 3) зборны пункт пасьля аўладаньня пяхотай вышынёй 109,9—хмызьняк на ўсход ад гэтай вышыні.

Пачатак атакі па сыгналу—3 белыя ракеты. Па гэтаму сыгналу танкам пачаць рух у атаку.

### Загад камандзіра 2-ой роты камандзірам танкавых узводаў

Атрымаўшы задачу ад камандзіра батальёна, камандзір 2-ой роты са сваімі камандзірамі ўзводаў, камандзірамі танкавых узводаў на назіральным пункце аддаў танкістам наступнае распараджэньне:

1. Рух з выходных пазыцый танкі і пяхота пачнуць адначасова.

2. Першым аб'ектам атакі зьяўляюцца 4 выяўленыя агнявыя кропкі на вышыні 104,3. Пры руху да гэтых кропак узводы робяць па тры праходы ў драцяных загародах. Пасьля захопу ротай вышыні 104,3 танкі накіроўваюцца на вышыню 108,3 для выяўленьня і падаўленьня іншых агнявых кропак. На гэтай вышыні ўзводы таксама робяць па тры праходы ў дроце.

3. Кірунак руху: II узвода—вышыня 104,3 вышыня 108,3, вышыня 109,9; III узвода—вышыня з дрэвамі, карчма.

4. Пасьля аўладаньня ротай вышынёй 108,3 III узводу перайсьці ў падначаленьне камандзіра 3-й роты (чарцёж 12).

5. Сыгналы для сувязі паміж пяхотай і танкамі:

а) з боку пяхоты: „процітанкавая гармата“ справа—чорны флаг, зьлева—белы флаг, „не магу прасунуцца“—чырвоны флаг; апрача таго спэцыяльна назначаны пасыльныя; б) з боку танкаў—флажкамі па статуту (чарцёж 13).

6. Прамежны зборны пункт—лагчына на ўсход ад вышыні 108,3.

Зборны пункт танкаў пасьля ўзяцьця вышыні 109,9—хмызьняк—назахад ад гэтай вышыні.

Пасьля гэтага камандзір роты загадаў азнаёміць увесь асабовы састаў 2-й роты з сыгналамі для сувязі з танкамі і паставіў задачу ўзводам.

Камандзір III танковага ўзвода, атрымаўшы загад ад камандзіра 2 с. р., зьвярнуўся да камандзіра 3 с. р., якой III узвод у далейшым дадаваўся.




Чарцёж 12.

Камандзір 3-й роты, які быў тут-жа, указаў камандзіру танкавага ўзвода, каб ён пасьля заняцьця 2-й ротай вышыні 108,3 сабраўся на паўночна-усходнім краі Доўгага гаю, дзе 3 рота адновіць сувязь з танкамі і дзе апошнія на мясцовасьці атрымаюць задачу ад камандзіра роты.













Чарц. 13.

## Разьвіцьцё падзей

У $10^{30}$ пасьля артылерыйскай падрыхтоўкі па сыгналу трох белых ракет пяхота, вядучы агонь, рушыла ўперад.

Танкавыя ўзводы з выходнай пазыцыі ў разгорнутым страі, з інтэрвалам 50 м. паміж танкамі, пайшлі ў кірунку да вышыні 104,3. У лагчыне з адзнакай 98 яны абагналі пяхоту і працягвалі рух. Праз 10 мінут танкі падыйшлі да першай лініі. Тут яны зрабілі шэсьць праходаў у дроце, зьнішчылі чатыры кулямётныя гнязды. Асобныя групы пяхоты праціўніка, расстрэльваемыя танкамі, кінуліся ўцякаць у кірунку да вышыні 108,3. Танкі працяг-

валі рух па вышыні 104,3, вышыні з дрэвамі, шукаючы на ёй нявыяўленыя агнявыя кропкі.

2-я рота, прасоўваючыся ўперад з агнём, заняла I i II узводамі выш. 104,3. Танкі ўбачылі, што нашай пяхотай занята першая лінія, і пачалі рух да другой—да вышыні 108,3.

Пад артылерыйскім агнём рота таксама рушыла да другой лініі, але як толькі яна пачала спускацца ў лагчыну на захад ад вышыні 104,3 то трапіла пад кулямётны агонь з кустоў, што паўкілёмэтра на поўдзень усходні ад вышыні 108,3, і залягла. Камандзір 2-й роты загадаў узводу станкавых кулямётаў абстраляць гэтыя кусты. Праз аддзяленьне сувязі з пяхотай 3-й батарэі ён папрасіў сюды-ж накіраваць агонь артылерыі. К гэтаму часу сусед зьлева заняў Выселкі і вышыню з млынам (паўкілёмэтра на поўдзень).

Пасьля абстрэлу кулямётным узводам хмызьняку агонь адтуль пачаў слабець. У скорасьці стала відаць, як у гэтых кустох пачалі ірвацца знарады, і стральба з іх зусім спынілася. Пяхота рушыла ўперад.

Тымчасам танкі падыйшлі да другой лініі, зрабілі і тут праходы ў дроце і накіраваліся для падаўленьня кулямётаў, якія вялі моцны агонь па наступаючай пяхоце.

2-я рота кінулася ў праходы ў дроце, вядучы кулямётны агонь. У прамежках паміж танкамі і над цяхотай ірвуцца знарады. Відаць разрывы каля карчмы і над вышынёй 109,9.

Танкі падавілі раней выяўленыя 5 кулямётаў, але як толькі ўзводы пяхоты ўварваліся ў праходы, яны былі сустрэнуты агнём станкавых кулямётаў з боку вышыні 99,6. Пяхота залягла.

Камандзір роты загадаў выкінуць чырвоны флаг. Танк камандзіра II узвода заўважыўшы сыгнал, адшукаў кулямёт на вышыні 99,6, падаў сыгнал „рабі, як я“ і рушыў да яго, за ім пайшлі і астатнія танкі ўзвода. Але як толькі яны сталі спускацца ў лагчыну, што паміж вышынямі 108,3 і 99,6, зараз-жа ўбачылі процітанкавую гармату, якая адкрыла па іх агонь з кустоў у гэтай-жа лагчыне. Танкі адразу-ж зьвярнулі ў хмызьняк на гэту гармату, адкрыўшы па ёй агонь.

Пяхота таксама заўважыла гэту гармату, адкрыла па ёй агонь з кулямётаў і перадала аб ёй батальённай артылерыі, але пакуль батальённая пушка высунулася ўперад, танкі так блізка падыйшлі да процітанкавай гарматы праціўніка, што страляць па ёй было небясьпечна: можна было папасьці ў свае танкі. Праз некалькі мінут гармата праціўніка, падбіўшы адзін танк, сьціхла. Астатнія чатыры танкі рушылі на вышыню 99,6, падавілі там кулямёт, павярнулі па лагчыне на ўсход, каб скрытным подступам выйсьці зноў на вышыню 108,3.

III танкавы ўзвод у гэты час падаўляў уцалеўшыя агнявыя кропкі на вышыні 108,3.

Пяхоце, заняўшай вышыню 108,3, далей прасунуцца перашкаджаў кулямёт, які страляў з падстрэшша на карчме. Кулямётны агонь з ім нічога зрабіць ня мог. Камандзір роты папрасіў батальённую пушку, якая для дапамогі танкам спазьнілася, накіраваць агонь па кулямёту на карчме.

Калі танкавы ўзвод вышаў на вышыню 108,3, то агонь праціўніка вёўся толькі з боку карчмы і з вышыні 109,9. Камандзір роты загадаў танкам адыйсьці за ўкрыцьце.

У скорасьці знарад батальённай пушкі папаў у карчму і агонь адтуль спыніўся, III узвод з крыкам „ура“ кінуўся ўперад і заняў карчму. I узвод высунуўся на гасьцінец.

Вышыня 108,3 узята. Бліжэйшая задача 2-й роты выканана і пачала з посьпехам выконвацца далейшая. Камандзір роты вышаў на дарогу каля карчмы і праз пасыльнага выклікаў адтуль камандзіра танкавага ўзвода, які зьявіўся разам з сваімі камандзірамі танкаў.

Тут камандзір 2-й роты, атрымаўшы задачу ад камандзіра батальёна захапіць вышыню 109,9, паставіў камандзіру танкавага ўзвода наступную задачу:

„Рота працягвае бязупыннае наступленьне на вышыню 109,9. Яе прасоўваньню перашкаджаюць кулямёты з гэтай вышыні, з хмызьняку, што прылягае да вышыні з усходу, і з трох вышынь, што на поўдзень ад вышыні 109,9.

Безадкладна абганіце роту і падавіце кулямёты ў хмызьняку і на самай вышыні.

На тры вышыні, на поўдзень, наступае 3-я рота“.

Камандзір узвода папрасіў камандзіра роты даць агонь па хмызьняку на выпадак знаходжаньня там процітанкавай гарматы, даў камандзірам танкаў баявыя курсы, і яны ўсе бягом накіраліся да машын.

У гэты час да II узвода далучыўся адзін танк 1-га узвода, накіраваны сюды камандзірам танкавай роты, астатнія танкі былі падбіты.

У скорасьці танкавы ўзвод, перайшоўшы цераз вышыню 108, 3, пайшоў шпарка пад гару да вышыні 109, 9; абагнаўшы ў лагчыне пяхоту, ён працягваў рух да хмызьняку.

Зьлева з-за Доўгага гаю высоўваўся III танкавы ўзвод, які наступаў ужо з 3-й ротай.

II танкавы ўзвод увайшоў у хмызьняк і, рухаючыся па ім, скрытна падышоў да самай вышыні 109, 9. Высунуўшыся тут непасрэдна перад дзьвюма кулямётнымі кропкамі праціўніка, ён іх падавіў і пачаў абыходзіць вышыню справа. Зьлева ў гэты час чатыры танкі III узвода (адзін танк быў выведзен са строю нядоўга да гэтага агнём процітанкавай пушкі з паўднёвага краю хмызьняку) падаўлялі агонь на трох вышынях.

II танкавы ўзвод, абышоўшы справа вышыню 109,9, накіраваўся на вышыню што паўкілёмэтра на поўнач заходнюю ад вышыні 109, 9. Ня выявіўшы тут нічога, танкі накіраваліся да

вышыні з млынам. Вышаўшы сюды і расстраляўшы адно аддзяленьне стралкоў з ручным кулямётам, танкі ня ўбачылі сваёй пяхоты ні на вышыні 109, 9, ні на поўдзень ад яе. Ды і танкаў III узвода ня было таксама відаць. Зразумеўшы, што пяхота 2-й роты, якой узводададзены, напэўна, затрымліваецца агнём праціўніка, танкавы ўзвод вярнуўся назад да хмызьняку. З вышыні 109, 9 камандзір II танкавага ўзвода заўважыў сваю пяхоту, якая залягла на ўсход ад кустоў. Час ад часу паднімаўся чырвоны флаг. Танкі спусьціліся ўніз і пачалі абыходзіць хмызьняк з поўдня. Тут дзейсвавалі танкі III узвода. Тады камандзір узвода пачаў агінаць хмызьняк і пашоў на яго паўночны край. У гэты час пяхота пачала перабягаць уперад. Па ёй зноў адкрыў агонь кулямёт, які знаходзіўся ў паўночна-ўсходнім вуглу хмызьняку, які быў спыніў агонь, заўважыўшы прыбліжэньне танкаў, што дало магчымасьць нашай пяхоце пачаць прасоўваньне ўперад. Падавіўшы гэты кулямёт, танкі пайшлі ўдоўж паўночнага краю кустоў зноў на вышыню 109,9. У скорасьці выйшла сюды 2-я рота і пачала тут замацоўвацца.

Зьлева—III танкавы ўзвод прайшоў на Дойлідкі.

II танкавы ўзвод выканаў сваю задачу і адышоў на зборны пункт у хмызьняк на ўсход ад вышыні 109, 9.

Разбор. Ніжэй мы разьбярэм некаторыя палажэньні задачы, патрабуючыя тлумачэньняў і абгрунтаваньня.

На прыкладзе, разабраным вышэй, мы прывялі выпадак вялікага насычэньня танкамі пяхоты—рота танкаў на батальён. Магчымасьць з боку стралковага палка дадаць батальёнам па роце танкаў можа быць у выпадку, калі палку дададзены танкавы батальён, і ён яго разьмяркоўвае, як намі паказана ў першым прыкладзе.

Але магчыма, што стралковы полк, маючы ў сваім распараджэньні ўсяго адну роту танкаў, парашыць усю яе выкарыстаць як групу НПП у адным батальёне. Такое рашэньне можа быць, калі пажадана ўзмацніць кірунак галоўнага ўдару або ў выпадку, калі мясцовасьць дазваляе выкарыстаць танкі толькі на вучастку аднаго батальёна.

Як выкарыстаць танкі камандзіру батальёна, атрымаўшага ў сваё распараджэньне цэлую роту танкаў? Або, як кажуць: якое прыняць баявое разьмеркаваньне танкаў?

Тут могуць быць два асноўныя рашэньні: першае—танкі дзействуюць у саставе ўсёй роты, выконваючы задачы камандзіра батальёна, другое—танкі дадаюцца паўзводна стралковым ротам для іх абслугоўваньня. У апошнім выпадку магчымы таксама два варыянты: першы—танкі дадаюцца стралковым ротам (выпадак, прыведзены ў разьбіраемым прыкладзе) і другі—танкі падтрымліваюць стралковыя роты. Розьніца тут такая: у першым выпадку танкавыя ўзводы падначальваюцца камандзірам стралковых рот, ад іх атрымліваюць задачы і дзействуюць па іх ўказаньнях; у другім выпадку танкавыя ўзводы атрымліваюць

задачы ад свайго камандзіра роты, або непасрэдна ад камандзіра стралковага батальёна. У гэтым выпадку танкавыя ўзводы не падначальваюцца камандзірам стралквовых рот, а толькі ўзгадняюць і ўвязваюць з імі свае дзействы.

Які спосаб дзействаў выбраць, падкажуць абстэноўка, мясцовасьць і час. Мы з свайго боку можам сказаць, што выбар таго або іншага віду ўзаемадзейства залежыць, па-першае, ад колькасьці часу, які ёсьць у распараджэньні агульна войсковага камандзіра. Калі ёсьць шмат часу да атакі, які дазваляе добра ўвязаць дзействы паміж танкавымі ўзводамі і стралковымі ротамі, тады апошнім можна падначаліць першых. Калі-ж гэтага часу няма, то камандзір батальёна сам паставіць задачу ўсёй танкавай роце, указаўшы толькі, які танкавы ўзвод якую стралковую роту падтрымлівае або нават і гэтага ня ўкажа, калі ў танкавых узводах не хапае часу для таго, каб пагаварыць з камандзірамі стралковых рот. Другім вельмі важным момантам, які аказвае ўплыў на баявое разьмеркаваньне танкаў, зьяўляецца наступны: ці дзействуе ў саставе стралковага палка група танкаў ДПП. Калі апошняя ёсьць і ёсьць досыць часу, то танкавыя ўзводы могуць быць сьмела разданы па стралковых ротах для ўтварэньня групы НПП. Калі-ж групы ДПП няма, то пакіданьне танкаў у руках камандзіра стралковага батальёна павінна знайсьці больш шырокае ўжываньне, каб мець магчымасьць манэўраваць танкамі і ў глыбіню, нікім не кранутую, і па фронце.

У вялікай меры, вядома, аказвае ўплыў стан паласы абароны праціўніка. Чым апошняе больш умацавана, тым больш цесна павінны быць увязаны дзействы танкаў і пяхоты, а гэта азначае, што танкавыя узводы павінны быць падначалены стралковым ротам, бо пры гэтых умовах узаемадзейства дасягаецца, зразумела, больш цеснае, чым пры падтрыманьн, толькі танкамі стралковых рот. І наадварот, калі праціўнік абараняецца на насьпех занятай пазыцыі, то можна танкі ротам не дадаваць, бо і ступень супраціўленьня з боку праціўніка будзе меншая, а таму ў такой цеснай увязцы няма неабходнасьці.

У рашэньні камандзіра батальёна трэба таксама адзначыць дааданьне ўсёй роты танкаў і эшалёну з тым, каб потым 2-гі эшалён батальёна—3-ю стралковую роту—падтрымаць адным узводам танкаў за лік 1-га эшалёну.

Такое рашэньне трэба вітаць: яно дае магчымасьць выкарыстаць на пярэднім краю максымум танкаў, у той-жа час не пакідаючы без падтрыманьня танкамі і 2-гі эшалён пяхоты.

Але трэба таксама адзначыць, што і выкарыстаньне ўсіх танкаў з 1-м эшалёнам батальёна зусім не абавязкова. Калі глыбіня абароны вельмі ўмацавана, калі насычэньне танкамі вялікае, то эшалёнаваньне танкаў НПП у глыбіню павінна знайсьці сваё месца. У гэтым выпадку роты 2-га эшалёна будуць ужо падтрыманы сьвежымі танкавымі падразьдзяленьнямі.

Але калі 2-гі эшалён пяхоты, як у нашым прыкладзе, падтрымліваецца танкамі, якія дзействуюць спачатку з 1-м эшалёнам, то трэба, каб арганізацыя ўзаемадзейства пяхоты і танкаў была-б наладжана яшчэ да пачатку бою. У адваротным выпадку танкі і пяхота будуць шукаць адзін аднаго і траціць шмат часу, перш чым пачаць разам дзействаваць.

У нашым прыкладзе камандзір III танкавага ўзвода зусім правільна зрабіў, што зьявіўся да бою да абодвых пяхотных камандзіраў (2 і 3 стралковых рот), з якімі ён будзе узаемадзействаваць у баі. І зусім правільна зрабіў камандзір 3-й стралковай роты, які канкрэтна на мясцовасьці ўказаў камандзіру танкавага ўзвода пункт збору, дзе танкі атрымаюць задачу ад яго. У такім выпадку камандзір 3-й стралковай роты будзе ведаць, дзе яму шукаць свае танкі, і калі-б нават рота атрымала новы кірунак для наступленьня, камандзір роты мог-бы паставіць задачу танкам праз пасыльнага.

Праводзячы выведку, камандзір батальёна і камандзіры, што пры ім знаходзіліся, знаходзяць больш небясьпечнымі хмызьняк і край гаю і двары па наступных меркаваньнях: а) усе гэтыя пункты даюць магчымасьць скрытна разьмясьціць процітанкавыя гарматы; б) адшукаць іх пры назіраньні з усходу, г. зн. ад атакуючага, нават пасьля адкрыцьця імі стральбы будзе цяжка, бо яны могуць стаяць у глыбіні кустоў і ў дварох; в) гэтыя пункты даюць магчымасьць абстрэльваць подступы да ўмацаваных рубяжоў.

Задачы артылерыі і кулямётам ставяцца камандзірам батальёна так, каб дапамагчы прасоўваньню танкаў, забясьпечваючы іх шляхам пільнага назіраньня і абстрэлу раёнаў, падазроных па разьмяшчэньню процітанкавых гармат. Артылерыйскі агонь па вышынях 104,3 і 108,3 не патрэбен, бо туды пойдуць танкі і самі справяцца з агнявымі кропкамі на гэтых пунктах. Трэба толькі забясьпечыць танкам прасоўваньне да гэтых аб'ектаў, а гэтага можна дасягнуць барацьбой з ворагамі танкаў, процітанкавымі гарматамі; танкі ў сваю чаргу палегчаць прасоўваньне пяхоты ўперад. Такім чынам атрымліваецца поўнае ўзаемадзейства—кожны робіць сваю справу, але ўсе імкнуцца да адной мэты.

Танкаваму ўзводу задача ў пачатку пастаўлена толькі да вышыні 108,3, таму што вышыня 109,9 дрэнна праглядаецца і патрабуе дадатковай выведкі. Апошняя будзе праведзена камандзірам 2-ое роты і камандзірам танкавага ўзвода пасьля заняцьця вышыні 108,3, дзе і будзе зноў аднаўлена сувязь паміж ротамі і танкамі, пасьля чаго апошнія будуць накіраваны на вышыню 109,9.

Танкі пачынаюць адначасова рух з пяхотай, таму што спачатку праводзіцца артылерыйская падрыхтоўка, якая дае магчымасьць пяхоце пачаць рух бяз танкаў. Апрача таго танкі дзякуючы сваёй скорасьці хутка пераганяць пяхоту.

Прамежны пункт збору—гэта пункт аднаўленьня сувязі з пяхотай; ён назначаны ў лагчыне на ўсход ад вышыні 108,3, бо гэта вышыня ўкрывае танкі ад артылерыйскага агню праціўніка і дае магчымасьць мецъ іх блізка для другога кідка на вышыню 109,9. Такі збор заўсёды будзе мець месца, калі пасьля захопу цэлі будзе астаноўка, якая будзе працягвацца ня больш 15 мінут. У такім выпадку танкі зьбіраюцца за ўкрыцьце для забясьпечаньня сябе ад агню. Гэтага ні ў якім разе ня трэба зьмешваць з пунктам збору пасьля бою для аднаўленьня і забясьпечаньня.

Збор у першым выпадку знаходзіцца за бліжэйшым укрыцьцем, танкі гатовы да далейшага прасоўваньня ўперад і толькі на кароткі тэрмін укрыліся. Пункт-жа збору ў канцы бою разьлічаны на знаходжаньне танкаў у ім на працягу больш доўгага часу, і таму павінен даваць магчымасьць больш спакойнай работы.

Пры разборы дзейства наступаючых часьцей кідаецца ў вочы:

1. Пры руху ад першага рубяжа да другога пяхота трапіла пад флянгавы кулямётны агонь, зьлева з боку хмызьняку. Здавалася-б, што трэба было ўказаць танкам новую цэль, перашкаджаючую руху пяхоты. Камандзір роты гэтага не зрабіў і, па нашай думцы, правільна. Пяхота павінна сама сабе пракладваць дарогу ўперад, а ня толькі спадзявацца на танкі. Камандзір роты пачаў барацьбу з перашкодай, якая зьявілася, сваімі сіламі, папрасіў дапамогі артылерыі і вышаў пераможцам.

2. Убачыўшы процітанкавую гармату, танкавы ўзвод кінуў свае ранейшыя аб'екты і адразу-ж атакаваў гэту гармату. Так заўсёды і будзе. Процітанкавая гармата—зьлейшы вораг танкаў, і, пакуль яна ня зьнішчана, працаваць танкам нельга.

3. Яшчэ адзін выпадак, калі пяхота сама сабе пракладвае дарогу ўперад. Гэта—калі пяхота пры дапамозе батальённай пушкі зьнішчала кулямёт на карчме.

4. Цікавы момант, калі танкі варочаюцца з вышыні 109,9 да сваёй пяхоты, якая была спынена агнём перад хмызьняком. Так і павінна быць. Калі танкі заўважылі, што яны адарваліся ад пяхоты, якую яны падтрымліваюць і якая чаму-небудзь ня можа прасоўвацца ўперад, то яны абавязаны вярнуцца да яе, зьнішчыць перашкоду, затрымліваючы наступленьне пяхоты, а потым ужо зноў рушыць далей.

5. Трэба адзначыць беражлівыя адносіны камандзіра 2-ое роты да танкаў, якія праявіліся ў тым, што, бачачы магчымасьць перамагчы агонь праціўніка без дапамогі танкаў, ён ня прымушае іх выяжджаць і падстаўляць сябе пад артылерыйскі агонь, а адразу загадвае ім ісьці за ўкрыцьце. Такія адносіны да танка захаваюць яго для патрэбнага моманту.

6. Можа паказацца некалькі палегчанай абстаноўка, створаная ў прыведзеным прыкладзе для танкаў. У сапраўднасьці страты, панесеныя імі, былі-б большыя. Хоць нічога ненатуральнага і няма ў тым, што ўзвод страціў толькі дзьве машыны. Абстаноўка створана спэцыяльна такой, каб мець магчымасьць разгледзець пытаньні ўзаемадзейства невялікіх падразьдзяленьняў пяхоты і танкаў ва ўсёй глыбіні абароны праціўніка.

## Рота лёгкіх танкаў са стралковым батальёнам II эшалёну

(Чарцёж 14 і 15).

### Абстаноўка

Пасьля раду баёў праціўнік 17.6 адышоў і заняў для абароны паласу, маючы пярэдні край яе на лініі: усходні край лесу, што на поўнач ад Новікі—Лайгаболі і далей на поўдзень.

35 с. п. з даданымі дзьвюма газамётнымі батарэямі і дзьвюма ротамі лёгкіх танкаў мае задачай раніцой 19.6 атакаваць праціўніка на фронце гай „Клін", в. Лайгаболі з далейшай задачай аўладаць раёнам усходняга берага р. Ласосна. Полк падтрымалі ваецца I і II дывізыёнамі 12 а. п.

Адначасова з 35 с. п. справа атакуе праціўніка 17. с. д., зьлева—36 с. п.

Камандзіру 35 с. п. па зьвестках выведкі, фота-здымкаў і з апытаньня палонных вядома, што перад палком знаходзіцца каля аднаго батальёну пяхоты і 3 батарэі праціўніка. Пазыцыя яго ўзмоцнена і разьвіта ў глыбіню. Ёсьць пашыраныя акопы. Моцна разьвіты фальшывыя пабудовы. На захад ад вышынь Круглая і Вострая і да ракі Ласосна працягваюцца работы па ўмацаваньню паласы.

### Выведка

У $3^{00}$—19.6 камандзір 36 с. п. з камандзірамі батальёнаў, групы ПП XXXV палкавога артылерыйскага дывізыёну, танкавага батальёну і газамётнага дывізыёну вышаў на вышыню з млынам на выведку.

Пасьля вывучэньня абарончай паласы праціўніка і дзелавой размовы са спэцыялістамі камандзір палка ўсьвядоміў.

Артылерыя здолее падтрымліваць полк агнём без перамены назіральных пунктаў да грэбеня вышынь, што на поўнач ад вышыні 104,1. Пасьля дасягненьня пяхотай гэтага рубяжа патрабуецца перанос назіраньня ўперад, бо гэты грэбень закрывае ўсю мясцовасьць на захад ад яго.

Газамётны дывізіён здолее абстраляць мінамі паласу праціўніка да грэбеня вышынь Круглая, Вострая.

Гай і ручай на поўнач ад вёскі Новікі не даюць магчымасьці танкам тут прайсьці. Вёскі Новікі і Лайгаболі на поўдзень ад гэтага гаю таксама вельмі перашкаджаюць, а можа быць, і выключаюць магчымасьць праходу тут танкаў, бо праціўнік паміж

будынкамі, дзе мог-бы прайсьці танк, напэўна выкапаў шырокія акопы або будаваў іншыя процітанкавыя перашкоды. Таму выкарыстаньне танкаў на пярэднім краю трэба лічыць вельмі цяжкім, а таму непажаданым. На астатняй частцы ўмацаванай




Чарцёж 14

паласы праціўніка танкі могуць быць выкарыстаны. Трэба чакаць, што работа танкаў будзе цяжкай, бо праціўнік меў час для арганізацыі процітанкавай абароны.




Чарцёж 15

Назіральныя пункты праціўніка, з якіх ён можа праглядаць раёны руху танкаў, наступныя: калі танкі будуць уведзены ў бой з эшалёнам пасьля заняцьця лесу і вёсак на пярэднім краю, то гэта будзе грэбень вышынь Круглая, Вострая і ўсе

вышыні паміж гэтым грэбенем і пярэднім краем. У выпадку выкарыстаньня танкаў з другім эшалёнам пасьля захопу рубяжа гэтых вышынь праціўнік здолее назіраць рух танкаў толькі пасьля дасягненьня апошнімі гэтага рубяжа. Пасьля выхаду танкаў на захад ад указанага грэбеня вышынь назіраньня можна весьці галоўным чынам з вышыні 104,4.

Падыйсьці да выходных пазыцый танкі могуць скрыта ад наземнага назіраньня. Выходныя пазыцыі—на заходнім краю гаю, што $^3/_4$ км. на поўнач усходнюю ад вышыні 92,3. Калі танкі будуць выкарыстаны ў глыбіні, то яны здолеюць адсюль скрытна перайсьці ў раён вышыні 98,1—могілкі рускія, на поўнач заходнюю ад вёскі Новікі, адкуль будуць кінуты ў бой для разьвіцьця посьпеху ў глыбіні.

Выходзячы з гэтага, можам намеціць два найбольш адпаведныя варыянты: першы—увесьці ў бой усе танкі з 1 эшалёнам адразу пасьля аўладаньня пярэднім краем; другі—увесьці танкі ў бой, адну роту з першым эшалёнам, а другую—з часьцямі 2 эшалёна для разьвіцьця посьпеху ў глыбіні абарончай паласы і для барацьбы з контратакамі праціўніка.

### Меркаваньні камандзіра палка

Выходзячы з даных выведкі, камандзір палка прышоў да вываду, што палку трэба перамагчы абарончую паласу праціўніка глыбінёй у 3 км; шырынёй па фронце ў $1^1/_2$ км. Артылерыя здолее падтрымаць пяхоту без перасоўваньня назіральных пунктаў уперад да захопу грэбеня вышынь каля $2^1/_2$ км. ад пярэдняга краю. Танкі на пярэднім краі выкарыстаць нельга, у глыбіні—можна. Таму атаку пяхоты на пярэднім краі і да грэбеня вышынь у глыбіні падтрымаць газамётнымі батарэямі, артылерыяй і адной ротай танкаў, а на захад ад гэтага рубяжа—танкамі і часткай батарэй, якія пасьпеюць пераманіць свае назіральныя пункты.

Пасьля гэтага камандзір палка прыняў рашэньне, сутнасьць якога зводзілася да наступнага:

1. Атакаваць праціўніка двума эшалёнамі, наносячы галоўны ўдар у кірунку могілак рускіх, вышыня 104,4.

2. а) II батальён з ротай танкаў атакуе справа з бліжэйшай задачай аўладаць вышынямі 97,0, 98,1 далейшая задача—аўладаць з млынам выш. Круглай.

б) III батальён атакуе зьлева з бліжэйшай задачай аўладаць прав. вышынёй 90,3 і далейшай аўладаць вышынямі Вострая, 100,8 і 101,1.

в) I батальён з ротай-танкаў, складаючы 2-гі эшалён, рухаецца паміж 1-м і 2-м батальёнамі і разьвівае посьпех у кірунку вышыні 104,4, маючы задачай аўладаньне раёнам вышынь 86,3, 104,4 і 84,7.

3. Газамётныя батарэі для падтрымыньня 1-га эшалёна даюць па два паўторных залпы па вышынях 92,0, 98,1, прав. 90,3, Круглая, Вострая і 101,1.

4. Артылерыя дае моцны агонь па вышыні 105,3 па паўночнаму краю лесу, што $1^1/_4$ км. на поўдзень ад вышыні 104,1 па вышыні 101,1 і грэбеню вышынь Круглая і Вострая. Для забясьпечаньня танкаў 2-га эшалёна пасьля ўваходу іх у бой артылерыйскім агнём вылучаецца палкавы дывізыён, які з прасоўваньнем 1-га эшалёна высоўвае свае батарэі ўперад у раён могілак рускіх (1 км. на захад ад вёскі Новікі).

5. Уся рота танкаў дзействуе з 2 эшалёнам для аўладаньня раёнам вышынь 86,3 104,4 84,7 і ўдзелу ў прасьледваньні праціўніка да ракі Ласосна.

Зборны пункт танкаў пасьля атакі—гай, што паўкілёмэтра на захад ад вышыні 108.3.

Пачатак атакі а 11 гадзіне па сыгналу—4 чырвоныя ракеты.

## Разьвіцьцё падзей

К $13^{00}$ 19.6 1-шы эшалёп палка пры падтрыманьні артылерыі, газамётаў роты і танкаў захапіў намечаны грэбень вышыні з млынам Круглая і Вострая і вышыні 101,1.

2-гі эшалён, 1 батальён, падышоў да вышыні 98, 1 і могілак рускіх. Танкі падыйшлі да выходных пазыцый: I узвод—у седлавіну 100 м. на поўдзень ад вышыні 98,1; II узвод—у хмызьняк на поўнач ад могілак рускіх; III—да могілак.

Палкавы дывізіён высоўваў уперад свае батарэі да грэбеня захопленых вышынь. Дывізыйная артылерыя высоўвала ўперад назіральныя пункты.

Сусед справа заняў у бок на поўнач спады вышыні з млынам 98,1, а сусед зьлева захапіў вышыню 105,3, уварваўся ў кусты на захад ад яе і ўвязаўся там у бой.

## Пастаноўка задач камандзірам батальёна

Аамандзір I батальёна з камандзірамі стралковых і кулямётнай рот, камандзірам танкавай роты, які ўзяў з сабой сваіх камандзіраў узводаў, высунуліся на Вострую вышыню. Сюды-ж выехаў і камандзір палкавога артдывізыёна. Адсюль яны ўбачылі, што агонь вядзецца галоўным чынам з раёну вышынь 86,3, 104,4 іглыбіні пазыцыі за імі. Вышыні 86,3,і 104,4 аплецены дротам у два калы.

Камандзір батальёна нацэліў свае роты: першую—на вышыню 86,3 і вышыню з гаёчкам; другую—на вышыню104,4 і гай на поўдзень ад яе; 3-й роце загадаў рухацца за 2-гой ротай з задачай аўладаць вышынямі 84,5 і 84,7.

Кулямётная рота атрымала задачу даць агонь па вышыні, што на поўнач ад вышыні 86,3, і вышыні 100,8, бо агонь адтуль мог перашкодзіць прасоўваньню пяхоты, а танкі туды не накі-

роўваліся, і, апрача таго, па вышыні, што $^1/_4$ км. на ўсход ад вышыні 104,4, бо гэты пункт падазроны па прысутнасьці ў ім процітанкавай гарматы.

Палкавому артылерыйскаму дывізыёну даць агонь па гаю, што $^1/_4$ км. на захад ад вышыні 100,8 і па вышыні, што $^1/_4$ км. на ўсход ад вышыні 100,4.

Камандзіру танкавай роты падтрымаць I узводам атаку 1-й роты ва аўладаньні вышынёй 86,3 і вышынёй з гаёчкам; II узводам падтрымаць атаку 2-е роты ва аўладаньні бязымяннай вышынёй, што $^1/_4$ км. на ўсход ад вышыні 104,4 і апошняй. Пасьля гэтага таму-ж узводу падтрымаць атаку 3 роты на вышыні 84,5. III узводам падтрымаць атаку 3-й роты на вышыні 84,7; Усёй танкавай роце прыняць удзел у прасьледваньні праціўніка да ракі. I і III танкавым узводам мецьназіраньне за флянгам і быць гатовымі да адбіцьця контратак. Зборны пункт пасьля выкананьня задачы—гай, што $^1/_4$ км на поўнач заходнюю ад вышыні 100,8.

## Пастаноўка задач танкам стралковымі ротамі

Пасьля атрыманьня задач камандзіры танкавых узводаў тут-жа атрымалі задачы ад камандзіраў стралковых рот.

Камандзір 1-й роты загадаў 1 танкаваму ўзводу зрабіць на вышыні 86,3 тры праходы ў дроце па 4 м. шырынёй кожны, падавіць на гэтай вышыні агонь, пасьля гэтага павярнуць на поўдзень, зьнішчыць агнявыя кропкі на вышыні, што 1/4 км. на поўдзень ад адзнакі 86,3. Пасьля заняцьця пяхотай гэтых дзьвю вышынь атакаваць вышыню з гаёчкам, зьнішчыць на ёй агнявыя кропкі і пасьля заняцьця ротай гэтай вышыні прасьледваць праціўніка.

Камандзір 2-ое роты—II танкаваму ўзводу зрабіць 3 праходы на вышыні, што $^1/_4$ км. на ўсход ад вышыні 104,4 зьнішчыць агнявыя кропкі на гэтай вышыні і вышыню 104,4 і пасьля аўладаньня ротай гэтымі вышынямі атакаваць вышыню 84,5 для падтрыманьня атакі 3-й роты.

Камандзір III роты—III танкаваму ўзводу: пасьля дасягненьня ротай вышыні 104,4 і гаю на поўдзень ад гэтай вышыні атакаваць вышыню 84,7, падавіць на ёй агонь, быць гетовым да адбіцьця кантратак з боку левага флянгу. Адступаючага праціўніка прасьледаваць.

Камандзір танкавай роты ўказаў, што будзе рухацца паміж 1 і II узводамі, і прасіў камандзіра батальёна з прычыны няяснасьці разьмяшчэньня процітанкавых сродкаў праціўніка загадаць пяхоце і батальённай артылерыі безадкладна згрупаваць ружэйны, кулямётны і пушачны агонь па процітанкавых гарматах, якія будуць выяўляцца.

## Сумесныя дзействы стралковых рот з танкамі

I танкавы ўзвод з выходнай пазыцыі рушыў да Круглай вышыні і, прайшоўшы яе, падышоў да вышыні 86,3. Тут ён зрабіў 3 праходы і пачаў зьнішчаць агнявыя кропкі. Калі танкі выйшлі на вышыню 86,3, 1-я рота кінулася ўперад, але была сустрэнута кулямётным агнём з боку вышыні, што $^{1}/_{4}$ км. на поўдзень ад вышыні 86,3. Камандзір роты загадаў кулямётнаму ўзводу накіраваць агонь на гэту вышыню і працягваў рух уперад. Пасьля зьнішчэньня агнявых кропак на вышыні 86,3 танкавы ўзвод павярнуў на поўдзень на вышыню, якая знаходзілася побач, і калі ён вышаў на гэту вышыню, агонь тут адразу-ж сьціх. Пяхота кінулася ўперад і заняла абедзьве гэтыя вышыні. Пасьля гэтага танкі рушылі на вышыню з гаёчкам.

Камандзір 1-й роты, які быў у гэты час на вышыні, на поўдзень ад адзнакі 86,3, заўважыў, як адзін з танкаў, не даходзячы вышыні з гаёчкам, нахіліўся на адзін бок і стаў. Другія два танкі пачалі абыходзіць гэту вышыню справа. Камандзір роты зразумеў, што танк напэўна наскочыў на міну і што астатнія два стараюцца абыйсьці гэта мініраванае поле. На танк, які спыніўся, павёў наступленьне праціўнік групай каля ўзводу. Па вежы, якая круцілася, камандзір здагадаўся, што танк адстрэльваецца. Калі не пайсьці зараз-жа на выручку пацярпеўшаму аварыю танку, то ён будзе захоплены праціўнікам, таму камандзір роты загадаў кулямётнаму ўзводу накіраваць агонь на наступаючую групу праціўніка і паслаў стралковы ўзвод для выручкі танка і яго каманды.

К гэтаму часу астатнія два танкі гэтага ўзводу вышлі з лагчыны і з поўначы атакавалі вышыню з гаечкам, зьнішчаючы на ёй кулямёты. Камандзір роты, прасоўваючыся ўперад, бачыў як узвод, пасланы на выручку танку, атакаваў праціўніка і прымусіў яго адыйсьці. Асобныя групы праціўніка адыходзілі да вёскі Капанікі, а танкі гойсалі па вышыні, у гэты час ён сам з астатнімі двума ўзводамі атакаваў гэту вышыню і заняў яе. Танкі адышлі за бліжэйшае ўкрыцьце, каб некалькі разабрацца ў агульнай абстаноўцы перш чым перайсьці да прасьледваньня.

II танкавы ўзвод, аднačасова з I, прайшоўшы Вострую вышыню, накіраваўся на вышыню, што $^{1}/_{4}$ км. на ўсход ад адзнакі 104,4, зрабіў тут тры праходы, падавіў на ёй агонь і атакаваў вышыню 104,4. 2-я рота кінулася ўперад да намечанай вышыні і заняла яе. Тут танкі і пяхота ўбачылі замаскаваную маўчаўшую процітанкавую гармату, як аказалася, яна была падбіта нашай артылерыяй.

У гэты час з-за гаю паказалася рота праціўніка, якая рухалася ў флянг 2-ой роце. II танкавы ўзвод, заўважыўшы контратаку праціўніка, кінуўся на яе. Пяхота праціўніка адышла назад. У гэты момант паказаўся і III танкавы ўзвод, які таксама накіраваўся на контратакуючую часьць праціўніка. II танкавы ўзвод,

Недахоп гэтага спосабу—больш павольны рух танкаў[1]), бо трэба спыніць іх і хоць-бы камандзіру танкавай роты агледзець мясцовасьць, вярнуцца назад і ўжо потым рушыць уперад. Добра; калі выходная пазыцыя блізка. Ну, а калі яна далёка, тады прападае шмат часу.

Дадатны бок гэтата способу—танкі накіроўваюцца на тыя пункты, якія патрэбны пяхоце ў даную мінуту, бо выведка праціўніка ў час бою ў непасрэднай блізкасьці заўсёды будзе больш дакладнай, чым выведка па фотаздымках.

Другі выпадак, калі пяхотны камандзір ставіць камандзіру танкаў задачы, узгадняючы іх са зьвесткамі, атрыманымі па карце, фотаздымкамі, выведкай, апытаньнем палонных і да т. п.

Неабходна адзначыць, што сапраўдная групоўка праціўніка можа ў многім не супадаць з той, якая меркавалася, што па-трабуе праяўленьня ініцыятывы з боку танкавых камандзіраў у сэнсе зьмен намечаных дзействаў. Выгода гэтага спосабу заключаецца ў тым, што ён дае магчымасьць, ня трацячы часу, працягваць рух уперад. Але гэты спосаб захоўвае ў сабе і небясьпеку, што ў першую чаргу танкі накіруюцца якраз на тыя аб'екты, якія менш за ўсё перашкаджаюць пяхоце, г. зн. атрымаецца няўзгодненасьць у дзействах пяхоты і танкаў.

Які з гэтых двух спосабаў абраць, пакажа мясцовасьць і тыя даныя, якія ў нас ёсьць аб характары ўмацаваньня праціўніка. Чым бліжэй можна мець выходныя пазыцыі танкаў, чым зьвесткі аб праціўніку будуць меншыя, тым больш упэўненасьці, што прыдзецца дзействаваць па першаму спосабу. І наадварот, чым даных аб умацаваньні праціўніка больш і мясцовасьць не дае магчымасьці танкам мець блізка выходныя пазыцыі, тым часьцей будзе ўжыты другі спосаб.

Што-ж рабіў камандзір батальёна. Ён ужыў першы спосаб. Прычым выведка была вельмі кароткачасная, каб не затрымліваць руху ўперад батальёна, які падыходзіў. Ці правільна зрабіў камандзір батальёна? Тут можна адно сказаць: калі выведка і пастаноўка задач камандзіра танкаў не затрымалі руху пяхоты ўперад, тады ён зрабіў правільна. Калі-ж яго мерапрыемствы затрымалі пяхоту, то мы лічым, што ў камандзіра батальёна было даволі даных аб умацаваньнях праціўніка, каб даць задачу танкам па карце.

Другое пытаньне, на якім мы лічым патрэбным спыніцца, гэта аб колькасьці танкаў, якія дадаюцца другім эшалёнам.

Каму больш дадаць танкаў НПП, 1-му эшалёнуабо 2-му? На гэта трэба адказаць так. Наогул заўсёды пакажа абстаноўка, як разьмеркаваць танкі, але ў прынцыпе пытаньне павінна вырашацца наступным чынам: цяжэй за ўсё перамагчы пярэдні край,

---

1) Пяхоце таксама патрабуецца час для арыентыроўкі і пастаноўкі задач часьцям, але, зразумела, менш, чым танкам.

перад якім і на якім будзе згрупавана больш за ўсё агню. Таму тут трэба больш танкаў. Значыць 1-му эшалёну трэба дадаваць большую колькасьць танкаў, чым 2-му У карысьць даданьня большага ліку танкаў гаворыць і тое, што танкі, даданыя 1-му эшалёну пяхоты, могуць быць выкарыстаны з 2-ім эшалёнам, а танкі апошняга ўдзелу ў баі 1-га эшалёна прыняць ня могуць.

З гэгага, зразумела, ня трэба рабіць вываду, што 2-ім эшалёнам пяхоты ня трэба дадаваць танкаў наогул. 2-я эшалёны павінны быць падтрыманы сьвежымі танкавымі часьцямі. Больш таго, калі мясцовасьцьць на пярэднім краю нязручная для выкарыстаньня танкаў і ў глыбіні закрыта і не дае магчымасьці артылерыі добра падтрымаць пяхоту, то ў такіх выпадках, як, напрыклад, у разглядаемай задачы, 2-м эшалёнам пяхоты трэба дадаваць роўную або нават большую колькасьць танкаў, чым 1-му эшалёну, бо танкі павінны будуць у даным выпадку папоўніць пяхоце слабеючы агонь артылерыі.

Прыведзеным прыкладам мы стараліся яшчэ раз падкрэсьліць, што рашэньне па выкарыстаньню танкаў ні ў якай меры ня можа быць шаблённым. Кожны раз трэба, выходзячы з абстаноўкі і мясцовасьці, рашаць задачу па-новаму, у адпаведнасьці з даным канкрэтным выпадкам. У прыведзеным прыкладзе мы і хацелі паказаць адзін з магчымых канкрэтных выпадкаў.

## Дзействы танкаў з-за флянгу

### Абстаноўка

Праціўнік, прыкрываючы чыгунку, адыходзіць з ар'ергарднымі баямі на поўдзень па бакох ракі Ласосна і $3^{00}$26.7 заняў палажэньне, указанае на чарцяжы 16. На правым беразе ракі было выяўлена каля двух батальёнаў пяхоты і чатырох батарэй і бронягоезд, якія абаранялі м. Кузьня.

89 с. п., наступаючы ў саставе сваёй дывізыі, вышаў к $10^{00}$ 26.7 на фронт вышыням 89,6—Карч.—вышыня 94,3, маючы задачай аўладаць м. Кузьня і адкінуць праціўніка на захад ад чыгункі. З прычыны моцнага кулямётнага агню з боку вышынь 82,3, 85,5, 90,0 і артылерыйскага агню з-за вышынь 97,2 і 98,4 полк далей прасунуцца ня мог.

Справа наступаў 88 с. п., зьлева нашых часьцей няма. Па даных выведкі вядома, што флянг праціўніка недзе ў раёне вышыні 90,0.

Дзьве роты лёгкіх танкаў, даданыя палку, прыбылі к гэтаму часу з Гродна і выгружаліся з грузавікоў каля ўр. Багны.

Камандзір танкавага батальёна і яго камандзіры рот з выведкай прыбылі да камандзіра палка на вышыню 94,4.

## Ацэнка абстаноўкі і прыняцьце рашэньня камандзірам палка.

Агледзеўшы мясцовасьць і ацапіўшы абстаноўку, камандзір палка прышоў да вываду, што неабходна хутка нанесьці праціўніку ўдар па адкрытаму флянгу і адкінуць яго за раку, каб ня даць яму часу ўмацавацца на абараняемым вучастку. З адказаў на яго пытаньні спэцыялістаў ён ведаў, што цэнтралізаваны агонь артылерыя здолее даць к 12 гадзінам і 30 мінутам і што танкі могуць быць выкарыстаны на ўсёй паласе абароны.

Удар у флянг здаваўся камандзіру палка найбольш адпаведнымі спосабам дзействаў. Пры гэтым апошні меркаваўся ў двух варыянтах:

1. Атакаваўшы праціўніка з фронту ўсімі танкамі і невялікай часьцю пяхоты, галоўнымі сіламі палка (двума батальёнамі) нанесьці яму ўдар у флянг у кірурку вышыні 91,8—паўночная ўскраіна м. Кузьня.

2. Раптоўна атакаваць праціўніка танкамі ў флянг, адначасова вядучы пяхотай з часткай танкаў атаку з фронту і ў абхват яго правага флянгу.

Першы спосаб дае магчымасьць наваліцца большай часткай сіл пяхоты на флянг праціўніка. Але для правядзеньня яго патрэбна перагрупоўка пяхоты. А гэта патрабуе шмат часу, бо на вачох у праціўніка гэтай перагрупоўкі рабіць нельга, і трэба або чакаць наступленьня цемнаты, або рабіць глыбокі абход без назіраньня праціўніка.

Пры другім спосабе на флянг праціўніка можна напасьці значна хутчэй, бо танкі могуць быць скрытна і ў кароткі час згрупаваны для такога ўдару.[1])

Паколькі атакаваць праціўніка трэба магчыма хутчэй і больш раптоўна, камандзір палка прыняў другі спосаб, які дае магчымасьць нанесьці ўдар праз дзьве гадзіны.

Для забясьпечаньня раптоўнасьці атакі ён рашыў артылерыйскую падрыхтоўку весьці вельмі нядоўга—15 мінут.

Раптоўнасьць-жа патрабуе скрытнасьці руху, і якраз мясцовасьць дае магчымасьць танкам скрытна падыйсьці да аб'екту нападу—да правага флянгу праціўніка. Але разьезды апошняга, пранікаючы ва ўр. Горкі і на поўнач ад яго, могуць выявіць падыходзячыя танкі і паведаміць свае часьці; тады раптоўнасьць нападу будзе няпоўная. Для адхіленьня гэтага трэба загадзя заняць сваімі часьцямі ўр. Горкі.

## Распараджэньне камандзіра палка

Прыняўшы рашэньне, камандзір палка аддаў распараджэньні, сутнасьць якіх зводзілася да наступнага:

---

[1]) Наогул з прычыны быстраходнасьці танкаў іх часта выгадней выкарыстоўваць там, дзе патрэбен выйгрыш часу.



88 с. п.
89 с. п
94.4
I б-н
89,6
82,3
Ур Багны
Пас
III б-н
88,0
85,5
Карч
92,3
II б-н
94,3
91,2
91,8
98,4
90,0
Танк рота
Ур Горкі
р. Ласосна
Кузьня
1 0 1 2 3 км.


Чарцёж 16.

1. I батальён без адной стралковай роты (у рэзэрве палка) атакуе праціўніка правей шашы ў кірунку вышыні 88,0—чыгуначная будка.

II батальён атакуе праціўніка лявей шашы ў кірунку вышыні 91,8—паўночныя ўскраіна м. Кузьня.

III батальён к пачатку атакі згрупоўваецца ва ўр. Горкі [1]), атакуючы праціўніка ў кірунку вышыні 90,0—царква ў м. Кузьня, адкідае яго за раку.

2. Адна рота танкаў складае групу ДПП, якая а 12 гадз. 45 м. займае выходныя пазыцыі на заходнім краю ўр. Горкі і ў $13^{00}$—атакуе праціўніка ў кірунку вышынь 90,0, 98,4 97,2, падаўляючы тут агнявыя кропкі і расстрэльваючы жывую сілу. Другая рота танкаў у якасьці НПП дадаецца паўзводна ўсім тром батальёнам для атакі пярэдняга краю.

3. Артылерыі падтрымаць атаку танкаў і пяхоты і змагацца з бронепоездам праціўніка. Барацьба з артылерыяй праціўніка вядзецца дывізіяй. Перад пачаткам атакі а $12^{40}$ для падаўленьня і асьляпленьня праціўніка дае моцны агонь па вышынях 82,3, 85,5, 88,0, 91,8, 97,2, 98,4, 90,0.

4. Коннаму ўзводу з кулямётным узводам 1 к. р. $11^{45}$ заняць заходні край ур. Горкі для забясьпечаньня скрытнага падыходу танкаў.

5. Пачатак атакі ў $13^{00}$. Сыгнал для атакі будзе паданы праз 15 мінут пасьля адкрыцьця згрупаванага агню артылерыяй па ўказаных ёй вышынях.

## Разьвіцьцё падзей

У $12^{00}$ конны ўзвод з кулямётным узводам занялі заходні край лесу паўночнай паловы ўр. Горкі і паслалі ўзятага з сабой танкавага выведчыка на матацыкле з данясеньнем да танкавай роты. Танкавая рота ад Пас. рушыла да выходных пазыцый.

У $13^{00}$ пад прыкрыцьцем 15-мінутнага артылерыйскага агню танкі вышлі з-за ўкрыцьцяў, і пяхота кінулася ўперад.

Група ДПП хутка падышла з флянгу да абарончай паласы праціўніка і пачала рухацца ўдоўж яе, расстрэльваючы яго пяхоту і падаўляючы агнявыя кропкі.

Раптоўнае зьяўленьне на флянгу цэлай роты танкаў унесла дэзарганізацыю ў рады праціўніка, і флянгавыя часьці яго месцамі пачалі адыходзіць да шашы і нават на захад.

Між тым танкі, якія наступалі з фронту, таксама навалiлiся на праціўніка. Пяхота шпаркім ударам захапіла першы рубеж вышынь, адціскаючы праціўніка да чыгункі і мястэчка.

К $15^{00}$ полк заняў усю абарончую паласу, адкінуўшы праціўніка за раку пад удар 88 с. п.

---

[1]) Можа скрытна перайсьці з ур. Багны ва ўр. Горкі.

Разбор. Гэту задачу мы прывялі толькі ў агульных рысах, каб паказаць яшчэ адзін з спосабаў узаемных дзействаў танкаў і пяхоты. Шмат падрабязнасьцяй намі выпушчана, каб не паўтарацца.

У гэтай задачы цікавы спосаб дзействаў танкаў і пяхоты— вядзецца атака з-за флянгу.

Апрача таго трэба адзначыць:

Атака вядзецца з кароткай артылерыйскай падрыхтоўкай перад самым кідком уперад для асьвятленьня назіральнікаў і падаўленьня праціўніка. Атака з такой артылерыйскай падрыхтоўкай стала магчымай толькі таму, што насычэньне танкамі выстарчальнае, і праціўнік не пасьпеў добра ўмацавацца, а мы дасягаем большай раптоўнасьці.

Танкі наносяць удар у флянг, праходзяць па ўсім фронце, расстрайваюць усю абарону праціўніка і тым самым палягчаюць пяхоце аўладаньне ім. Тут танкі маюць перавагу перад пяхотай дзякуючы сваёй скорасьці, якая ў 3—4 разы перавышае скорасьць пяхоты.

Клопаты камандзіра палка аб скрытым згрупаваньні групы ДПП. Ён пасылае конны ўзвод для заняцьця заходняга краю ўр. Горкі, г. зн. такога пункту, які дае магчымасьць танкам няпрыметна для праціўніка згрупавацца і раптоўна навалiцца на яго.

## Танкаая група ДД[1])

Аб'ектамі для танкавай групы ДД зьяўляюцца артылерыя, штабы, рэзэрвы палкавыя і дывізійныя. Калі адна і тая самая група ДД выконвае ўсе гэтыя задачы, то агульнавайсковы начальнік абавязаны ўказаць чарговасьць іх выкананьня.

Разьлік неабходных танкавых сродкаў трэба рабіць, выходзячы з наступнага: для падаўленьня адной батарэі патрэбна ня менш узвода (5 танкаў на 4 гарматы). Апрача таго трэба памятаць, што група ДД, дайшоўшы да сваіх аб'ектаў атакі, панясе страты ад процітанкавых сродкаў праціўніка. Гэта патрабуе павялічэньня патрэбнай нормы танкаў.

У ДД павінны назначацца машыны сярэдняга тыпу. Даданьне якіх-небудзь выведчых сродкаў—у выглядзе танкетак, ня мае сэнсу, бо іх праходнасьць надзвычайна малая. Сродкамі выведкі ДД зьявяцца тыя самыя сярэднія танкі, толькі вылучаныя спэцыяльна для гэтай задачы.

Танкавая выведка вядзецца пасьля атрыманьня задачы ад камандзіра стралковага корпуса.

Яе задачамі будуць: выбар і разьмеркаваньне выходных пазыцый, вызначэньне шляхоў падыходу да выходных пазыцый, выбар кірункаў для баявых курсаў рот.

---

[1]) Як правіла ў групу ДД назначаюцца танкі ў колькасьці ня менш двух рот.

На выведку паедуць камандзір батальёна, начальнік штаба, камандзір рот, камандзір узвода кіраўніцтва і сродкі выведкі ад батальёну і рот.

Танкавая выведка павінна абавязкова прыкрывацца пяхотнымі часьцямі [1]).

Выходныя пазыцыі лепш займаць у цемнаце, але нязадоўга да пачатку атакі (1—2 гадзіны), каб ня даць праціўніку магчымасьці выявіць танкі. Заняцьце выходных пазыцый трэба маскіраваць палётам авіяцыі над разьмяшчэньнем праціўніка і артагнём (актыўны пошук з артпадтрымкай). У даным выпадку гэта маскіроўка не патрабуецца, бо выходныя пазыцыі знаходзяцца ад пярэдняга краю праціўніка ў $2^1/_2$ км, і таму наўрад ці пачуе праціўнік рух танкаў, хоць асьцярожнасьць ня шкодзіць.

З боку сапёраў дапамога танкам пры заняцьці выходных пазыцый будзе заключацца ў абсталяваньні дарогі, па якой танкі пойдуць да выходных пазыцый, і ў зьнішчэньні сьлядоў вусеніц, асабліва на паваротах.

Шлях для руху танкаў неабходна выбраць найменш блытаны, хоць магчыма і не карацейшы, памятуючы, што ноччу рух будзе бяз фар, а павароты і малазаметная дарога надзвычайна сьцішаць рух.

## Узаемадзейства з іншымі родамі войск

Група ДД будзе весьці бой ва ўзаемадзействе з пяхотай, артылерыяй і авіяцыяй. З пяхотай узаемадзейства будзе заключацца ў тым, што пяхота прыкрые танкавую выведку і заняцьце танкамі выходных пазыцый, а таксама правядзе выведку мінных палёў. З боку танкаў пяхоце будзе аказана дапамога шляхам падаўленьня артылерыі ў найбольш цяжкі для пяхоты момант атакі пярэдняга краю абароны.

Артылерыя можа маскіраваць заняцьце выходных пазыцый; зрабіць агнявое аблямаваньне танкаў з боку флянгаў і пры руху іх цераз абарончую сыстэму праціўніка, нэйтралізаваць батарэі, на якія накіроўваюцца танкі да падыходу туды групы ДД і стварыць другі раз аблямаваньне танкаў пры руху іх назад.

Авіяцыя здолее пусьціць дым заслону для аблямаваньня з флянгаў шляху руху групы ДД, штурмаваць батарэі праціўніка ў той момант, калі артылерыя наступаючага спыніць на іх стральбу, а танкі яшчэ не дайшлі да іх. Можа суправаджаць танкі самалётамі.

Разьлік часу. Група ДД дзействуе ў інтарэсах пяхоты, таму яна павінна атакаваць артылерыю ў найбольш цяжкі для

---

[1]) На манэўрах 1931 г. танкавая выведка двух танкавых батальёнаў N-скай часьці, будучы нікім ня прыкрытай, ледзь пазбавілася ад палону, і то толькі па прычыне нерашучых дзействаў кавэскадрона, які хоць і атакаваў, але поўна, даўшы скрыцца танкістам у канаве.

пяхоты момант—атакі пярэдняга краю. Адсюль—момант выхаду танкаў з выходных пазыцый азначыцца колькасьцю часу, патрэбнага танкам для праходжаньня адлегласьці ад выходных пазыцый да аб'екту атакі (выходзячы са скорасьці руху ў сярэднім каля 15 км. у гадзіну), і плюс 5 мінут для таго, каб адцягнуць поўнасьцю ўвагу батарэй на сябе. (На поўнае зьнішчэньне батарэй патрабуецца 10—15 мінут). Атрыманы час аднімаецца ад часу пачатку атакі, і ён дае момант выхаду групы ДД з выходных пазыцый. Напрыклад, адлегласьць ад выходных пазыцый групы ДД да аб'екту атакі (батарэі праціўніка) роўна 6 км. Для таго, каб танкам прайсьці гэту адлегласьць, патрабуецца 6×4=24 (з разьліку 1 км. у 4 мінуты), акруглена 25 мінут + 5 мінут для завязкі барацьбы з батарэямі, а ўсяго 30 мінут. Пачатак атакі пяхоты назначан на Ч+45[1]). Такім чынам, каб група ДД падавіла артылерыю праціўніка, да пачатку атакі пяхоты будзе патрабавацца выхад яе з выходных пазыцый у Ч+15 (Ч+45—30). У тактычным прыкладзе, які прыводзіцца, адлегласьць роўна 9 км., значыць патрабуецца 36+5=41 мінута. Пачатак атакі пяхоты назначан на Ч+1. Значыць, група ДД павінна выйсьці ў 4+20. (Ч+60—41=Ч+19=Ч+20). Страі і парадкі павінны быць пры руху кампактнымі, каб было зручна кіраваць, глыбокімі для зручнасьці манэўру, даволі разрэджанымі (ня менш 50 м інтэрвал і дыстанцыя паміж танкамі, каб ня несьці вялікіх страт ад артылерыі абароны, забясьпечваць сябе выведкай ад актыўных і пасыўных процітанкавых сродкаў.

Страі і парадкі батальёна могуць быць наступнымі (гл. чарц. 42 у канцы кнігі).

Сродкі кіраўніцтва.

Радыё да камузвода ўкл. У камандзіра батальёна з радыусам каля 10 км. і камандзіраў рот і ўзводаў каля 1 км.

Сыгналізацыя флажкамі можа ўжывацца ў роце і ўзводзе. У перадбаявым парадку і ў паходным руху ротай можна кіраваць флажкамі. У баі-ж, калі рота ў лініі, кіраваць флажкамі цяжка.

Асабісты прыклад—ва ўзводзе і часткова ў роце.

Загаданьне—ва ўсіх зьвеньнях.

Зборныя пункты. Зборныя пункты групы ДД могуць быць прамежнымі, куды танкі зьбіраюцца пасьля выкананьня імі прыватных задач. Канцовымі для прывядзеньня танкамі сябе ў парадак пасьля выкананьня ўсёй задачы, запаснымі—на выпадак, калі-б канцовы зборны пункт быў заняты праціўнікам, і ўмоўнымі—на выпадак няўдачы.

У групе ДД гутарка можа ісьці аб канцовым зборным пункце, які назначаецца агульнавайсковым камандзірам—камандзірам стралковага корпуса сваёй групе ДД і аб зборных прамежных пунктах, якія назначаюцца камандзірам групы ДД пасьля выкананьня ротамі прыватных задач.

---

[1]) Ч—час пачатку артпадрыхтоўкі.

Месцаразьмяшчэньня апошніх ня выклікае ніякіх спрэчак; як відаць, гэтыя зборныя пункты павінны назначацца недзе поблізу тых аб'ектаў, якія будуць танкамі падаўляцца і павінны даваць магчымасьць адразу быць гатовымі кінуцца ў бой у гэтым-жа раёне.

Зусім інакш абстаіць пытаньне аб месцы разьмяшчэньня канцовых зборных пунктаў групы ДД, якія назначаюцца агульнавайсковым начальнікам. Тут паўстае пытаньне, дзе іх назначаць: ці ў разьмяшчэньні праціўніка, ці ў пункце, які прыкрываецца сваімі войскамі. І тое і другое мае свае плюсы і мінусы. Ёсьць думка, што канцовы зборны пункт групы ДД павінен быць у раёне аб'ектаў яе дзействаў. Прыхільнікі такой думкі абгрунтоўваюць яе тым, што група ДД павінна ўвесь час падаўляць гэтыя аб'екты, не даючы ім ажываць і на іх месца прыбыць іншым. Гэта бязумоўна важны довад, пры тым прапануючы актыўна вырашаць пытаньні барацьбы пры дапамозе танкаў у глыбіні.

Але гэты-ж пункт погляду ў многім і няправільны. Напрыклад, як можна чакаць (хоць-бы і барацьба з праціўнікам, але ад гэтага-ж не лягчэй, а наадварот), каля дзьвюх гадзін падыходу сваіх часьцей на зборным пункце недзе ў глыбіні абарончай паласы праціўніка. Людзі павінны ўвесь час быць у напружаньні. Вылезьці з машыны амаль немагчыма, бо ты, будучы абкружаны праціўнікам, павінен быць увесь часъ напагатове; у выніку ўсё-ж часта будуць выпадкі, калі такая група ДД будзе засьцігнута праціўнікам зьнянацку і панясе вялікія страты, асабліва ў асабовым саставе. Гэта наша думка цалкам пацьвярджаецца вопытамі вучэньняў гэтага году, калі група ДД, „наваяваўшыся", забралася ў сад, дзе пачала чакаць падыходу сваіх часьцей, якія падыйшлі толькі праз $2^1/_2$ гадзіны; прычым наступленьне пяхоты, якая падтрымлівалася, разьвівалася зусім пасьпяхова і нармальна. Але тут прамы разьлік да артпазыцыі каля 6 км. пяхоце наступаць трэба каля 3 гадзіны, а танкі ў паўгадзіны ўсё зрабілі. Ясна, што ім прышлося і ў далейшым прыдзецца чакаць сваёй пяхоты ня менш 2 гадзін, калі канцовы зборны пункт будзе назначаны ў глыбіні. І ў рэзультаце ня група ДД зьвязала праціўніка ў глыбніні, а, наадварот, сама не магла нічога зрабіць і была-б выведзена са строю.

Яшчэ адзін довад, або больш правільна карэктыў, да думкі супроць таго, што група ДД ня можа бесьперапынна атакоўваць у глыбіні пры тых разьліках колькасьці групы ДД, якія мы зараз робім. Нашы разьлікі сродкаў, якія назначаюцца ў групу ДД, вызначаюцца колькасьцю тых аб'ектаў, якія мы хочам, каб танкі падавілі да пачатку атакі пяхоты, гэта правільна, калі група ДД толькі і будзе змагацца з гэтымі аб'ектамі, але калі вы жадаеце групе ДД ставіць задачу змагацца ўвесь час у глыбіні з новымі цэлямі, што зьяўляюцца, то тады неабходна і разьлікі рабіць новыя—значна павялічваючы ранейшыя з тым, каб група ДД ня несла страт да апошняй машыны, а сапраўды магла-б біцца.

Выходзячы з гэтых меркаваньняў трэба назначаць канцовы зборны пункт танкаў ДД у месцы якое прыкрываецца сваёй пяхотай. Гэта неабходна ня толькі для таго, каб даць магчымасьць танкам прывесьці сябе ў парадак, але і для таго, каб агульнавайсковы камандзір меў-бы магчымасьць паставіць новую задачу танкам.

Такім чынам, канцовы зборны пункт для групы ДД павінен назначацца недзе ў раёне срудшанца праціўніка, бо танкам ДД для выкананьня ўсёй сваёй задачы і звароту назад патрабуецца каля $1^1/_2$ гадзін. А пяхота за гэты час пры нармальньным наступленьні пасьпее аўладаць раёнам срудшанца.

Прамежныя зборныя пункты танкаў ДД назначаюцца камандзірам групы ДД. Яны павінны даваць магчымасьць коратка арыентавацца ў абстаноўцы і пастаноўкі новых задач ротам. Гэтыя пункты будуць у якім-небудзь закрыцьці поблізу аб'екту атакі. Колькасьць такіх зборных пунктаў залежыць ад ліку цэляй і ў працэсе бою можа адпаведна павялічвацца.

Ні ў якім разе ня трэба баяцца, што, дайшоўшы да глыбіні артпазыцыі і рэзэрваў і вярнуўшыся потым назад, група ДД нічога ня зробіць, бо, пашоўшы з гэтага раёну, танкі дадуць магчымасьць асесьці тут праціўніку. Гэта няправільна па той прычыне, што раз танкі дойдуць да артылерыі, то яны яе зьнішчаць, бо падаўленьне тут у яе быць ня можа; кіраўніцтва будзе парушана, і аднавіць яго можна будзе ня так скора; апрача таго падаўленьне адбудзецца тады, калі пяхота ў гэтым больш за ўсё адчувае патрэбу, г. зн. пры атацы яго пярэдняга краю. Такім чынам прызначэньне канцовых зборных пунктаў у разьмяшчэньні, прыкрытым сваёй пяхотай, дае магчымасьць у патрэбны час падавіць праціўніка і потым выкарыстаць танкі ДД для далейшай задачы. А танкі атрымліваюць магчымасьць спакойнага агляду матэрыяльнай часткі.

Таму канцовыя зборныя пункты трэба назначаць у мясцох, занятых ужо сваёй пяхотай.

Калі прасачыць за работай танкавай групы ДД ад атрыманьня задачы да яе выкананьня, то яна будзе праходзіць у наступнай пасьлядоўнасьці.

Камандзір групы ДД атрымае задачу ад агульнавайсковага камандзіра. Пасьля гэтага ён накіруецца з камандзірамі рот на танкавую выведку.

Прыбыўшы з выведкі ў штаб агульнавайсковага злучэньня, камандзір групы ДД дае свае заяўкі артылерыі і авіяцыі на падтрыманьне і ўзгадняе пытаньні ўзаемадзейства з гэтымі і астатнімі родамі войск. У гэты-ж час і будуць напісаны тут адпаведныя графы плянавай табліцы бою.

Пасьля таго як па пытаньнях узаемадзейства ў штабе будзе ўсё агаворана, камандзір групы ДД накіруецца да сябе ў часьць для адданьня адпаведных распараджэньняў і правядзеньня ў жыцьцё загаду агульнавайсковага камандзіра.

У гэты час будуць канчаткова вызначаны выходныя пазыцыі і шляхі падыходу да іх. Апошнія будуць падрыхтаваны для руху па іх танкаў ва ўмовах цемнаты, таму што заняцьце выходных пазыцый будзе адбывацца, як правіла, ноччу за 1-2 гадзіны да пачатку атакі.

Заняўшы выходную пазыцыю, камандзір групы ДД зараз-жа зьвяжацца з штабам агульнавайсковага злучэньня і праз яго або самастойна і з авіяцыяй і штабам старшага артначальніка.

Вышаўшы з выходных пазыцый у раней назначаны час, група ДД у глыбокіх страёх пойдзе да пярэдняга краю. У гэты час артылерыя (група ПП) павядзе агонь на асьляпленьне назіральнікаў праціўніка на яго парэднім краі і артгрупа ДД на нэйтралізацыю батарэй праціўніка.

Вышаўшы на мясцовасьць перад пярэднім краем, дзе група танкаў ДД ужо назіраецца і можа паражацца артагнём праціў-




Чарцёж 17.

ніка прамой наводкай, танкі ДД перастрбяцца ў перадбаявы парадак. У апошнім яны будуць праходзіць усю абарончую паласу праціўніка да моманту выведваньня для атакі сваіх цэляй. У гэты пэрыод свая артылерыя працягвае весьці агонь на падаўленьне артылерыі праціўніка; па пярэдняму краю на асьвятленьне вядзецца агонь да таго часу, пакуль ёсьць магчымасьць не паражаць свае танкі; батарэі суправаджэньня танкаў з адкрытых пазыцый вядуць агонь прамой наводкай па процітанкавых гарматах праціўніка, якія выяўляюцца. Авіяцыя ставіць дымзаслону, каб засланіць баявы курс танкаў справа і зьлева.

Такім чынам танкі, падтрыманыя артагнём і скрытыя дымзаслонай, падыходзяць прыблізна за $^3/_4$—1 км. да артпазыцыі праціўніка (гэта будзе недзе ў раёне пазыцыі „Запарова")- Тут танкі ДД падаюць сыгнал „падыходзім"[1]). Па гэтаму сыгналу,

1) Сыгнал падаецца па радыё і дубліруецца ракетамі.

які падаецца з загадзя ўмоўленага рубяжу і які дубліруецца спэцыяльным назіраньнем з боку артылерыі авіяцыі і самалётам суправаджэньня (пікіруюць), артылерыя ДД спыняе агонь. У гэты момант авіяцыя штурмуе батарэі праціўніка, на якія нацэлены танкі ДД. Пасьля таго, як штурмаваньне скончыцца, падойдуць да сваіх цэляй танкі і, разгарнуўшыся, атакуюць ужо расстроеныя батарэі, ня даўшы ім апомніцца.

Пасьля зьнішчэньня артылерыі праціўніка танкавыя роты ДД падаюць сыгнал „падавілі" і зьбіраюцца на прамежным зборным пункце, які ім назначыў камандзір групы. Тут яны могуць атрымаць або новую задачу на падаўленьне рэзэрваў, або загад ісьці назад на канцовы зборны пункт. Калі група ДД атакуе ў глыбіні новыя цэлі, то камандзір групы ўказвае ротам парадак атакі і зборныя пункты. Пасьля чаго ўжо з гэтых апошніх уся група пойдзе назад на канцовы зборны пункт, раней падаўшы сыгнал „вяртаемся". Рухацца назад трэба па таму-ж кірунку, што і ў атаку. Выгады тут тыя, што, па-першае, танкі ідуць па знаёмай мясцовасьці, па-другое, палягчаецца атрыманьне дапамогі з боку авіяцыі і артылерыі. Прыбыўшы на канцовы зборны пункт, камандзір групы ДД падае сыгнал „прыбылі" і даносіць аб гэтым свайму агульнавайсковаму камандзіру, ад якога ён павінен быць гатоў атрымаць і выканаць новую задачу.

У адносінах дзействаў групы ДД трэба адзначыць, што хоць танкавы батальён, які складае групы ДД, можа выходзіць з выходных пазыцый і рухацца да сваіх цэляй разам, аднак кожная танкавая рота атрымлівае свой аб'ект для падаўленьня, які яна зьнішчае самастойна.

## Тактычны прыклад

Чарцяжы 17, 18, 19, 20, 21, 22

1. IV с. к. у саставе 4, 5 і 6 с, д. з дадонымі пяцьцю танкавымі батальёнамі, трыма артпалкамі РГК і АГ, прасьледуючы праціўніка перадавымі часьцямі сваіх дывізій, быў спынены праціўнікам і к поўдню 10. 7. 31 займаў палажэньне, паказанае на чарцяжы 17.

2. Корпус, зьяўляючыся ўдарным у саставе арміі, мае задачай на сьвітаньні 12. 7. прарваць праціўніка на фронце Мацэлеўшчызна, ф. Буракоўцы і к канцу дня выйсьці на р. Шчара (17 км на захад ад пярэдняга краю).

3. Камандзір корпуса рашыў атакаваць праціўніка згодна чарцяжу. Галоўны ўдар наносіцца ў цэнтры 6 с. д. Бліжэйшая задача дывізіі—выхад на р. Ведзьма, далейшая—выхад на р. Шчара.

4. Гаі перад пярэднім краем заражаны АМ. Балоты і ручаі падсохлі, але ўсё-ж іх праходнасьць дакладна невядома. Патрабуецца дадатковая выведка іх.

## Работа камандзіра стралковага корпуса.

### Разьмеркаваньне танкаў

Усяго ў корпусе 5 батальёнаў.

З іх: у 6 с. д., якая наносіць галоўны ўдар—2 танкавыя батальёны.

у 5 с. д.—4 танкроты ( 1 сярэдні танк і 3 роты лёгкіх).

у 4 с. д.—2 роты лёгкіх танкаў.

У групу ДД—1 танкавы батальён.

Даючы танкі ў 6 і 5 с. д, камандзір корпуса, калі знойдзе патрэбным, можа ўказаць: „Камандзіру 6 с. д. мець ня менш двух рот у ДПП і 5 с. д. ня менш аднэй роты“.

У даным канкрэтным выпадку гэта ўказаньне будзе патрэбна з прычыны важнасьці, якую мае вышыня 100,5 для наступленьня ўсяго корпусу.

Пастаноўка задач групы ДД камандзірам стралковага корпуса. Камандзір стралковага корпуса паставіў задачу камандзіру а. т. б. „Танкгрупа ДД—XV а. т. б. задача—к пачатку атакі пяхотай пярэдняга краю, падавіць артылерыю праціўніка ў раёне на поўнач ад спадаў вышыні 93,2, Падлесьсе.

Пасьля гэтага разьбіць рэзэрвы праціўніка ў раёне Лазовічы. Кірунак руху ў атаку—паласа наступленьня 6 с. д. Зборны пункт пасьля выкананьня абедзьвюх задач—усходнія спады на вышыні 100,5

Пад прыкрыцьцем перадавых часьцей правесьці выведку к $8^{00}$ 10.7. Рэзультаты выведкі к $10^{00}$—у штакор.

Чакальныя пазыцыі — паўночна-ўсходні вугал лесу, што ў 2 км на ўсход ад Вяжэўцы—заняць ноччу з 10 на 11-е. Масты цераз раку Лань падрыхтуе „карынж“.

Пасьля гэтага камандзір танкавага батальёна накіраваўся ў выведку (работу танкавай выведкі глядзі ніжэй).

## Работа ў штабе стралковага корпуса

У $10^{00}$ камандзір а. т. б. прыбыў з выведкі ў штаб стралковага корпуса, дзе зрабіў наступны даклад: „Тав. начальнік штаба! Група ДД пойдзе ў атаку з Яцкаўшчызна праз гай і далей па лагчыне р. Шавалёўка прыкладам у 0,5 км. на поўдзень ад самай ракі да лініі заходняй ускраіны Шавялі, адкуль разгорнецца для атакі трох батарэй“.

„Прашу: на першы пэрыод руху групы ДД—ад гаю да пярэдняга краю—агонь артылерыі прамой наводкай па ўсіх процітанкавых гарматах, якія выявяць сябе пры руху танкаў, і апрача гэтага прашу асьляпіць разьмяшчэньне праціўніка ў раёне вышыні 100,5 і яе паўночных і паўднёвых спадаў.

На другі пэрыод руху групы ад пярэдняга краю да лініі заходняй ўскраіны Шавялі прашу агнявога аблямаваньня або

ўтварэньня дымазаслоны: справа—Шавялі; зьлева—вышыня 100,5 кл: на паўночна-ўсходняй ускраіне Падлесьсе, вышыня 93,2:. у гэты-ж пэрыод прашу артагню па батарэях № 101, 102, 103

У трэці пэрыяд, пры падыходзе танкаў да лініі заходняй ускраіны Шавялі, па майму сыгналу прашу агонь па батарэях спыніць і даць агонь або дымзаслону на флянг і: справа—Шавялі ф. ст. Ляховічы; зьлева—100 м. на поўдзень ад Падлесься і па ўсёй даўжыні гэтай вёскі".

„Пасьля звароту групы на пункт збору танкі пойдуць па ранейшаму маршруту. Апрача гэтага, прашу суправаджэньня групы ня менш чым двума самалётамі.

„Дакладны разьлік па часу і інш і аб умоўных сыгналах дазвольце зрабіць майму начальніку штаба".

Начальнік штаба корпуса: „Тав. начарт, камандзір корпуса загадаў вылучыць 2 батарэі спэцыяльна для барацьбы з адкрытых пазыцый з процітанкавымі гарматамі праціўніка, потым асьляпіць праціўніка на вышыні 100,5 і нэйтралізаваць яго батарэі № 101, 102, і 103 да моманту, неабходнага танкам. Забясьпечце таксама бясьпечнае (ад сваіх знарадаў) прасоўваньне танкаў да аб'ектаў атакі і назад. Усе пытаньні аб часе, сыгналах і назіраньні ўзгадніце дадаткова за камандзірам танкавага батальёна.

Камандзіру АГ: „Камандзір корпуса загадаў вылучыць два самалёты суправаджэньня танкаў для сувязі на час ад выхаду з выходных пазыцый да звароту іх на зборны пункт утварыць дымзаслоны ў пунктах, указаных камандзірам а. т. б. Дакладны час утварэньня і працяглась дымзаслоны, а таксама умоўныя сыгналы ўзгадніце з камандзірлм танкавага батальёна дадаткова"

Начальніку I часткі: „Пасьля канчатковага ўзгадненьня ўсіх пытаньняў паміж камандзірам а. т. б., начартам і камандзірам АГ упішыце адпаведна іх пункты ў плянавую табліцу. Дайце ўказаньні ў штабы стралковых дывізій, каб танкі ДПП разьлічылі свой выхад з разьлікам зьяўленьня на пярэднім краі праціўніка адначасова з танкамі ДД".

Пасьля гэтага камандзіры танкавага батальёна, АГ і начарт разыйшліся, загадаўшы сваім начальнікам штабаў канчаткова дагаварыцца па ўсіх пытаньнях.

Начальнік штаба а. т. б: „Гатоўнасьць да адкрыцьця агню прамой наводкай з боку артылерыі і гатоўнасьць самалётаў суправаджэньня патрэбна з Ч. Дымзаслону ў другім пярыодзе пачаць ставіць у Ч+20 і падтрымліваць яе да Ч+45, г. зн. да падыходу да лініі заходняй ускраіны Шавялі. Тут танкам будзе паданы сыгнал па радыё „Трава" (азначае „падыходзім"). і сэрыя жоўтых ракет. Па гэтаму сыгналу артылерыі спыніць агонь па батарэях № 101. 102, 103; авіяцыі—даць дымазаслону ў пункты, як прасіў камандзір а. т. б. для трэцяга перыоду на час ад Ч+45 да Ч+1[10].

Пасьля падаўленьня артылерыі танкі дадуць сыгнал па радыё „сена (азначае „падавілі") і ракетамі—сэрыя ф і я л е т а в ы х.

Пасьля падаўленьня танкамі рэзэрву ў раёне Лазовічы (час каля Ч+$1^{50}$)—сыгнал па радыё „п ш а н і ц з" (азначае „скончылі") і сэрыя ч о р н ы х ракет.

Пасьля гэтага сыгналу танкі варочаюцца на зборны пункт, авіяцыя дае дымзаслону ў тых-жа пунктах і той-жа працягласьці, што і пры руху танкаў у атаку. Прыбыцьце на зборны пункт—усходнія спады вышыні 100,5 (час каля Ч+$2^{15}$)—сыгнал па радыё „п р о с а" (азначе „вярнуліся") ракеты—ч о р н ы я і чырвоныя.

НШ а р т г р у п ы: „па ўказаньню начальніка артылерыі забясьпечваць праход танкаў агнём праз пярэдні край будзе дывізіён ПА 6 с. д.—падрабязна дагаварыцеся з начартдывам 6 с. д. За танкавымі сыгналамі будуць устаноўлены спэцыяльныя назіральнікі".

НШ АГ: „Для суправаджэньня танкаў назначаецца два штурмавікі [1]). Лётчыкі зьявяцца ў штаб а. т. б. сёньня к $12^{00}$.

Начальнік 1-й часткі штакора гэта запісаў у выглядзе пунктаў плянавай табліцы (глядзі яе).

### Работа камандзіра групы танкаў ДД

Камандзір а. т. б. з НШ, прыбыўшы вечарам 10.7 з штаба корпуса, сабраў сваіх камандзіраў рот і памочніка камандзіра па тэхчастцы і аддаў ім наступнае загаданьне:

„1. IV с. к. з пяцьцю а. т. б., АГ і артлерыяй прарывае 12.7 у Ч+І абарончую паласу праціўніка на фронце Мацэлеўшчызна, с. Буракоўцы з задачай дня—выхад на р. Шчара.

2. Наш батальён складае групу ДД з задачай да пачатку атакі пяхоты зьнішчыць батарэі праціўніка ў раёне паўночных спадаў вышыні 93,2. Падлесьсе, пасьля чаго атакуе рэзэрвы ў раёне Лазовічы.

3. Кірунак руху абмежаваны: справа р. Шавялёўка, зьлева вышынямі 100,5, 93,2".

„Зараз мы з вамі паедзем на выведку для вызначэньня выходных пазыцый і баявых курсаў".

### Танкавая выведка

Камандзір а. т. б.: „На выведку са мной ехаць начальніку штаба, камандзіру ўзвода кіраўніцтва з некалькімі выведчыкамі і камандзірам рот. Зараз мы паедзем усе на заходні край лесу, што на захад ад Яцкаўшчызна, дзе вызначым дакладна баявыя курсы".

Прыехаўшы на месца, камандзір а. т. б. з дрэва заходняга краю гаю ўбачыў, што на адваротных спадах вышыні 100,5 цягнецца

[1]) Мы рэкамэндуем у якасьці самалётаў сувязі штурмавікоў, ка ня прыкрываць іх зьнішчальнікамі.

лес. Праходнасьць яго невядома, тамуісьці праз яго нельга. Выгадней ісьці на поўнач ад гэтага лесу. Па гэтай-жа прычыне, якая падваяецца наяўнасьцю на пярэднім краю Жарабковічы, нельга ісьці ў паласе 5 с. д.

Таму найбольш выгодна і скрытна ісьці па паўднёвым беразе лагчыны р. Шавялёўка. Але тут патрабуецца даведацца аб праходнасьці вытокаў гэтай ракі, якія праходзяць у паласе наступленьня 6 с. д.

Адсюль: „Начальніку штаба—устанавіце праз нашу пяхоту праходнасьць вытокаў р. Шавялёўка. Можна паслаць туды пару сваіх выведчыкаў, але здыміце з іх акуляры і скураное абмундзіраваньне (каб не дэмаскаваць).




Чарцёж 19.

Камандзірам рот: „Баявы курс батальёна пойдзе праз „Сухое дрэва" на „Чорную пуню", „Дзьве хвоі", вышыня 93,2. Перасякаць пярэдні край будзем у выпадку праходнасьці р. Шавялёўка ў $^3/_4$ км. на поўдзень ад ф. Жарабковічы, у адваротным выпадку мы пойдзем—у $1^1/_2$ км. на поўдзень ад ф. Жарабковічы".

Камандзіру 3 роты: „вы паедзеце па дарозе з Жарабковічы на Яцкаўшчызна і вызначыце магчымасьць прахаджэньня тут танкаў. Мы праедзем прама на Яцкаўшчызна. Сустрэнемся праз паўгадзіны ў Яцкаўшчызна".

Праехаўшы назад па лесе, яны ўстанавілі, што хоць лес і заражаны і зараз можна праехаць толькі па праходу, але ўсе балоты падсохлі, таму ў танку з надзетым процігазам рух усюды зусім магчымы. Самымі зручнымі выходнымі пазыцыямі зьяўляецца Яцкаўшчызна і вакольныя гаі. Такія-ж даныя аб лесе прывёз і камандзір 3-й роты.

## Плянавая табліца бою IV стралковага корпуса.

| Перыяды бою, задачы / Састаў злучэньняў | Ч + 1<br>1-шы пэрыод—артпадрыхтоўка і заняцьце выходнага палажэньня | (Ч + 1) + 4<br>2-гі пэрыод—перамаганьне галоўнай абарончай паласы і выхад на р. Ведзьма | С 4 + 5<br>3-ці пэрыод—разьвіцьцё посьпеху і выхад на р. Шчара. |
|---|---|---|---|
| 4 с. д.<br>1 і 2 р. IV а. т. б. | 1) На выходным палажэньні для атакі.<br>2) Артылерыя—артпадрыхтоўка па пляну КД. | Выходзіць на рубеж р. Ведзьма | 1) Разьвівае посьпех у кірунку Г. дв. Сялявічы, Г. дв. Адзіхаўшчына.<br>2) Падрыхтоўвае адзін батальён і МО для атакі тылавога рубяжу на р. Шчара |
| 6 с. д.<br>104 а. п. РГК 3 р./IV а. т. б., V а. т. б. 1 і 2 р./XV а. т. б. 1 зв./XIV а. а. а. | 1) На выходным палажэньні для атакі<br>2) Артылерыя—артпадрыхтоўка па пляну КД<br>3) Падрыхтоўвае праход танкаў ДД праз пярэдні край на сваім вучастку | Выходзіць на р. Ведзьма. | 1) Разьвівае посьпех на Дарава<br>2) Падрыхтоўвае адзін батальён і МО для атакі тылавога рубяжу па заходнім беразе р. Шчара |
| 5 с. д.<br>105 а. п. РГК 3 р./XV а. т. б., VI а. т. б., I зв. XIV а. а. а. | 1) На выходным палажэньні для атакі<br>2) Артылерыя—артпадрыхтоўка па пляну КД | Выходзіць на р. Ведзьма | 1) Разьвівае посьпех на Г. дв. Дарава<br>2) Падрыхтоўвае батальён і МО для атакі тылавога рубяжу па заходнім беразе р. Шчара. |
| Артгрупа ДД начарткор—т. М 4 к. а. п. 124 а. п. РГК, XV а. а. а. XIV а. а. а. (бяз двух зьвеньняў) IV узв. а. | 1) Ч+0[10] — падаўленьне напрыяцельскага кіраўніцтва (у прыватнасьці абстрэл штаба Г. дв. Рамашкі) і рэзэрваў у раёне Трабовічы, Лазавічы, Станчакі.<br>2) (Ч+0[10])+0[20]—падаўленьне непрыяцельскай артылерыі ў раёне Свяатычы, Падлесьсе, Шавялі, Ф. Зафілін | 1) Назіральны агонь па артылерыі праціўніка (асабліва па артылерыі ў раёне Падлесьсе).<br>2) Руйнаваньне пераправаў на рацэ Ведзьма | 1) Перадае КД 6 1 і (III) 4 к. а. п. і КД 5—IV/4 к. а. п.<br>2) Руйнаваньне пераправаў на раку Шчара і агнявой кропкі ў Залужжа, Г. дв. Адзіхаўшчызна і Дарава |

| Пэрыяды бою, задачы / Састаў злучэньняў | Ч + 1<br>1-шы пэрыяд—артпадрыхтоўка і заняцьце выходнага палажэньня | (Ч + 1) + 4<br>2-гі пэрыяд—перамаганьне галоўнай абарончай паласы і выхад на р. Ведзьма | С 4 + 5<br>3-ці пэрыяд—разьвіцьцё посьпеху і выхад на р. Шчара. |
|---|---|---|---|
| | 3) Ч+0$^{40}$)+0$^{20}$—працягвае падаўленьне рэзэрваў праціўніка ў раёне Трабовічы, Лазовічы, Стальчакі | 3) Працягвае падаўленьне рэзэрваў у раёне Трабовічы, Лазовічы. Станьчакі, агнявы напад па рэзэрвах і абозах на шляхох на захад ад р. Ведзьма<br>4) Працягвае парушэньне няпрыяцельскага кіраўніцтва (у прыватнасьці назіральны агонь па штабу ў Г. дв. Рамашкі.)<br>5) Перамяшчэньне батарэй уперад на новыя АП | 3) Агнявым нападам не дапускае падыходу няпрыяцельскіх рэзэрваў да р. Шчара і іх пераходу цераз яе.<br>4) Заканчвае перамяшчэньне ўперад батарэй на новыя АП |
| Танкгрупа ДД<br>Камбат XV т-т Н.<br>XV а. т. б. | 1) На выходных пазыцыях — Яцкаўшчызна і гаю на ўсход і захад ад яе<br>2) У Ч+15 выступленьне з выходных пазыцый рух праз гаі па паўночных спадах вышыні 100,5 на вышыню 93,2 для падаўленьня батарэй ў раёне Падлесьсе, вышыня 93,2 (паўночныя спады) | Падаўленьне рэзэрваў у раёне Рамашкі Г. дв. Заключын, Лазовічы і зварот (па ранейшаму маршруту) на пункт збору—усходнія спады вышыні 100,5 | Атрыманьне дадатковых задач. Мець на ўвазе магчымасьць перападначаленьня стралковых дывізій у мэтах прасьледваньня. |
| АГ.<br>Камбрыг IV—т. П. | 1) З Ч да Ч+0$^{40}$:<br>а) пастаноўка дымзаслоны для забясьпечаньня танкаў ДД<br>б) Руйнаваньне пераправаў на рацэ Ведзьма<br>в) Атака штаба ў Сваятычы<br>г) Падаўленьне рэзэрваў у раёне Трабовічы, Лазовічы, Станьчакі | 1) Недапушчэньне ўвядзеньня ў бой рэзэрваў з раёну Трабовічы, Лазовічы, Станьчакі | 1) Руйнаваньне пераправаў цераз р. Шчара і стварэньне паветрана хімічных пробак на іх (Залужжа, Г. дв. Адзіхаўшчызна, Дарава). |

| | | | |
|---|---|---|---|
| | 2) У Ч+0[40]—падаўленьне пры падыходзе танкаў ДД няпрыяцельскай артылерыі ў раёне Падлесьсе паўночных спадаў вышыні 93,2.<br>3) Забясьпечыць работу самалётаў назіраньня поля бою і не дапусьціць работы няпрыяцельскіх самалётаў назіраньня. | 2) Паражэньне няпрыяцельскай артылерыі, якая зьмяняе пазыцыі і адыходзіць на захад (асабліва пры спробах пераправіцца цераз р. Ведзьма)<br>3) Не дапусьціць падвядзеньня рэзэрваў да р. Ведзьма і іх пераходу цераз яе (асаблівая ўвага на кірунку Юшкевічы, Сваятычы і Баранавічы, Літва) | 2) Быць гатовым да паражэньня рэзэрваў, адыходзячых часьцей і абозаў праціўніка на шляхох на захад ад р. Ведзьма (асаблівая ўвага гасьцінцу Навасёлкі, Дарава и. Нов. Баранавічы). |
| Камандныя пункты КК | Ч[00] 12.7—вышыня 103,1 (3608) | з Ч+5—вышыня 93,2 (3503) | з Ч+8—вышыня 93,3 (каля Пранчакі). |
| Тэрміновыя даносеньні | 1) Аб ходзе артпадрыхтоўкі к Ч+0[30] і к Ч+1<br>2) Аб заняцьці выходнага палажэньня стралковай дывізіяй і танкгрупай ДД | 1) Пасьля выхаду на фронт ф. Зафілін Валасачы, Падлесьсе<br>2) Пасьля выкананьня задач | Пасьля выхаду да р. Шчара |
| Сыгналы | Танкгрупа ДД<br>1) „Падыходзяць да лініі Шавялі, Падлесьсе—сэрыя жоўтых ракет, па радыё: „трава"<br>2) „Падавілі" артылерыю—сэрыя фіялетавых ракет, па радыё, „сена"<br>А Г:<br>1) Атака штурмавікоў—сыгнал з танкаў ДД—сэрыя зялёных ракет<br>2) Спыненьне артагню—сыгналы з танкаў—сэрыя чырвоных ракет.<br>3) Атака няпрыяцельскай артылерыі пры падыходзе танкаў—сыгнал (сэрыя жоўтых і зялёных ракет) і радыё з самалёту суправаджэньня танкаў | Танкгрупа ДД<br>1) „Скончылі"—сэрыя чорных ракет, па радыё „пшаніца",<br>2) „Вярнуліся" на пункт збору—сэрыя чорных і сэрыя чырвовых ракет, па радыё „проса". | |

Камандзір а. т. б. у $9^{00}$ у Яцкаўшчызна: „Выходныя пазыцыі будуць у Яцкаўшчызна і ў гаі ў паўкілёмэтры на захад ад яе. Да пярэдняга краю пойдзем праз лес, як мы ехалі сюды. Дакладна выходныя пазыцыі і баявыя курсы ўкажу пасьля прыбыцьця з штаба корпуса".

„Камандзірам рот ехаць у батальён, начальніку штаба і камандзіру ўзвода кіраўніцтва,—са мной у штакор".

Пасьля танкавай выведкі і канчатковага ўзгадненьня ўсіх пытаньняў у штабе стралковага корпуса камандзір а. т. б. аддаў загад:

„1. Задача батальёна—зьнішчэньне батарэй № 101, 102, 103 і рэзэрваў у раёне Лазовічы, Г. дв. Рамашкі.

2. 1-й роце зьнішчыць батарэю № 101, 2-й роце—№ 102 і 3-й роце—№ 103; атакі рэзэрваў па дадатковаму загаду.

3. Выходныя пазыцыі: для 1-й роты—заходні край гаю, што ў паўкілёмэтры на захад ад Яцкаўшчызна, для 2-й роты—усходні край гэтага гаю, для 3-й роты—Яцкаўшчызна. Пазыцыі заняць да $3^{00}$ 12. 7.

4. Баявыя курсы: батальёну—Яцкаўшчызна, „Сухое дрэва", „Чорная пуня", „Дзьве хвоі", вышка на вышыні 93,2, Лазовічы,—Г. дв. Рамашкі, 1-й роце—па курсу батальёна, потым на крыж, што ў паўкілёмэтры на поўдзень ад ф. Старыя Ляховічы. 2-й роце—за 1-й ротай ца баявому курсу батальёна да „Двух хвоек", потым вышка на вышыні 93,2, могілкі на заходняй ускраіне Падлесься. 3 роце—па баявому курсу батальёна да „Двух хвоек", потым на ўсходнюю ўскраіну Падлесься.

5. Баявы парадак: да выхаду на заходні край гаю і хмызьняку, што на захад ад Яцкаўшчызна—роты ў калёне па аднаму. Пасьля выхаду з гаёў ротам прыняць перадбаявы парадак.

У галаве рухацца 1-й роце, за ёй на дыстанцыі ў 300 м. рухацца 2-й роце і лявей 2-й роты, на інтэрвале ў 200 м. рухацца 3-й роце.

Пасьля дасягненьня лініі заходняй ускраіны Шавялі ротам разгарнуцца і з ходу атакаваць указаныя батарэі.

6. Для забясьпечаньня батальёну пры руху ў атаку 1-й роце высунуць 1 узвод уперад на 300 м. для выведкі мінных палёў на шляху руху батальёна. З такой-жа задачай і для забясьпечаньня батальёна зьлева камандзіру 3-й роты вылучыць адзін узвод уступам уперад налева на дыстанцыю ў 200 м.

7. Зборныя пункты: пасьля атакі артылерыі—заходняя ўскраіна Падлесься, пасьля атакі рэзэрваў будзе ўказаны дадаткова, пасьля выкананьня ўсёй задачы канцовы пункт—усходнія спады вышыні 100,5. Умоўны зборны пункт—выходныя пазыцыі.

8. Рух да канцовага пункту збору пасьля выкананьня ўсёй задачы па ранейшаму баявому курсу батальёна. Парадак у ротах як пры руху ў атаку. Парадак рот дадаткова.

9. Батальён забясьпечваецца дывізыёнам ПА стральбой прамой наводкай з заходняга краю гаёў, што на захад ад Яцкаў-

шчызна, авіяцыяй, якая закрые нас дымзаслонай. Батальён суправаджаюць 2 штурмавікі ў якасьці самалётаў сувязі.

Перад нашай атакай батарэі праціўніка будуць абстрэлены агнём нашай артылерыі і штурмаваны нашай авіяцыяй.

10. Сыгналы ўкажа начальнік штаба.




Чарцёж 20.

11. Я буду паміж 1-й і 3-й ротамі.

12. Намесьнікі—камандзіры рот—у парадку нумароў.

„Баявыя курсы ад Яцкаўшчызна да пярэдняга краю як у начальніка штаба на карце. Курсы камандзірам рот правесіць праз лес 11. 7 на працягу дня“.




Чарцёж 21.

„Схэмы з прачэрчаным баявым курсам мець у кожнай машыне“.

„Чакальная пазыцыя—паўночна-усходні вугал лесу, што ў 2 км. на ўсход ад Вяжэвічы. Шляхі падыходу да чакальных і выходных пазыцый—Зразкова, Цыцковічы, м. Клецк, Вяжэвіцы, Яцкаўшчызна“.

„Тав. начальнік штаба, арганізуйце выведку шляхоў падыходу, рэзультаты далажыце праз 3 гадзіны“.

„Даведайцеся ў штадыве 6 с. д. аб выходных пазыцыях танкаў, даданых ім. Высьветліце баявыя курсы групы ДПП 6 с. д. Паведаміце ім нашы выходныя пазыцыі і баявыя курсы. Прасачыце, каб ня было скапленьня танкаў і перакрыжаваньня баявых курсаў“.

Пасьля гэтага начальнік штаба ўказаў:




Чарцёж 22.

„Падаваць сыгналы наступныя (гл. вышэй): сыгналы па радыё падаваць толькі камротам, сыгналы ракетамі падаваць усім да камузводаў уключна“.

Пам. па тэхчастцы: „Галаўную базу батальёна, тэхнічны рэзэрв і ротныя базы к Ч+$1^{30}$ у раёне выходных пазыцый. Пасьля захопу пяхотай вышыні 100,15 ротныя базы і тэхнічны рэзэрв батальёна на пункт збора батальёна—усходнія спады вышыні 100,5“.

## ЛЯТУЧКІ.

### I. Барацьба з ухіленьнем ад пляну дзействаў.

Абстаноўка. Батальён дасягнуў „Чорнай пуні“. Камандзір 3 роты па радыё: „Улева 1 км. „Кучаравае дрэва“, бачу скапленьне людзей і коняй. Атакую іх“.

Рашэньне. Камандзір а. т. б.—па радыё: „3-й роце атаку забараняю, працягваць рух па ранейшаму курсу“.

## 2. Разгортваньне батальёна

Абстаноўка. Ч + 40. Галоўны ўзвод танкаў на лініі „Двух хвоек".

Рашэньне. Камандзір а.т.б.—па радыё: „трава", ракетамі—ускраіны 3 жоўтых.

Абстаноўка. У гэты час агонь двух батарэй з вышыні 93,2 і на ўсход ад Падлесься прамой наводкай. У 3-й роце адзін танк падбіт.

Рашэньне. Па радыё: „разгарнуцца і атакаваць па ранейшых курсах".

Назіральнік за танкамі. Па тэлефону: „Бачу жоўтыя ракеты з танкаў, самалёты суправаджэньня пікіруюць на поўдзень ад Шавялі".

Абстаноўка. Ч+42. Камандны пункт камандзіра стралковага корпуса.

Начальнік сувязі: Прыняты сыгнал „Трава".

Рашэньне. Начальнік артылерыі корпуса па тэлефону ў артылерыйскую групу ДД: „трава".

## 3. Работа камандзіра а.т.б. на зборным пункце.

Абстаноўка. Ч+15. Камандзір а.т.б. выехаў за 2-й ротай на заходнюю ўскраіну Падлесься, дзе зьнішчана батарэя, з поўдня з-за Падлесься ідуць танкі 3-й роты. Справа ад Шавялёўка паднімаюцца танкі (1-й роты):

У Лазовічы відаць рух людзей, коняй. З Лазовічы на поўнач, у кірунку Г. дв. Рамашкі, нясуцца дзьве артзапражкі. З Лазовічы—па танках артагонь.

Рашэньне. Камандзір а.т.б. па радыё: „сена", ракетамі 3 фіялетавых. Камандзіру 1 роты: „Атакуйце Г. дв. Рамашкі. Зборны пункт—Г. дв. Заключын".

„Пад'ехаўшы да танка камандзір 2-й роты свайму вадзіцелю: „глушы матор" Камандзіру 2-й роты: „Батальён атакуе рэзэрвы ў Лазовічы, Г. дв. Рамашкі. Атакуйке Лазовічы з поўначы. Зборны пункт—Г. дв. Заключын".

Абстаноўка. Ч+1=20. Камандзір 3-й роты пад'ехаў да камбата. Далажыў „Рота ў заходняй частцы Падлесься. страты: 2 танкі (2-я рота яшчэ раней далажыл страты—2 танкі). Відаць, як 2-я рота рухаецца на паўдарозе паміж Лазовічы і Падлесьсе, з Лазовічы агонь па роце працягваецца".

Рашэньне. Камандзір а.д.б.: „2-я рота атакуе Лазовічы з поўначы. Атакуйце Лазовічы з поўдня і ўсходу, 1-я рота атакуе Г. дв. Рамашкі. Зборны пункт—заходняя частка Лазовічы. Я з 2-й ротай".

## 4. Распараджэньне для звароту батальёна на канцовы, зборны пункты.

Абстаноўка. Пасьля атакі дзьвюх рот пяхоты ў Лазовічы і 1-й роты ў Г. дв. Рамашкі, а.т.б. сабраўся ў Г. дв. Заключын. Камандзіры рот далажылі: 1-я—рота: страты—4 танкі, 2-я рота—4 танкі, 3-я рота—3 танкі

Камандзір 1-й роты выставіў узвод на паўночным баку Г. дв. Заключын для ахаваньня.

Рашэньне. 2-я рота—ахаваньне ўзвод на паўночную ўскраіну Лазовічы. Камандзір а.т.б. асабіста „Батальён ідзе на зборны пункт. Баявы курс ранейшы. Роты ў перадбаявым парадку. У галаве 3-й роты зьлева ззаду 1-я рота і справа ззаду 2-я рота".

Па радыё: „Пшаніца"—ракетамі—чорныя.

---

# АБАРОНЧЫ БОИ

## Танкі ў абароне

Ня гледзячы на тое, што танкі зьяўляюцца магутным сродкам падаўленьня праціўніка ў рашучай апэрацыі на важным кірунку, яны могуць удзельнічаць і ў абарончай апэрацыі ўсюды, дзе патрабуюецца:

— нанесьці магутны контрудар моцнаму тэхнікай праціўніку.

— падтрымаць заняпаўшы дух сваіх войск.

Ва ўсіх выпадках выкарыстаньня танкі ўжываюцца, як сродак, баявая магутнасьць якога складаецца з: а) рухомасьці, б) браніраванасьці, в) агнявой магутнасьці.

Таму танк у абароне павінен быць выкарыстаны як сродак, вельмі рухомы (скорасьць ходу) і ўсюдыходны, г. зн. **танк выкарыстоўваецца для контратак і контрудараў.** Выкарыстаньне танка для нярухомага бою зводзіць яго ролю да браніраванай агнявой кропкі, да падмены ім звычайных агнявых сродкаў (кулямётаў і пушак). Гэтым пазбаўляюцца самай каштоўнай уласьцівасьці танка—рухомасьці і павялічваюць яго паражальнасьць. Таму танк выкарыстоўваецца, як нярухомая агнявая кропка толькі ў выключных выпадках: напрыклад, у засадзе і для ахаваньня танкавай групы ў пэрыод яе збору і перагрупоўкі ў разьмяшчэньні праціўніка (ДД).

Ва ўсіх відах абароны ўдзел танкаў можа выразіцца ў наступных формах:

а) самастойныя контратакі і контрудары;

б) падтрыманьне контрудараў пяхотных груп са звычайным узмацненьнем танкаў і контрудары танкаў пры падтрыманьні і суправаджэньні невялікіх пяхотных падразьдзяленьняў (рота танкаў і ўзвод пяхоты, батальён танкаў з ротай пяхоты);

в) контрудары ў саставе матарызаванай ударнай групы або рэзэрву старшага агульнавайсковага начальніка;

г) барацьба з танкамі праціўніка.

**Самастойныя контратакі і контрудары** ўжываюцца, калі ня трэба ўтрымліваць зьвернутую танкамі ад праціўніка мясцовасьць, а толькі нанесьці праціўніку моцнае пара

жэньне, расстроіць яго і адкінуць назад з тым, каб прымусіць яго патраціць час на рэарганізацыю баявога парадку і даць перастроіцца сваёй пяхоце.

Танкі дзействуюць звычайна па 2 эшалёнах наступаючага.

Асноўнымі задачамі дзействаў танкаў зьяўляюцца:

— зьнішчэньне пяхоты, якая прарвалася,

— зьнішчэньне 2 эшалёнаў праціўніка,

— зьнішчэньне танкаў праціўніка.

**Першая задача** патрабуе сваячасовасьці ўвядзеньня танкаў у бой з мэтаю падаўленьня перадавых эшалёнаў наступаючага, да таго, як яны пасьпеюць арганізаваць агонь і замацавацца на захопленым рубяжы. Гэта задача патрабуе шпаркіх кароткіх удараў нават не вялікіх танкавых падразьдзяленьняў, часьцей за ўсё ў цесным узаемадзействе з пяхотай, калі трэба зьвярнуць мясцовасьць, захопленую праціўнікам, пасьля чаго танкі адыходзяць у выходнае палажэньне.

**Другая задача** патрабуе больш самастойных дзействаў, больш значных танкавых падразьдзяленьняў (рота) бяз цеснага ўзаемадзейства з пяхотай, але з такім падзелам задач: пяхота або скоўвае часьцей за ўсё з фронта перадавыя часьці праціўніка агнём або выбівае яго сваімі сіламі і сродкамі, у той час як танкі наносяць часьцей за ўсё флянгавы ўдар па другіх эшалёнах атакуючага.

**Трэцяя задача** павінна ўскладацца на танкі толькі ў тым выпадку, калі процітанкавыя сродкі і палявая артылерыя ня могуць справіцца з прарывам танкаў праціўніка, або калі ёсьць танкі, якія па сваіх уласьцівасьцях лепшыя за танкі праціўніка, сярэднія танкі і зьнішчальнікі танкаў і калі можна выкарыстаць раптоўнасьць і выгоду палажэньня контратакуючых танкаў (удар у флянг і тыл).

Ва ўсіх астатніх выпадках трэба ўскладаць на танкі найбольш выгадныя для іх задачы (другая задача).

Разьмеркаваньне танкаў у абароне засноўваецца на наступных палажэньнях:

а) мець даволі магутныя танкавыя групы для нанясеньня моцных контрудараў у рашаючым месцы і ў рашаючы (пераломны) момант бою проці пяхоты праціўніка і для зьнішчэньня танкаў, якія прарваліся;

б) апошняя мэта абавязвае ўключыць танкі ня толькі як сродак барацьбы з пяхотай, але як сродак барацьбы з танкамі атакуючага—у сыстэму проціtанкавай абароны, якая ў гэтым выпадку складаецца з трох элемэнтаў: інжынэрных сродкаў, артылерыйскіх і танкавых на аснове выкарыстаньня натуральных проціtанкавых перашкод.

**Разьмеркаваньне танкаў у абароне** залежыць ад наступных умоў:

— Ад колькасьці танкаў, якія ёсьць у распараджэньні агульнавайсковага начальніка (камандзіра дывізіі). Так, пры

маныя на суседніх вучастках і панёсшыя значныя страты ў пяхоце і танках нашы часьці да надыходу цемнаты замацаваліся на фронце, указаным на чарцяжы 23.

### Задача.

У $19^{30}$ 15.7. камандзір 10 с. п. на вышыні 92,6 атрымаў асабісты загад камандзіра 4-й дывізіі.

„Праціўнік згрупаваў буйныя сьвежыя сілы. На фронце нашай дывізіі часьці 7-й і 10-й пяхотных дывізій.




Чарцёж 23.

Мы пераходзім да абароны. Пераход у наступленьне чакаецца не раней паўдня пасьлязаўтра 17.7

Палкі ўтрымліваюць займаемы фронт. Разьмежавальныя лініі (чарцёж 17).

Усе танкі апрача 1-й роты VI т. б. перадаць у 11 і 12 с. п.

ППО—1/4 а. п.

Мой каманды пункт—Астравок да $5^{00}$ 16.17.—вышыня ў $1^1/_2$ км. на поўнач усходнюю ад 90,1—пасьля $5^{00}$“.

### Рашэньне камандзіра 10 с. п.

Камандзір 10-га палка рашыў: 1) пакінуць у першым эшалёне III і II батальёны, а I батальён адвесьці ў другі эшалён у гай на поўдзень усходні ад Астравок; 2) І-ю роту VI т. б. адвесьці туды-ж, падначаліўшы яе камандзіру I с. б. Задачы I стралковага батальёна: а) падрыхтоўка контрудару ў кірунках: на Поўначны

востраў, на Пагост і на вышыню 92, 6; б) заняць вышыню 89,8 і 92,6 гарнізонамі ня менш стралковага і кулямётнага ўзвода кожны. Падтрыманьнё і суправаджэньне контрудару 2-й і 3-й батарэямі; 3) раён узмоцненай процітанкавай абароны—Г. дв. (Астравок), вышыня 89,8, могілкі рускія, вышыня 92,6.

**Работа камандзіра I батальёна і камандзіра танкавай роты.**

Камандзіру I батальёна так сама, як і ўсім іншым, была добра вядома мясцовасьць, на якой прышлося біцца ў гэты дзень. Таму, даўшы ўказаньні начальніку штаба аб вывядзеньні часьцей (пасьля замены III батальёнам) у раёне Г. дв. на поўдзень ад Астравок, ён даў даручэньне адшукаць на зборным пункце VI танкавага батальёна 92,6 камандзіра I роты і загадаць яму рухацца на ўсход у раён Г. дв., куды самому прыбыць к $23^{00}$.

Ён склаў сабе такі плян дзействаў: наколькі ў праціўніка ёсьць танкі, і калі ён пяройдзе ў наступленьне, то абавязкова з танкамі, і ўдарнай групе палка прыдзецца сутыкнуцца перш за ўсё з танкамі праціўніка. Інакш кажучы, посьпех контрудару можа быць толькі пры зьнішчэньні танкаў атакуючага, а таму неабходна перш за ўсё ўжыць захады да процітанкавай абароны пяхоты. У распараджэньні камандзіра батальёна процітанкабых сродкаў мала, трэба па крайняй меры мець на кожную роту па пушцы. Аб гэтым трэба прасіць камандзіра палка. Але самым надзейным сродкам процітанкавай абароны зьяўляюцца самі танкі.

Такім чынам на танкі трэба ўскласьці задачу: змагацца з танкамі праціўніка, дапамагаць пяхоце зьнішчаць пяхоту праціўніка, якая прарвалася;

на падтрымліваючую артылерыю: падтрымаць пяхоту проці пяхоты і танкаў, падтрымаць танкі і проці танкаў і процітанкавых гармат.

Параўноўваньне ўсіх гэтых меркаваньняў паставіла перад камандзірам батальёна выбар аднаго з двух варыянтаў: або раздаць танкі паўзводна стралковым ротам для суправаджэньня контратак пяхоты, або захаваць роту ў кулаку і дзействаваць згрупаваным ударам па аб'екту, які найбольш выгодны або пагражаемы, з тым, каб у сваю чаргу моцным ударам пяхоты выкарыстаць посьпех, дасягнуты танкамі.

Прыбыўшаму камандзіру танкавай роты загадаў далажыць яго думку па гэтых двух варыянтах.

Камандзір роты ў сваім дакладзе ўказаў, што ў даных умовах бязумоўна больш выгодны другі варыянт, г. зн. захаваць танкавую роту ў сваім распараджэньні, бо першы звужаў манэўранасьць танкаў і разгрупоўваў іх намаганьні. Посьпех-жа контратакі танкаў проці больш моцнага танкамі праціўніка лепш за ўсё дасягаецца шпаркасьцю і сілай удару у флянг і тыл як танкам, так і пяхоце. Галоўным ворагам абароны ў да-

ным выпадку зьяўляюцца танкі праціўніка, а барацьба процi іх—першая задача танкаў абароны. Таму і ня трэба звужаць манэўра сваіх танкаў. Няхай лепш контратакуючая пяхота першы час абыйдзецца суправаджэньнем процітанкавых гармат і батарэй.

Камандзір батальёна спыніўся на другім варыяньце—дзействаваць ротай танкаў цалкам пад кіраўніцтвам камандзіра роты. Галоўная задача—зьнішчэньне танкаў; другая задача—удар па другіх эшалёнах: другарадная задача—зьнішчэньне перадавых часьцей толькі ў выпадку захопу імі важных вышынь, як напрыклад 89,8 і 92,6.



Чарцёж 24.

Устанавіўшы ідэю выкарыстаньня танкаў, штаб батальёна разам з камандзірам роты танкаў распрацаваў канкрэтны плян дзействаў па трох варыянтах (чарц. 24).

Па першаму варыянту—удар наносіцца пяхотай цераз вышыню 89,8 і далей на паўночны канец. Паўночны востраў з мэтаю адабраць гэту вёску. Танкавая рота, захопліваючы больш глыбока баявы парадак пяхоты праціўніка, зьбіраецца ў раёне доўгай вышыні на поўнач усходнюю ад Паўночны востраў, дзе атрымлівае новую задачу. Атака танкаў вядзецца перад атакай пяхоты. Узвод пяхоты і кулямётны ўзвод высоўваюцца ў Астравок для агнявой заслоны з поўначы.

Па другому варыянту, больш пэўнаму, чым першы, разгортваньне і ўзаемадзейства адбываюцца ў такім-жа парадку з той розьніцай, што танкавая рота зьбіраецца ў лагшчыне на поўдзень ад Г. дв., дзе і атрымлівае новую задачу: удар на Пагост або на Паўночны востраў.

Па трэцяму варыянту—пры ўдары праціўніка на 92,6 з захаду або паўднёвага захаду, батальён, утрымліваючы сваімі гарнізонамі на 89,8 і 92,6, наносіць прамалінейны ўдар на 92,6, а танкі—праз Г. дв. на ўсход ад 89,8 і зьбіраюцца на поўнач ад 92,6, з тым, каб у далейшым або нанесьці контрудар на Пагост або на Паўднёвы востраў. Удар танкаў мае на мэце нанесьці паражэньне танкам праціўніка раней, чым яны дабяруцца да грэбеня 92,6

Ва ўсіх выпадках контратака апіраецца на ўтрыманьне агнявымі і процітанкавымі сродкамі грэбеня вышынь 89,8 і 92,6, пад прыкрыцьцем якіх наносіцца ўдар. З танкамі, якія прарваліся за грэбень, змагаецца пяхота процітанкавымі пушкамі, а таксама

прымаюць ўдзел і танкі, у якіх ва ўсіх выпадках зборны пункт разьлічаны на безадкладную барацьбу з танкамі праціўніка.

Задачы артылерыі: агонь па танках, што прарваліся; падрыхтаваць агонь па вышынях на поўдзень заходні і поўдзень ад вышыні 89,8 і на поўдзень ад 92,6 з мэтаю падавіць пяхоту і агнявыя сродкі праціўніка, які прарваўся (чарцёж 25).

Пункты згрупаваньня пяхоты і танкаў назначаюцца блізка адзін ад аднаго ў раёнах на поўдзень усходні ад Астравок, камандны пункт выбіраецца на вышыні 92,6 (тут-жа камандзір палка); ён зьвязваецца тэлефонам з пунктам згрупаваньня пяхоты і танкаў.



Чарцёж 25.

### Бой

У $5^{00}$ наступнага дня праціўнік адкрыў моцны артылерыйскі агонь на фронце 10 с. п. і 6 с. д. Асабліва моцны агонь быў па вышынях 89,8 і 92,6 і на поўдзень ад іх. У $6^{30}$ пад прыкрыцьцем артылерыйскага агню зьявілася больш за 20 танкаў: з раёну Пагоста атакавалі вышыню на поўдзень ад 89,9 і, апрача гэтага, каля 10 атакавалі вышыню на поўдзень ад 92,6. Танкі ў раёне могілак рускіх трапілі пад агонь процітанкавых пушак і адыйшлі на поўдзень за грэбень вышынь. Пяхота II батальёну адыходзіла на 89,8 (чарцёж 20).

Танкі паўднёвай групы дасягнулі вышыні на поўдзень ад 92,6. Пяхота праціўніка вялікімі групамі падымалася па лагчыне да 92,6

Камандзір батальёна аддаў распараджэньне:

1. „Батальён з танкамі наносіць контрудар праціўніку на вышыню 92,6,

2. Камандзірам 2-й і 3-й батарэй забясьпечыць правы флянг контрудару з боку Пагост; для гэтага з выступленьнем танкаў у атаку асьляпіць праціўніка на вышыні на поўдзень ад 89,8 і зьнішчыць яго танкі ў раёне могілак рускіх.

3. Камандзіру кулямётнай роты падтрымаць удар батальёна на вышыні 92,6, разгарнуцца на грэбені на поўнач заходнюю ад вышыні і адкрыць агонь па атакуючай пяхоце.

4. Танкавай роце пад прыкрыцьцем артылерыйскага агню нанесьці контрудар праціўніку ў раёне кустоў на поўдзень заходні ад 92,6. Кірунак: вышыня 89,8—паўднёвыя кусты—лагчына на усход ад 92,6 (зборны пункт).

5. 1-й стралковай роце з пушкамі ПТА—кірунак: лагчына на поўнач ад 92,6—вышыня 92,6—вышыня на поўдзень ад 92,6.

2-я с. р. уступам управа назад—кірунак: праз паўночныя кусты—заходнія спады вышыні 92.6.

3-яя стралковая рота за першай ротай у 100 м. Бліжэйшая задача ротам: аўладаць 92,6, далейшая—удар на Пагост праз доўгую вышыню на поўдзень ад 89,8.

Танкі праціўніка дасягнулі 92,6 (чарцёж 20), але трапілі пад агонь працітанкавай пушкі з кустоў на поўнач заходнюю ад 92.6. У той-жа час пяхота праціўніка дасягнула паўднёвых кустоў і вышыні на поўдзень ад 92,6, але трапіла пад агонь з боку ф. Рахавік і вышыні на поўнач ад яго.

Чарцёж 26.

Танкавая рота шпаркім ударам праз паўднёвыя кусты насьцігла ў флянг пяхоту праціўніка, якая накапліваецца ў кустох, расьсеяла яе і павярнула на вышыню 92,6, на танкі праціўніка — у тыл ім.

Накіраваўшы кулямёты на поўдзень (супроць пяхоты), танкі адкрылі пушачны агонь на танках праціўніка. У рэзельтаце бою на паўднёвых спадах вышыні 92,6 танкі праціўніка панесьлі страты і прарваліся да паўднёвых кустоў. Пяхота I батальёна, якая разгарнулася на 92,6 і ў паўночных кустох, разам з танкамі ўдарыла на паўднёвыя кусты і далей на поўдзень заходні ад іх. Пяхота 6 с.д. перайшла ў контратаку на вышыню на поўдзень ад 92,6 і адкінула праціўніка на поўдзень заходні.

Разбор. Характэрным для абароны пры наяўнасьці праціўніка танкаў зьяўляецца дзейства танкаў па дузе ў флянг праціўніка: „пранізваньне“ яго баявога парадку і зварот за сваю пяхоту, якая, карыстаючыся расстройствам у радох праціўніка, што пра-

рваўся, і стратамі, нанесенымі танкамі, наносіць удар часта нават і ня ў флянг, бо пры дапамозе танкаў ёй прыходзіцца толькі дабіць праціўніка і ачышчаць пройдзены танкамі раён. Паўторны ўдар можа быць нанесены падобна першаму або разам з пяхотай у парадку яе суправаджэньня. Пры расстроеным першым ударам танкаў праціўніка вялікіх рэзультатаў па сваёй прастаце можна дасягнуць прамалінейным ударам пяхоты разам з танкамі, якія дзействуюць ужо ў адным з ёй кірунку (чарцёж 28)



Чарцёж 27.

Барацьба танкаў з танкамі—пытаньне калі і ня новае, то ва ўсякім разе яно ў вопыце вайны атрымала толькі эпізодычнае асьвятленьне—бой англійскіх танкаў з германскімі. Апісаньне іх даецца ў Хэйгеля і ў танкавым англійскім часопісе за 1930 год. Перамагае ў паядынку той, у каго танкі ўладаюць лепшымі якасьцямі, а іх камандзіры вельмі добра манэўруюць, стараючыся аказацца на флянгу або ў тылу ў праціўніка. Сярэдні танк, які мае каманду ў 5-6 чалавек і таму забясьпечаны назіраньнем ва ўсе бакі, мае ўсе перавагі перад лёгкімі, апрача, вядома, большай паражальнасьці пры большым памеры.

# СУСТРЭЧНЫ БОЙ

## Танкі ў сустрэчным баі

Удзел танкаў у сустрэчным баі стралковых злучэньняў робіцца ўсе больш рэальным у сувязі з дасягненьнямі і ўдасканаленьнем танкавай тэхнікі. Танкі зьяўляюцца рухомым магутным ударным сродкам у руках старшага агульна-вайсковага начальніка, таму яны павінны быць выкарыстаны там і тады, дзе патрабуецца рашыць цяжкую задачу і дабіцца большых рэзультатаў. Становячыся на такі пункт погляду, трэба прыйсьці да вываду, што танкі, уваходзячы ў састаў агульна-вайсковай калёны (дывізы і палка) могуць быць выкарыстаны двояка:

— для падтрымкі перадавых часьцей (авангарду), якія ня могуць адабраць у праціўніка, папярэдзіўшага іх, выгодны і неабходны для разгортваньня галоўных сіл рубеж;

— для ўдзелу ў нанясеньні ўдару галоўных сіл калёны.

У тым і другім выпадку танкавы манэўр не павінен быць скованы пяхотай; танкі ня трэба прывязваць да пяхоты як у наступленьні на праціўніка, які спыніўся. У сустрэчным баі найбольш частым выпадкам выкарыстаньня танкаў зьявіцца ДПП, толькі мэты яе будуць некалькі іншыя, а іменна—калёны, якія падыходзяць і разгортваюцца, артылерыя, што зьмяняе або замяняе пазыцыі. Задачы ДД і ДПП будуць вельмі блізкія і часта зьліваюцца, бо артылерыя разгортваецца ня ў 3-5 км. за перадавымі часьцямі як у абароне, а ў 1-2 км. за імі.

Бясспрэчна толькі тое, што ўдар танкаў павінен быць увязаны і па часу і па мэце дзействаў па задачах, радзей па аб'ектах) з ударам пяхоты, г. зн, ён павінен адбывацца або разам з авангардам або разам з галоўнымі сіламі.

Такім чынам узаемадзейства з пяхотай у сустрэчным баі прымае больш гібкія, свабодныя формы.

З другога боку, ва ўмовах сустрэчнай сутычкі агонь праціўніка менш арганізаваны (а ў пачатку сутычкі ён зусім не арганізаваны), таму магчымы дзействы дробных падразьдзяленьняў танкаў для рашэньня асобных баявых задач.

Такім чынам чым раней танкі ўступяць у бой, тым больш ўмовы дзействаў будуць спрыяючыя для іх, і з гэтага-ж пункту

пагляду зусім мэтазгодны дзействы танкаў ў саставе органаў забясьпечаньня (перадавога, бакавога, выведчага атрадаў), але імкненьне да згрупаваньня намаганьняў і сродкаў у патрэбным пункце і ў патрэбны момант застаецца і тут ў сіле. Трэба засьцерагацца і ў сустрэчным баі ўвадзіць танкі ў бой невялікімі групамі; трэба, каб танкі былі фактарам, рашаючым рэзультат бою.

Ніжэй у прыкладах прыводзіцца 4 розныя выпадкі выкарыстаньня танкаў у сустрэчным баі.

## Баявое выкарыстаньне роты і батальёна малых быстраходных танкаў у палку і дывізыі ў сустрэчным баі

Галоўная задача танкаў у сустрэчным баі—нанясеньне праціўніку нечаканых моцных удараў; танкі павінны выкарыстоўвацца з рашучай мэтай—нанясеньня праціўніку паражэньня ў патрэбны момант і ў патрэбным пункце ў сувязі з задачамі дзействуючай ударнай групы калёны.

Прырода сустрэчнага бою ў большасьці выпадкаў прызначыць свабодны манэўр танкаў, ня сьціснуты непасрэднай падтрымкай пяхоты, выключаючы выпадак зьбіцьця пасьпеўшага разгарнуцца праціўніка на выгодным для яго рубяжы. На гэтых-жа меркаваньнях трэба базаваць і патрэбы ў некаторых выпадках эшалёнаваньня танкаў. Зьяўляючыся рухомым сродкам падаўленьня, танкі, як правіла, не павінны рэзэрвавацца, а павінны быць уперадзе пяхоты.

Узаемадзейства пяхоты і танкаў у сустрэчным баі засноўваецца на наступных меркаваньнях.

1. У большасьці выпадкаў бой зьяўляецца злучэньнем франтальнага і флянгавага ўдараў або адпаведна: дапаможнага (скоўваньня) і галоўнага.

Сустрэчны бой патрабуе шпаркіх дзействаў. Флянгавы ўдар можа быць эфэктыўным толькі пры нечаканасьці яго для праціўніка, г. зн. пры шпаркасьці і скрытнасьці флянгавага абходнага манэўру для праціўніка.

2. У сустрэчным баі няма дроту, прабіваньне праходаў у якім абавязвае танкі, падтрымліваючыя пяхоту, атакаваць у адным кірунку з пяхотай.

Гэтыя меркаваньні ставяць для вырашэньня пытаньне: як падзяліць флянгавы і франтальны ўдар паміж пяхотай і танкамі.

1. Танк больш непаражальны ад агню, чым пяхота, таму яму больш бясьпечна наступаць у лоб. З другога боку, пяхота менш рухомая, а значыць на флянгавы манэўр ёй патрабуецца больш часу, чым рухомым танкам.

2. Артылерыя лягчэй за ўсё падтрымлівае пяхоту, наступаючую з фронту.

3. Танкі менш адчуваюць патрэбу ў падтрымцы артылерыі, чым пяхота, асабліва пры абходзе флянгу праціўніка, дзе сіла

агню яго меншая, чым на фронце. Апрача гэтага, эфэктыўнасьць флянгавага ўдару танкаў вышэй, чым удару лабавога.

Вывад. Танкамі выгадней атакаваць у флянг, з пяхотнай атакай з фронту замацаваць посьпех флянгавай атакі танкаў. Трэба агаварыцца, што ўмовы мясцовасьці і тактычнай абстаноўкі могуць прымусіць адмовіцца ад флянгавага ўдару і нанесьці праціўніку прасьцейшы і больш шпаркі па выкананьню сумесны лабавы ўдар пяхоты з танкамі.

Вось агульныя задачы танкаў. Нам аднак трэба ўстанавіць прыватныя задачы танкаў, якія вынікаюць з прыроды сустрэчнага бою і прыроды танкаў як роду войск.

Для гэтага разгледзім параўнальную схэму, якая дае нам карціну становішча бакоў у розныя моманты іх сутычкі на маршы. Гэта схэма прыводзіць нас да наступных вывадаў аб задачах. Ва ўсіх этапах сустрэчнага бою танкі могуць выконваць такія задачы (на чарцяжы 28 яны пранумараваны рымскімі цыфрамі):

I. Самастойныя дзействы па калёнах праціўніка разам з авіяцыяй, якая іх наводзіць і іх падтрымлівае на глыбіні ад 2 да 10 км ад рубяжу разгортваньня перадавых часьцей; такіх задач больш у пэрыод завязкі бою, чым у пэрыод рашучы. Гэтыя задачы „дальняга дзейства“, г. зн. груп ДД.

II. Дзействы па пяхоце, якая разгортваецца, другіх эшалёнах і па артылерыі, што разгортваецца або ўжо вядзе агонь.

Глыбіня дзейства 1—3 км, г. зн. у адрыве ад пяхоты, бяз цеснага з ёй узаемадзейства, але работа на непасрэдныя патрэбы пяхоты. Ня гледзячы на тое, што танкі дзействуюць па артылерыі, якая стараецца ў сустрэчным баі разгарнуцца (заняць агнявыя пазыцыі) як мага бліжэй да сваёй пяхоты, па глыбіні дзействаў і па форме ўзаемадзейства з артылерыяй падтрымкі пяхоты (ПП), мы называем такую групу танкаў групай ДПП.

Некаторая розьніца з задачамі ДПП у наступленьні на праціўніка, які абараняецца, як відаць, ёсьць.

III. Дзействы па пяхоце, якая разгарнулася і наступае, з яе агнявымі сродкамі (станкавымі кулямётамі). Гэта задача тлумачэньня не патрабуе і цалкам супадае са зьместам задач танкаў ДПП у наступленьні на праціўніка, які спыніўся.

Другі вывад. Большая мэтазгоднасьць свабоднага манэўру танкаў; паколькі дзействы па калёнах патрабуюць удзелу авіяцыі (без яе танкі могуць блукаць дарэмна) і адрываюць надоўга танкі ад пяхоты і асабліва ад артылерыі, то найбольш выгодным спосабам выкарыстаньня танкаў зьяўляецца ДПП. Чаканьні танкістаў на ўдар па калёне рэдка будуць апраўдвацца, бо вопыт паказвае, што пяхота, нармальна абучаная прыёмам барацьбы з танкамі, на працягу двух—трох мінут (батальён) падзяляецца і прыймае процітанкавы баявы парадак. Таму лепш не задавацца крайнасьцямі, а рашаць задачы, найбольш эфэктыўныя і для танкаў, і для пяхоты, і патрабуючыя для сябе



2
СУТЫЧКА ГАЛ
ПАХ ЗАСТАВЫ.
Ƶ
б
РАЗГОРТВАНЬНЕ:
АВАНГАРД
Ƶ+0,30
в
ГАЛОЎНЫХ СІЛ
Ƶ+1,00
1
БОЙ
ГАЛ. СІЛ КАЛЁНЫ
І ПАДЫХОД 2 ЭШ.
Ƶ+1,30-2,00
км
10
9
8
7
6
5
4
3
2
1
0
0
1
2
3
4
5
6
7
8
9
10
км
ГАЛ. СІЛЫ КАЛЁНЫ
ПП.
I
ГАЛ ЎН. АТР.
III
П.А.
ПЕР. А
Г.З.
Г.З
П.А
АВАНГ. ПАЛКА
ГАЛОЎН СІЛЫ
ПАЛКА
I
III
ПОЛК 2 ЭШ
I
II
III
ПОЛК 2 ЭШ
ПОЛК 2ЭШ
I
II
III
ПОЛК 2ЭШ


Чарцёж 28.

толькі такога даволі гібкага, рухомага, якім зручна кіраваць, танкавага падразьдзяленьня, як рота.

У сустрэчным баі стралковага злучэньня могуць прыняць удзел нябыстраходныя і быстраходныя танкі. Уключаючы ў шпаркасьць разгортваньня час на выведку і пастаноўку задач, мы атрымаем: для першага тыпу (1) 5—6 км/гадзін, для другога (2) 10—12 км/гадзін.




Чарцёж 29.

Гэта вызначае месца на маршы:

а) для дзейства па калёнах (ДД) I тып—за галаўной паходнай заставай; II тып—за авангардам палка;

б) для дзейства па разгорнутай пяхоце і артылерыі (ДПП) I тып—за авангардам; II тып—за галоўнымі сіламі палка;

в) для дзейства па наступаючай пяхоце (НПП)—за тым эшалёнам, з якім яны (танкі) будуць дзействаваць.

Прыклад (схэма 1). Кампалка (начальнік калёны) прыймае рашэньне атакаваць танкамі калёну галоўных сіл палка праціўніка. Гэта трэба зрабіць на працягу 1/2—3/4 гадзіны, бо пасьля гэтага тэрміну калёна разыйдзецца. Танкі быстраходныя. На працягу паўгадзіны яны зробяць 5—6 км, а ў 3/4 8—9 км. Значыць, яны павінны быць у такім месцы калёны палка, каб праз 1/2—3/4 гадзіны маглі аказацца „на калёне" праціўніка, зрабіўшы 5—6 км або 8—9 км. Бяручы апошнія цыфры (3/4 гадзіны) па шкале з боку схэмы, мы знойдзем, што месца танкаў за авангардам палка.

Як відаць, у асноўным адыгрывае ролю агульная ідэя выкарыстаньня танкаў: або іх выкарыстаць у цесным узаемадзействе з пяхотай, або ў свабодным манэўры ў сувязі з дзействамі перадавых часьцей (авангардамі) або з галоўнымі сіламі калёны (палка).

Разам з папярэднімі меркаваньнямі і з далейшымі зьмешчанымі ў вывадах з ацэнкі мясцовасьці (глядзі далей тактычны прыклад) усё гэта падкрэсьлівае непатрэбнасьць шаблёну ў ваджэньні танкаў у агульнавайсковых калёнах.

Усё-ж можна даць параду на сярэдні выпадак: увесьці танкі за авангардам палкавой калёны; рух танкаў за галаўной паходнай заставай дэмаскуе іх і не дае разгортваньня іх глыбіні, хоць у некаторых выпадках можна пускаць танкі на ўзроўні галаўных паходных застаў.

Што датычыцца разьмеркаваньня танкаў, то для дасягненьня магутнасьці ўдару пажадана ўвесь танкавы батальён мець у руках камандзіра дывізіі.

### Тактычны прыклад на выкарыстаньне танкаў у сустрэчным баі

Агульная абстаноўка. I с. д. з даданым батальёнам малых быстраходных танкаў робіць марш з задачай выйсьці ў раён А—Б—В, які знаходзіцца на поўнач ад лесу „Вялікі". Вывады з выведкі аб праціўніку: імавернасьць сустрэчы з пяхотай праціўніка у раёне в. Наша, лес „Вялікі", в. Ніжняя, гай „Балотны". Камандзір дывізіі рашыў весьці дывізію дзьвюма калёнамі па дарогах, указаных на схэме. У адносінах выкарыстаньня танкаў ён прышоў да наступных вывадаў ацэнкі мясцовасьці (чарцёж 29).

1. Калі праціўнік зойме рубеж II, зьбіўшы або не дапусьціўшы на яго нашы перадавыя часьці, то ён паставіць гэтым абедзьве калёны ў цяжкія ўмовы разгортваньня, бо танкамі можна дзействаваць толькі праз вузкае горла паміж двума балотамі, для танкаў непраходнымі (чарцёж 29).

Вывад: Трэба, што-б там ні стала, забясьпечыць для разгортваньня галоўных сіл калёны рубеж II, для чаго неабходна ў выпадку сутычкі перадавых часьцей з моцным праціўнікам на рубяжы II падтрымаць іх танкамі. Таму адну роту танкаў трэба

дадаць аднаму з палкоў I эшалёну, з тым, каб яна, рухаючыся за авангардам палка, здолела-б хутка яго падтрымаць. Паколькі дзействы танкаў у паласе левай калёны з-за непраходнасьці ракі вельмі цяжкія, то дадаць адну роту галаўному палку правай калёны.

2. Левая частка II і III рубяжу звужае дзействы танкаў, наадварот, правая частка II і III рубяжу дае выгоды флянговага ўдару танкаў: з раёну „Ўсходні“ на в. Верхняя або на лес Дальні.

3. Рубеж IV дае магчымасьць дзействаваць танкам усюды, але манэўр танкаў на левым флангу звужаны падыходам да яго цераз адзіную пераправу на рэчцы.

4. Толькі з рубяжу V выгоды выкарыстаньня танкаў з правага флянгу пераходзяць на левы.

Рашэньне камдыва ў адносінах танкавага батальёна.

Танкавы батальён весьці ў правай калёне: адну роту дадаць галаўному палку (I с. п.), батальён бяз роты пакінуць у сваім распараджэньні і весьці за галоўнымі сіламі I с. п.

### Рашэньне камандзіра танкавага батальёна.

1. У перадавую выведку выслаць тры дазоры: правы без дарог уздоўж разьмежавальнай лініі ад узводу кіраўніцтва батальёну. Сярэдні па правай дарозе ад 1-й роты, даданы I с. п., і левы—па левай дарозе—ад узводу кіраўніцтва батальёна.

2. У распараджэньне камандзіра с. п. вылучыць 1-ю роту, якой мець з сабой сваю галаўную базу.

3. Батальён бяз 1-й роты ідзе за калёнай галоўных сіл I с. п.; начальнік калёны—памочнік па тэхнічнай частцы.

4. Галаўная база батальёна з рэзэрвнай ротай ідуць у галаве абозу II разраду калёны (за 3 с. п.).

5. Штаб батальёна з камротамі і іх аддзяленьнямі кіраўніцтва ідуць у галаве калёны батальёна.

6. Камбат танкаў з камандзірам дывізіі ў галаве калёны галоўных сіл I с. п.

У галаве калёны галоўных сіл батальёна ідзе і рэшта ўзводу кіраўніцтва батальёна.

### Рашэньне кампалка

Камандзір I с. п., ацаніўшы абстаноўку ў адносінах выкарыстаньня танкаў, прышоў да тых-жа вывадаў аб значэньні рубяжоў, да якіх прышоў і камдыў, таму ён аддаў наступнае распараджэньне камандзіру I танкавай роты:

„Пры разгортваньні палка на I і II рубяжох танкі выкарыстаць з ударнай групай палка на левым флянгу; на III і IV—на правым флянгу. Мець на ўвае дзействы танкавай роты па падтрымцы авангарду палка.

Роце ісьці паміж авангардам і калёнай галоўных сіл палка. Вам ісьці са мной—паміж галаўной заставай і авангардам“.

## Распараджэньне камандзіра танкавай роты.

Камандзіру аддзяленьня кіраўніцтва роты:

„Вы з двума выведчыкамі складаеце выведчы дазор. Ісьці за галаўной паходнай заставай. Задачы: 1) выведка праціўніка—выяўленьне процітанкавай артылерыі і бронясіл; 2) выведка мясцовасьці: умовы праходнасьці ў разгорнутым або іншым парадку горла паміж балотамі (гай Балотны) і на захад ад вёскі Наша; праходнасьць гаю Усходні і Малы і лесу Вялікі. Данясеньні прысылаць у галаву калёны авангарду. Са мной два выведчыкі.

Камандзірам І і ІІ узвода: „Вы едзеце ў аўтамабілі са мной".

Камандзіру III узвода: „Вы—начальнік калёны роты. Весьці перакатамі, на сярэдніх скорасьцях, паміж авангардам палка і галоўнымі сіламі з разьлікам 20—25 мінутных прыпынкаў. Найменшая дыстанцыя да галавы калёны галоўных сіл 250 м. Дадаю аднаго выведчыка для сувязі".

Старшаму аўтатэхніку роты: „Вы з трактарам і аўтамашынай замыкаеце калёну роты. Галаўная база батальёна з рэзэрвнай ротай ідуць у абозе II разраду калёны (за 3 с. п.).

Я іду з кампалка 1 за галаўной паходнай заставай".

## Дзействы танкавай роты з авангардам палка

У $9^{00}$ праціўнік сілаю каля роты з кулямётамі разгарнуўся на рубяжы Малы, 120, Ігруша і павёў энэргічнае наступленьне пры дапамозе дзьвюх батарэй на галаўную паходную заставу 1 с.п., якая разгарнулася (1-я рота, узвод кулямётаў, 1-я гармата БА, схэма 3). На вышыню з дрэвам кампалка 1 быў скінуты вымпел, які ўстанаўліваў у $9^{45}$—рух батальёна пяхоты ад разгалінаваньня дарог на поўнач ад 120, да вышыні 120.

## Камандзір палка аддае наступныя загаданьні

Начальніку авангарда: „Зьбіць праціўніка з рубяжа Малы, Ігруша і ўтрымліваць яго да падыходу галоўных сіл палка. Вас падтрымлівае II/I а. п. і рота танкаў".

Камандзіру роты танкаў: „Задача — садзейнічаць авангарду ва ўладаньні рубяжом Малы, 120, Ігруша. Выходную пазыцыю ў паўднёва-заходняй частцы „Усходні" заняць безадкладна. Пачатак атакі праз 15 мінут ($9^{16}$) па сыгналу—чырвоныя ракеты. Кірунак атакі,—112, 120, Ігруша". Прыватныя задачы: Зьнішчыць станкавыя кулямёты на 120 і пяхоту, што разгортваецца за 120. Зборны пункт на поўдзень заходні ад „Малы". (Чарцёж 30).

Камандзіру II/I а. п.: „Падтрымаць атаку танкаў—агонь па 120 і „Малы". У час атакі танкаў на 120 агонь па 122 і „Ігруша".

Начальнік авангарда загадаў:

1. Задача авангарда: пры падтрымцы артдыва і роты танкаў, атакуючай 120, зьбіць праціўніка сілаю да батальёна з рубяжа „Малы“, 120, „Ігруша“ і ўтрымліваць яго да падыходу галоўных сіл.

2. Камандзіру ПА: падавіць наступаючую пяхоту і кулямёты праціўніка на заходніх спадах 120; забясьпечыць левы флянг агнём да Ігруша.

3. Камкульроты: агонь па наступаючай з 120 пяхоце праціўніка.

4. 1-й роце (галаўная застава), наступаючы ў кірунку 112—120, аўладаць паўночна-ўсходнімі спадамі вышыні 120.

5. 2-й роце, наступаючы ў кірунку вышыні з дрэвам, заходнія спады 120, аўладаць паўночна-заходнімі спадамі вышыні 120.

6. 3-й роце наступаць за 2-й ротай з задачай з-за левага флянгу 2-й роты аўладаць Ігруша.

7. Пачатак атакі ў $9^{25}$. Сыгнал—чырвоныя ракеты.

8. Я—на вышыні з дрэвам. Намесьнікі (2) калёны 3.

Камандзір танкавай роты пасьля атрыманьня задачы ($9^{05}$) загадаў выведчыку, прыбыўшаму з выведчага дазору:

„Накіравацца да начальніка калёны роты. Перадаць загаданьне весьці роту ў паўднёва-заходнюю частку гаю „Ўсходні“, дзе буду знаходзіцца я“.

Камандзірам I і II узводаў: „Едзем на выходную пазыцыю“.

На выходнай пазыцыі (паўднёва-заходняя частка „Ўсходняга“): ён знайшоў камандзіра аддзяленьня кіраўніцтва, які далажыў яму: „На краю“ Малы „2 ручныя кулямёты, на 120—2 станкавыя кулямёты. Дробныя групы па 3—4 чалавекі наступаюць перабежкамі ўдоўж дарогі; стрэлы батарэі за 120 па нашаму краю. Наша пяхота залягла ўперадзе нас“.

К $9^{15}$ прыбыў камандзір III узвода з танкавай ротай, пасьля чаго камроты паставіў задачу:

„Рота падтрымлівае авангард, маючы задачай атаку ў кірунку 112, 120, дзе зьнішчыць кулямёты і пяхоту, якая разгортваецца.

Выходныя пазыцыі тут: баявы курс роты 112, млын Ігруша. Пасьля выхаду да млыну паварот направа (поўнач ўсходняя) для зьнішчэньня пяхоты за вышынёй 120. Баявы парадак: накіравальны I узвод, II узвод лявей на інтэрвале 200 м., III узвод за I узводам на дыстанцыі ў 200—300 м. Пасьля падаўленьня праціўніка на Ігрушы зварот па паўднёвых спадах 120 на зборны пункт на поўдзень заходні ад Малы. Мой намесьнік—камзвода 3“.

Старшаму аўтатэхніку роты: „Пасьля аўладаньня пяхотай „Малы“ 120—перайсьці з базай роты на зборны пункт роты на поўдзень заходні ад гаю „Малы“.

У $9^{45}$ пяхота вышла на рубеж Малы, Ігруша, але сустрэла агнявое супраціўленьне праціўніка з 122, „Сярэдняя“ 110.

Камандзір дывізії атрымаў зьвесткі ад авіявыведкі аб скапленьні пяхоты каля двух батальёнаў у раёне на поўнач ад в. Верхняя. Ён загадаў (чарцёж 31).

1. 1 с. п. аўладаць раёнам вёскі Верхняя, 130, „Сярэдняя“.

2. 2 с. п.—лес „Дальні“, вышыня на поўнач заходнюю ад яго.

3. 3 с. п.—наступаць за сутыкам 1 і 2 с. п. у кірунку: Ігруша, лес Дальні.

4. Танкбату (бяз 1 роты) атакаваць рэзэрвы і артылерыю пра-ціўніка ў раёне вёскі Верхняя, 130, сярэдняя. Кірунак атакі Ігруша, 130, зборны пункт—в. Верхняя.




Чарцёж 30




Чарцёж 31

5. На чарту: падтрымаць атаку танкбата агнявой загародай па паўднёваму краю вялікага лесу і паўднёва-усходняму краю лесу Дальні.

6. Пачатак атакі: пяхоты—$10^{10}$; танкаў, $10^{00}$. Сыгналы: для пяхотнай атакі—сінія, для танкавай атакі—чырвоныя ракеты.

Кампалка 1 загадаў: „1. Полк мае задачу: выйсьці на рубеж 130, 128—

2. Правей на 132 наносіць удар 4 с. п., лявей на лес Дальні—2 с. п.

3. II батальёну пры падтрымцы роты танкаў і II/I а. п. раз-гарнуцца на „Малы“—усходнія спады 120 і атакаваць у кірунку 122, Верхняя, 130 з задачамі: бліжэйшай—аўладаць 122 і далей-шай—130.

4. I батальёну пры падтрымцы ПА і I/а. п. наступаць з фронту 112, Ігруша, аўладаць Сярэдняя, у далейшым 128.

5. III батальёну наступаць за II батальёнам з задачай аўла-ладаць заходнімі спадамі 130“.

Камбат II на вышыні 120 у $9^{50}$ паставіў задачу камроты танкаў (схэма 4):

„Ваша рота складае НПП батальёна. Задача: садзейнічаць батальёну ва аўладаньні 122 і 130. Падтрымліваць кожную роту адным узводам. (Задачы рот глядзі ніжэй у загадзе камандзіра танкавай роты). Выходная пазыцыя—гай Малы, 120. Кірунак атакі—Малы, 122, 130. Пачатак атакі па сыгналу—дымавыя ракеты. Зборны пункт—Верхняя.

Камбат танкаў загадаў:

Камузводу кіраўніцтва: „З лагчыны на поўдзень усходні ад „Доўгая" безадкладна прывесьці танкі за вышыню Ігруша".

Камандзірам 2-й і 3-й рот: „Батальён атакуе ў адным эшалёне. Грэбень вышыні Ігруша прайсьці ў разгорнутым страі. Баявы курс 2-й роты—Ігруша—Верхняя 130; 3-й роты: Ігруша—Сярэдняя. Прамежны зборны пункт—в. Верхняя для абедзьвюх рот. Пачатак атакі—тры чырвоныя ракеты з вышыні Ігруша. Я—з 2-й ротай".

Памочніку па тэхчастцы: „Рэзэрвную роту і трактары перавесьці к $10^{30}$ на поўдзень ад Ігруша".

Камандзір роты танкаў, вярнуўшыся на зборны пункт, загадаў.

„1. Рота складае НПП II батальёна I с. п. Задача: садзейнічаць II батальёну ў наступленьні на 122, Верхняя зьнішчэньнем кулямётаў пасьлядоўна на 122 і Верхняя.

2. Уперадзе дзействуе група ДПП дывізіі (2 роты нашага батальёна), зьнішчаюцца рэзэрвы і агнявыя сродкі ў раёне Верхняя, 130 і Сярэдняя.

3. Баявы курс роты: 120, 122, Верхняя, 130. Задачы ўзводаў: I узвод падтрымлівае 4-ю роту; баявы курс—паўночна-усходні вугал, гай Малы, усходнія спады 122, усходняя ўскраіна Верхняя, 130. II узвод падтрымлівае 5-ю роту, баявы курс: 120, заходнія спады 122, заходняя ўскраіна в. Верхняя, паўднёва-заходнія спады 130; III узвод падтрымлівае 6-ю роту і наступае па баявому курсу I узвода.

4. Выходныя пазыцыі зяняць безадкладна: I і III узводы эшалёнамі ў гаі Малым, II узвод—за млынам.

5. Пачатак атакі ў $10^{10}$ па сыгналу чырвоныя ракеты з вышыні 120.

6. Зборны пункт роты—пасьля аўладаньняя пяхотай 130, Сярэдняя 126,—вёска Верхняя.

7. Вось боязабесьпячэньня і сувязі—Малы, 122, Верхняя.

8. Я іду з I і III узводамі".

### Вывад

Танкі становяць сродак падаўленьня ў руках начальніка калёны (камандзіра палка). Выпускаць гэты сродак з сваіх рук (дадаваць) нямэтазгодна.

Выгадней ставіць танкам ад этапу да этапу задачы, назначаючы ім зборныя пункты, на якіх яны атрымліваюць далейшыя задачы.

Распыляць танкі ня трэба так сама як і захапляцца эшалёнаваньнем.

Пры завязцы бою ня трэба танкі зьвязваць пяхотай (дзействы танкавай роты з авангардам), наадварот, пры разгортваньні галоўных сіл палка танкавай роце мэтазгодна паставіць задачу НПП, але не дадаючы, а падтрымліваючы батальёны і роты.

Дзействы танкавай роты пры разгортваньні павінны быць шпаркімі. Ня трэба захапляцца дэталізацыяй баявых курсаў. У першым прыкладзе быў толькі адзін баявы курс,—ротны, усе астатнія вызначыліся баявым парадкам.

## Батальён галоўных сіл палка з даданым узводам лёгкіх танкаў у сустрэчным баі [1]).

### Абстаноўка

79 с. п. складае левую калёну 27 с. д. і мае задачай 21.7. выйсьці ў раён ак. Бялаблоцкая—вв. Панятовічы—Парчэўцы. Палку дадзены III а. д. 27 а п. і ўзвод сапёраў. Раніцой гэтага дня наша коньніца адкінула разьезды праціўніка на 10 км. на заход ад названага раёну.

Надвор'е пахмурае. Раніцой ішоў вялікі дождж, які зрабіў калёсны рух па прасёлачных дарогах цяжкім, панізіўшы скорасьць маршу да $2^1/_2$ км. у гадзіну.

К 14 гадзінам у рэзультаце ўсіх папярэдніх падзей склалася наступная абстаноўка (чарцёж 32).

Праціўнік разгарнуўся на фронце: гай, на захад ад ур. Бурба—вышыня на захад ад вёскі Грабяні—вышыня і гай на ўсход ад ак. Шымакі—вёска Чарноўшчына—вышыня 93,2. З гэтага рубяжу да 14 гадзін былі зьбіты наша галаўная і бакавыя паходныя заставы калёны. Іапрача гэтага праціўнік спыніў наступленьне нашага галаўнога атраду калёны (I батальён), які разгарнуўся на лініі вёска Грабяні,—сял. дв. сваім агнём кулямётаў з вышыні з лісьцяным дрэвам і адзнакай 102,5, што на ўсход і поўдзень усходні ад ак. Толчы, з Круглага гаю і вышынь на поўдзень ад яго, і двух батарэй, які стралялі з-за ак. Тоўчы і ак. Шымакі.

Захоплены коньніцай каля вёскі Чарноўшчына ў палонны унтэр-афіцэр паказаў, што іх 17 Пазнанскі полк быў перакінуты сёньня раніцой на грузавіках па шашы з г. Саколкі. Яго рота была галоўнай і прайшла ў 12 гадзін вёску Чапялі.

П а л а ж э н ь н е 27 с. д. Дывізіі дадзены батальён лёгкіх танкаў, якія камандзір дывізіі трымаў у кулаку як свой рэзэрв;

1) Вучэбны плян ускраін г. Гродна, выданьне Дзяржвыдат., арк. 7, 8.

для гэтага ў яго былі дастаковыя падставы: адсутнасьць суседзяў і дакладных зьвестак аб праціўніку ўказвалі на неабходнасьць мець манэўраны рэзэрв, для чаго быстраходныя танкі (скорасьць да 35 км.) зусім адпавядалі. Аднак галаўныя атрады палкоў засталіся без падтрымкі танкаў у момант, калі яна была асабліва патрэбна па ўмовах мясцовасьці і з прычыны спазьненьня артылерыі. Праціўнік здолеў адкінуць нашы заставы з выгоднага для нас рубяжу і прымусіў прыняць бой з разгортваньнем галаўных атрадаў дывізыі на нявыгоднай для іх мясцовасьці. У прадбачаньні барацьбы за гэты важны рубеж, заняты ўжо праціўнікам, трэба было-б перадаць танкавыя роты палкам для высоўваньня ўперад да галаўных атрадаў зараз-жа пасьля атрыманьня зьвестак ад кавалерыйскай выведкі дывізіі аб руху праціўніка насустрач. Уступленьне ў бой танкаў разам з галаўнымі атрадамі бязумоўна прывяло-б да больш пасьпяховых дзействаў ахоўваючых часьцей.

## Загаданьне камандзіра дывізіі і рашэньне камандзіра 79 с. п.

Конны пасыльны знайшоў камандзіра 79 с. п. з камандзірамі I і II батальёнаў на вышыні 99,0 і аддаў пісьмовае загаданьне камандзіра дывізыі: „Перад фронтам дывізыі дзействуюць часьці двух палкоў праціўніка. Я рашыў: ударам двума палкамі цераз вышыню 108,0 (1 км. на поўдзень ад вёскі Новадзелі) і адным—вашым—на вёску Чапялі адкінуць праціўніка на поўдзень заходні ў балота і да надыходу цемнаты выйсьці передавымі часьцямі за шашу Саколка—Гродна (На захад ад чыгункі). Загадваю бездакладна перайсьці ў рашучае наступленьне. У вёсцы Дубовая к 14[15]— у наша распараджэньне прыбывае рота танкаў“.

Камандзір палка рашыў: II б а т а л ё н а м с а ў з в о д а м т а н к а ў п р ы п а д т р ы м ц ы III а. д. н а н е с ь ц і ў д а р н а а к. Т о ў ч ы. П а р ч э ў ц ы, I батальён пры падтрымцы ўзвода танкаў і палкавога артылерыйскага дывізыёну—дапаможны ўдар на ак. Шымакі і III батальёным (без адной рота—рэзэрв палка) з адной палкавой пушкай абхапіць правы флянг праціўніка цераз вышыню 93,2 і заняць ак. Бяльвіны, Г. дв., Талочка з мэтаю адрэзаць шляхі адступленьня праціўніка цераз р. Прорва. У рэзэрве—рота III батальёна і ўзвод танкаў.

Р а з б о р. К 14 гадзінам на фронце 79 с. п. аказаліся разгорнутымі ў баявы парадак ня менш двух рот праціўніка, падтрыманых дзьвюма батарэямі. Рашэньне камандзіра палка засноўвалася на думцы: ня даць праціўніку разгарнуць свае галоўныя сілы, шпарка нанесьці ўдар правым флянгам у цесным узаемадзействе з суседняй кал ёнай. Для гэтага ён згрупоўвае на правым флянгу II батальён з рэшткамі I батальёна, 4 батарэі III а. д. і ўзвод танкаў, г. зн. палову сваіх сіл і тэхнічных сродкаў. Гэта было найбольш простым і хутка выпаўнімым

рашэньнем, якое зусім адказвала і ідэі рашэньня камандзіра дывізіі. Танкавае рашэньне камандзірам палка было прынята самастойна бяз танкавага камандзіра, што для данай абстаноўкі зьяўлялася зусім натуральным.

## Рашэньне камандзіра II батальёна.

1. Галоўны ўдар: цераз вышыню 102,5 (на поўнач ад ак. Толчы на в. Пагачэўцы.

2. 4-й роце за батальённай пушкай, наступаючы ад Грабяні, аўладаць вышынёй з асобным дрэвам, што ў 1 км. на захад ад Грабяні, і ў далейшым наступаць на ак. Толчы. 5-й роце—ад вышыні 99,0 аўладаць вышынёй, што ў 3-4 км. на захад ад Грабяні, у далейшым наступаць на вышыню 102,5. 6 роце з рэшткаю 3-й роты I батальёна, наступаючы ў 2-гім эшалёне за 5 ротай аўладаць 100,2 у далейшым вышынёй 95,3.

3. Танкі дапамагаюць: 1) 4 роце аўладаць вышынёй з дрэвам; 2) 5 роце аўладаць вышынёй 102, 5; 6-й роце аўладаць вышынёй 100,2. Пункт аднаўленьня сувязі танкаў з камандзірам батальёна на вышыні 102,5.

4. Кулямётную роту аб'яднаць у руках яе камандзіра; яе задачы—садзейнічаньне наступленьню стралковых рот згрупаваным агнём па спадах вышынь на захад ад вёскі Грабяні і вышыні на поўдзень усходні ад здзнакі 102,5; забясьпечаньне агнём левага флянгу баявога парадку батальёна.

5. Задачы III а. д.: 1) падтрымаць наступленьне батальёна і танкаў агнём па кулямётах на вышыні з дрэвам, па назіральных пунктах праціўніка на вышыні 102.5, па рэзэрвах яго ў ак. Толчы вышынёй 100,2 і лагчыне з гаямі на поўдзень ад яе; 2) адну гармату высунуць у вёску Грабяні для падтрымкі атакі танкаў; 3) забясьпечваць агнём правы флянг батальёна.

Разбор. Ня гледзячы на сьцісласьць задач танкам яны адрозьніваюцца дастатковый яснасьцю ідэй і пляну. Прадугледжана аднаўленьне сувязі з камандзірам батальёна пасьля рашэньня першай задачы, калі, гледзячы па абстаноўцы, камандзір батальёна паставіць яе больш правільна, бо грэбень вышыні 102,5 засланяў глыбіню разьмяшчэньння праціўніка і не даваў магчымасьці паставіць дакладна далейшыя задачы па мясцовасьці Зварачвае на сябе ўвагу выкарыстаньне кулямётнай роты: згупаваньне яе агню амаль выключна для падтрыманьня 5 роты: і забясьпечаньня яе левага флянгу, які падпадаў пад небясьпеку агню і ўдару з боку Круглага гаю і вышынь на ўсход ад яго, дзе праціўнік праявіў найбольшую актыўнасьць.

Такім чынам, у першы пэрыод 4 рота падтрымліваецца танкамі, а 5-я—кулямётнай ротай, у другі пэрыод—атака вышыні 102,5 5-я і 6-я роты падтрымліваюцца і танкамі, і кулямётнай ротай, і артылерыяй. Такое рашэньне зусім адпавядала абстаноўцы, паказваючы правільнае ўзаемадзейства агнявых сродкаў і танкаў і згрупаваньне сіл на адным кірунку.

## Дзействы камандзіра танкавага ўзвода

У $13^{40}$ у Клінчаны камандзір роты танкаў атрымаў загаданьне ад камандзіра танкавага батальёна безадкладна накіравацца ў с. Дубовая ў распараджэньне камандзіра 79 палка і ўказаньне аб месцы зборнага пункта танкавай роты пасьля бою ў вёсцы Новадзелі. З-за немагчымасьці хуткага перасоўваньня на матацыкле (гразная дарога) распараджэньнем начальніка штаба дывізіі камандзірам роты і ўзводам былі дадзены верхавыя коні в ардынарцамі з кав. эскадрона.

Атрымаўшы загаданьне, камандзір роты паслаў з матацыклістам (па гасьцінцы) загаданьне ў вёску Лужкі да начальніка калёны танкавай роты аб безадкладным руху на паўднёвую ўскраіну вёскі Дубовая, дзе танкі павінны быць у баявой гатоўнасьці.

Камандзір танкавай роты разам з камандзірамі ўзводаў прыбыў да вышыні 99,0, дзе атрымаў асабісты загад камандзіра палка аб разьмеркаваньні танкаў з ўказаньнем заставацца пры ім, назіраючы за дзействамі танкавых узводаў.

Камандзір танкавай роты разьмеркаваў узводы, камандзіры апошніх зьявіліся да камандзіраў батальёнаў. Камандзір I узвода зьявіўся і атрымаў загаданьне (глядзі рашэньне камандзіра II батальёна) ад камандзіра батальёна, каля вышыні 99,0 у $14^{15}$. Камандзір батальёна пры гэтым дадаў, што роты зоймуць выходнае палажэньне для наступленьня на грэбені вышыні 99,0 і пяройдуць у наступленьне прыкладна не пазьней, як праз паўгадзіны.

Такім чынам камандзір узвода на працягу паўгадзіны павінен быў: 1) правесьці выведку праціўніка, аб'ектаў атакі, шляхоў руху да іх; 2) намеціць спосабы атакі; 3) намеціць выходныя пазыцыі для танкаў і 4) указаць на мясцовасьці камандзірам танкаў задачы ўзвода (аб'екты).

Калі прыняць, што для высоўваньня да выходных пазыцый ад вёскі Дубовая каля 2 км., танкам трэба 10 мінут, ды на зварот камандзіра ўзвода галёпам да танкаў у вёску Дубовая—5 мінут, то ў яго застанецца на ўсю сваю падрыхтоўчую работу ня больш 15 мінут.

Хутка прыкінуўшы гэта ў галаве і ўспомніўшы, што яму трэба яшчэ зьвязацца з камандзірам 4-й роты, якога ён падтрымлівае ў першую чаргу, камандзір узвода прыступіў да выведкі.

З вышыні 99,0 ён ацаніў мясцовасьць і прышоў да заключэньня: 1) выходная пазыцыя для танкаў знаходзіцца на ўсходнім краю паўднёвага вугла ур. Бурба; шлях да яе ідзе ад вёскі Дубовая па лагчыне да ўсходніх спадаў вышыні з крыжам і ўкрыты ад наземнага назіраньня; 3) з выходнай пазыцыі трэба рухацца пад прыкрыцьцем з фронту вёскай Грабяні і адтуль выходзіць у кірунку на вышыню з лісьцяным дрэвам; 4) мясцовасьць на захад ад вёскі Грабяні адкрытая і са спадзі-

стымі схіламі, хоць паласа няскошанага хлеба, што цягнецца ад вышыні 102,5 на ўсход, можа захоўваць пяхоту праціўніка і кулямёты; 5) на спадах вышынь з лісьцяным дрэвам і на поўдзень ад іх ён заўважыў два кулямёты праціўніка; 6) грэбэнь з вышыні 102,5 закрывае тыл праціўніка; 7) вышыня з асобным дрэвам флянкіруецца праціўнікам з поўначы і поўдню; 8) стрэлы батарэі з боку вышыні 102,5 прывялі яго да вываду аб магчымасьці сустрэчы з гэтав батарэяй у скорасьці пасьля аўладаньня вышынэй 102,5.

У канчатковым вывадзе ён рашыў атакаваць вышыню з лісьцяным дрэвам так, каб унікнуць найбольш моцнага агню праціўніка зьлева.

На вышыні з крыжам ён сустрэў камандзіра 4 роты. Яны абмяняліся наступнымі заўвагамі. Камандзір узвода прасіў забясьпечыць танкі агнём палявой або батальённай пушкі з поўначы, а пры атацы танкамі вышыні 102,5 і з боку ак. Толчы. Камандзір роты сказаў, што камандзір батальёна загадаў пачынаць атаку бяз танкаў, потым дадаў, што камадзіры ўзводаў і частка малодшых камандзіраў недастаткова знаёмы з работай з танкамі, асабліва з прынятай сыгналізацыяй; таму неабходна старацца наладзіць у выпадку патрэбы сувязь асабіста з ім і часьцей аглядацца на пяхоту.

У $14^{35}$ камандзір узвода быў у вёсцы Дубовая, якую толькі што бамбардыравалі тры самалёты праціўніка. Камандзір узвода расказаў у двух словах задачу ўзвода і, перасеўшы ў свой танк, павёў узвод да выхадней пазыцыі, абыходзячы батарэі, якія стаялі на спадах лагчыны і вялі агонь. На краю лесу камандзір узвода паказаў першы і другі аб'екты атакі; пяхота батальёну ўжо разгарнулася і перайшла ў наступленьне на вёску Грабяні, дзе ледзь трымаліся слабыя часьці 1 батальёна (галаўнога батальёна) пад моцным агнём дзьвюх батарэй праціўніка.

Разбор. Зварачвае на сябе ўвагу чоткасьць работы камандзіра ўзвода танкаў. У сустрэчным баі ад камандзіраў танкавых часьцей патрабуецца вялікая знаходлівасьць і шпаркасьць дзействаў як і ад усіх іншых начальнікаў. Нельга прайсьці міма і прадугледжанасьці начальніка штаба дывізыі, вельмі паскорыўшага перасоўваньні камандзіра ўзвода, даўшы ў яго распараджэньне верхавога каня з конным ардынарцам. Ва ўсіх выпадках пры дрэннай дарозе і перасечанай мясцовасьці гэта трэба рэкамэндаваць.

## Рашэньне камандзіра 4 роты.

Камандзір 4 роты рашыў наступнае: наступаць двума ўзводамі цераз вышыню з дрэвам на паўночны канец ак. Толчы і адным узводам цераз вышыню на поўдзень ад дрэва на паўднёвы канец ак. Толчы. Батальённай пушцы забясьпечыць атаку танкаў зьлева з боку спадаў вышыні 102,5, палявой пушцы

забясьпечыць атаку танкаў справа з боку вышыні на поўнач ад дрэва. Узвод станкавых кулямётаў павінен падрыхтаваць спачатку наступленьне правага ўзвода; потым левага, а пасьля заняцьця вышыні з дрэвам зараз-жа высунуцца на грэбень для падтрымкі далейшага наступленьня на ак. Толчы. Апошняя задача ставілася і для батальённай пушкі. Лёгкая пушка мяняе пазыцыі па асобнаму ўказаньню камандзіра роты.

Атака пачынаецца самастойна бяз танкаў па сыгналу 3 чырвоныя ракеты—агонь батарэі па вышыні з дрэвам. Танкі перагаяюць пяхоту.

Разбор. Камандзір роты гаварыў камандзіру танкаў, што пяхотныя камандзіры недастаткова знаёмы з работай танкаў. Сам-жа ён ніякіх указаньняў сваім узводам ня даў, абмежаваўшыся толькі пастаноўкай задач у самых агульных рысах, што было-б правільна пры добра падрыхтаваным камандным саставе. роты. Вельмі патрэбна было-б даць указаньні, якія датычацца ўзаемадзейства пяхоты і танкаў, напрыклад:

„—Памятай, што праціўнік можа схавацца ад танкаў і пасьля праходжэньня іх сустрэне цябе агнём і штыхам; будзь гатоў да гэтага, не забывай пра свае ручныя кулямёты і ручныя гранаты.

— Старайся як мага хутчэй дасягнуць пункту атакі, ачышчанага танкамі, каб праціўнік не ажыў.

— Не цягніся да танка, манэўруй як табе зручней; у той-жа час ня ўпускай выпадку выкарыстаць посьпех, дасягнуты танкамі. Памятай, што ў сустрэчным баі цябе зьвязвае з танкамі толькі агульная задача—аўладапьне назначаным пунктам".

Мы лічым зусім ня лішнім указаць, напомніць тыя статутныя палажэньні, у веданьні якіх камандзір сумняваецца. Трэба толькі даць іх у ясных і кароткіх выразах, абмяжоўваючыся найбольш важнымі для данай абстаноўкі.

## Атака

4-я рота, накапіўшыся ў паўночна-заходняй частцы в. Грабяні і адкінуўшы кулямётным агнём спробы праціўніка перайсьці ў наступленьне, пайшла ў атаку і была зараз-жа абагната танкавым ўзводам, які накіраваўся на вышыню з дрэвам, дзе разагнаў два аддзяленьні праціўніка, кінуўшых свае кулямёты. Пераканаўшыся, што вышыня з дрэвам займаецца 4-й ротай (танкі тым часам адыйшлі за вышыню), а часьці 5-ай роты вышлі на грэбень і спады на поўдзень ад яго, камандзір танкавага ўзвода атакуе вышыню 102,5 пад моцным але бязладным агнём лёгкай батарэі. Свая артылерыя вяла агонь дзьвюма батарэямі па ўскраіне ак. Толчы і дзьвюма—па паўночна ўсходнім краі гаю, што на поўдзень ад вышыні 102,5. Танкі хутка зьнішчылі адзін станкавы кулямёт. Сустрэнутыя прамымі стрэламі пушкі з вяршыны 100,2, танкі адышлі за паўночную яе частку.

5-ая рота, падтрыманая агнём двух батарэй і кулямётнай роты, хутка выбіла невялікую часьць праціўніка з гаю на захад ад Грабяні, але пры выхадзе з гаю трапіла пад кулямётны агонь ад вышыні 102,5 і вышынь, што на поўдзень ад яе. Перадавыя аддзяленьні роты дасягнулі лагчынкі, дзе былі сустрэнуты штыхавым ударам узвода праціўніка.

Камандзір узвода танкаў, убачыўшы контратаку праціўніка, хутка ідзе на дапамогу 5-й роце. Абышоўшы вышыню з поўначы, ён адкрывае кулямётны агонь і кідаецца на пяхоту праціўніка, якая бязладна адціскала часьці 5 роты. Пяхота праціўніка пачы-




Чарцёж 33.

нае ўцякаць і стараецца ўкрыцца ў гаі на поўдзень ад лагчыны, але часткова зьнішчаецца кулямётным агнём танкаў. Танкі зноў ідуць на вышыню 102,5. За імі наступае 5-ая рота.

Камандзір II батальёна, назіраючы са свайго пункту бой сваіх рот і спробы праціўніка прасунуцца на сутыку II і I батальёнаў, загадвае артылерыі адкрыць агонь па Круглым гаі і па вышыні 100,2, а кулямётнай роце забясьпечваць левы флянг 5-й роты і сутык яе з 4-й ротай, абстрэльваючы спады паміж ак. Толчы і вышынёй 102,5.

Разбор. Асаблівасьці сустрэчнага наступленьня такія: ні стралкі, ні агнявыя сродкі праціўніка не пасьпелі замацавацца. Пры наяўнасьці ня зжатых хлябоў адшукваньне іх танкамі вельмі затрудняецца. Танкі лёгка прапускаюць кулямёты і жывую сілу, якая захоўваецца ў малейшых складках мясцовасьці. Праўда, у сустрэчнай сутычцы адшукваньне кулямётаў палягчаецца тым, што большасьць з іх не захоўваецца на адваротных спадах, як часта практыкуецца ў польскай абароне.

Эпізод з контратакай узвода праціўніка гаворыць аб тым, што танкі адыгрываюць вялікую ролю ня толькі пры падаўленьні або зьнішчэньні агнявых сродкаў, але і для зьнішчэньня наступаючых або контратакуючых часьцей.

Абыход поля бою для выяўленьня захаванага праціўніка, бязупыннае агляданьне танкаў назад, на сваю пяхоту, супроць якой можа раптоўна зьявіцца праціўнік, які нарачна прапусьціў уперад танкі,—зьяўляюцца характэрнымі прыёмамі работы танкаў у баі такога кароткачаснага віду. Гэты-ж эпізод паказвае, што падтрыманьне пяхоты танкамі не гарантуе яе ад розных няпрыемных нечаканасьцяй. Пяхотныя камандзіры павінны напружана сачыць зя ходам бою, не забываючыся пра выведку боем, бесьперапынна падцягваючы ўперад свае агнявыя сродкі як для ўласнага прасоўваньня, так і для пасьпяховых дзействаў танкаў, памятаючы, што знаходжаньне ўперадзе танкаў не павінна даваць поваду да расстройства наступаючага баявога парадку пяхоты.

## Працяг атакі.

Нягледзячы на згрупаваны агонь дзьвюх батарэй па падазроным месцы, адкуль танкі былі абстрэлены пушкай праціўніка, яны, дасягнуўшы зноў вышыні 102,5, зноў трапляюць пад агонь гэтай пушкі і пад скрыжаваны агонь кулямётаў з заходняга боку лагчыны.

Левы танк, трапіўшы пад агонь, уваходзіць ад яго, крута павярнуўшы налева за перагіб спаду. Камандзір танка заўважае падзеленую калёну пяхоты каля роты, якая шпарка пераходзіць лагчыну на поўнач ад ак. Шымакі на ўсход. Ён дае сыгнал „пяхота“ і накіроўваецца на яе, адкрыўшы моцны кулямётны агонь. Пяхота, нясучы страты, разьбягаецца, стараючыся знайсьці прытулак у ак. Шымакі. Танк, прасьледуючы, трапляе пад агонь батарэі, якая стаіць у лагчыне на захад ад ак. Шымакі; ён выходзіць з-пад абстрэлу, прыкрываючыся будынкамі паселішча і поўным ходам ідзе назад па ўсходніх спадах лагчыны, расстрэльваючы па дарозе дробныя часьці праціўніка, што сустракаліся. Праз 10 мінут ён далучаецца да астатніх танкаў, якія ня бачылі яго сыгналу і заставаліся ў раёне вышыні 102,5.

4-я і 5-я роты займаюць ак. Толчы і вышыню 102,5;назіральныя пункты артылерыі перамяшчаюцца сьледам за пяхотай на гэты рубеж. Падганяючы коняй, пад агнём батарэі праціўніка асобная лёгкая гармата пераходзіць у раён ак. Толчы. Батарэі вядуць згрупаваны агонь па Круглым гаі і ак. Шымакі. Праціўнік, абхоплены з поўначы II батальёнам і агнём з боку ак. Бяльвіны (абыходзячы III батальён), пачаў адыходзіць на вёску Парчэўцы адкрыўшы артылерыйскі агонь па ак. Толчы. Танкавы ўзвод,

дадены I батальёну, панёс вялікія страты ад батарэі праціўніка каля ак. Шымакі, якая прыкрывала яго адыход.

Разбор. Танк № 5 (левы) кінуў сваю задачу і ў парадку ініцыятывы пашоў на пяхоту праціўніка. Ці правільна ён зрабіў? Мы думаем, што правільна. Рота пяхоты, якая рухаецца ў падзеленым страі (напэўна гэта была ўдарная група), становіць вельмі ўдзячную і выгодную цэль для кулямёту танка нават з дыстанцыяй 700—800 м. Налёт танка на гэту роту расстроіў праціўніка якраз на тым кірунку, дзе ён прабаваў праяўляць найбольшую актыўнасьць і ледзь стрымліваўся 1 батальёнам. Дзействы гэтага танка былі яшчэ больш удалымі, калі-б ён не нарваўся на батарэю праціўніка, папярэджаную аб зьяўленьні танкаў. Атака-ж батарэі адным танкам зусім магчыма, але пры абавязковай умове раптоўнага зьяўленьня танка з флянгу, а не перад фронтам батарэі.

Мы зварачваем увагу чытача на ўзаемадзейства артылерыйскага агню і танкаў у час бою: артылерыя згрупавала агонь па ўсіх пунктах, якія былі недаступны для танкаў (гаі, паселішчы) і якія маглі адначасова захоўваць як рэзэрвы праціўніка, так і процітанкавыя агнявыя сродкі.

## Разьвіцьцё посьпеху

Чуючы моцны бой у раёне вышыні 108,8, камандзір 79 палка загадвае камандзіру II батальёна рашуча і безадкладна разьвіваць дасягнуты посьпех на вёску Парчэўцы, а начальніку артылерыі палка трымаць пад абстрэлам гасьцінец ад вёскі Клімаўка на вёску Парчэўцы і безадкладна высунуць батарэю для суправаджэньня батальёнаў.

Камандзір II батальёна загадвае: 6-ай роце з танкамі наступаць на вёску Парчэўцы, разгарнуўшыся на вышыні 100,2; 4-ай роце наступаць ўступам справа назад за 6 ротай; 5-ай роце адрэзаць шлях адступленьня праціўніку ўдарам на II Г. дв. Талочка.

Камандзіру ўзвода танкаў, з якім камандзір батальёна ўстанавіў асабістую сувязь за вышынёй 102,5 апошні загадаў шырокім манэўраваньнем адкрываць дарогу пяхоце і пасьля дасягненьня грабеня з вышынёй 95,3 пачакаць яе. Апрача таго ён напомніў што з-за адставаньня агнявых сродкаў пяхоты і асабліва артылерыі (цяжкі грунт) танкі на дастатковую дапамогу агнём разьлічваць ня могуць.

Каля 16 гадзін танкі рушылі ў атаку, захапляючы за сабой пяхоту. Пры падыходзе да вёскі Парчэўцы ў лагчыне з трохвугольным гаёчкам яны сустрэлі агонь лёгкай гарматы, якая стаяла на ўскраіне вёскі Парчэўцы. Адзін танк выводзіцца са строю ўзрывам пушачнай гранаты. Астатнія адыходзяць за гаёчак. Пяхота выходзіць на пясчаныя ўзгоркі, якія абстрэльваюцца агнём двух станкавых кулямётаў з вышынь паміж вёскамі Пар-

чэўцы і Чапялі (92,1). На поўнач ад вёскі Парчэўцы часьці суседняга палка вядуць бой у лесе. Артылерыя 79 палка вядзе агонь па пераправе каля сяла Панятовічы.

Камандзір 6 роты просіць падтрымліваючую яго батарэю, з якой сувязь толькі-што аднаўляецца, адкрыць агонь па гармаце ў вёсцы Парчэўцы, пасылае пешага пасыльнага да танкаў і загадвае падавіць кулямёты на вышыні 92,1 (паўн.) узводу станкавых кулямётаў ён загадвае: адкрыць агонь на падаўленьне агню кулямёта на вышыні 92,1 (паўднёвай).

Камандзір палка ўводзіць у бой свой рэзэрв: стралковую роту і ўзвод танкаў.

Праціўнік, кідаючы кулямёты і гарматы, адышоў асобнымі групамі і байцамі цераз балота р. Прорва.

Разбор. Задачай 6-й роты было зламаць слабое ўжо супраціўленьне праціўніка, наступаючы рашуча ўперад. Артылерыя з прычыны цяжкога грунту адставала. Танкі і пяхота былі прымушаны дзействаваць амаль самі па сабе. Пры гэтым з прычыны вялікага адрыву танкаў ад пяхоты агнявая сувязь паміж імі парушалася. У рэзультаце гэтага праціўніку ўдалося бяз страт падбіць танк і ўвайсьці. Трэба было-б дачакацца перамены пазыцыі ўперад хоць бы адной батарэі; гэтага было-б даволі, каб падтрымаць танкі агнём. Неабходна было выслаць уперад моцную баявую выведку. Яна нашчупала-б пункты супраціўленьня, і тады танкам можна было-б указаць больш дакладна пункты атакі. Камандзір батальёна не ацаніў тактычнае значэньне грэбеня з вышынёй 92,1 як апошняга выгоднага рубяжу для прыкрыцьця праціўнікам свайго адступленьня, разьлічваючы на поўнае расстройства праціўніка. Гэты эпізод падкрэсьлівае неабходнасьць ва ўсіх выпадках высылаць баявую выведку, якая патрэбна ня толькі пяхоце бяз танкаў, але і пяхоце з танкамі.

Апрача гэтага неабходна, каб парыў уперад быў арганізаваным і забясьпечаны агнявой падтрымкай.

## Перадавы атрад, узмоцнены танкамі, у сустрэчным баі

(Аркушы 4 і 5 вучэбных плянаў ускраін г. Гродна і чарцяжы 34,36).

### Абстаноўка

Перадавы атрад 7 с. д. рухаўся па дарозе з м. Індура ў м. Кузьня маючы задачай аўладаць к 7 гадзінам 22,8 і ўтрымліваць ст. Кузьня з мэтаю адрэзаць шлях адступленьня праціўніка з гораду Гродна на горад Саколка. Састаў атраду: 1 батальён 20 с. п., 2 узводы кавэскадрона, 2 а. д. аўтаброняўзвод, узвод лёгкіх танкаў і два аддзяленьні сапёраў.

Камандзіру батальёна было ўказана, што авангард дывізыі павінен выйсьці за лінію чыгункі на поўдзень ад м. Кузьня з 10—11 гадзін 22,8.

Надвор'е сухое і яснае. Дарогі добрыя.

К 5 гадзінам 22.8. атрад галоўных сіл прайшоў міма вёскі Дубовая (чарцёж 32). Апошняе данясеньне ад коннай выведкі было атрымана начальнікам атрада ў 4 гадзіны ў вёсцы Дубовая: правы разьезд (№ 2) даносіў з вёскі Клінчаны, што праціўніка не выявіў і назіраў толькі дымкі ад паравозу на поўнач ад м. Кузьня.

Узвод танкаў рухаўся з заду калёны сіл атраду скачкамі ад укрыцьця да ўкрыцьця. Камандзір узвода рухаўся ў галаве калёны галоўных сіл. Сувязь паміж ім і начальнікам атрада, які ішоў за галаўной заставай, падтрымлівалася пры дапамозе звычайнага ланцужка зьвязных; ад камандзіра ўзвода да калёны танкаў—самакатчыкамі. Апошнім распараджэньнем камандзіра ўзвода было загаданьне аб скачку з вёскі Лужкі у лагчыну на захад ад Дубовая.

## Першы эпізод

У $5^{20}$ начальнік атрада пачуў ружэйную перастрэлку ўперадзе, а ў $5^{30}$ з вёскі Падліпкі кар'ерам прыскочыў кавалерыст, які перадаў данясеньне начальніка сярэдняга разьезда: „Назіраў высадку пяхоты на ст. Кузьня. У лагчыне на ўсход ад м Кузьня быў атакаваны моцным конным разьездам. Страціў двух байцоў. Адыйшоў на вёску Падліпкі. Адстрэльваюся".

Начальнік перадавога атраду аддаў наступнае распараджэньне:

1. „Камандзіру аўтабронеўзвода: „зьнішчыць конны разьезд праціўніка. Разам з разьездам № 2 выведаць сілы праціўніка ў м. Кузьня і кірунак іх руху".

2. Начальніку галаўной заставы: „наступаць ўдоўж дарогі. Пяршая задача—падтрымаць разьезд. Другая—хутчэй выйсьці на грэбень за лесам, што ў 1 км. на поўнач заходнюю ад вёскі Падліпкі."

3. Камандзіру II а. д. „Разгарнуць адну батарэю для падтрыманьня разьезда, бранявікоў і галаўной заставы. Назіраць за дарогай і лагчынай на м. Кузьня. Адкрыць агонь безадкладна, як толькі зьявяцца цэлі."

4. Камандзіру ўзвода танкаў: „безадкладна зьявіцца да мяне".

5. Галоўным сілам: „Перавесьці адну роту на дарогу з вёскі Клінчаны ў вёску Падліпкі".

Праз 5 мінут камандзір узвода танкаў пад'ехаў на матацыкле да начальніка атрада. Апошні паведаміў яму абстаноўку і аддаваў распараджэньні і сказаў: „Чакаю сутычкі з пяхотай праціўніка непасрэдна за вёскай Падліпкі. Хачу як мага хутчэй рухацца на м. Кузьня, каб ня даць часу праціўніку зрабіць у парадку высадку. Узвод танкаў падцягніце бліжэй. Зьвярніце ўвагу на

скрытнасьць руху: відаць ужо вадакачка станцыі. Пачынайце выведку мясцовасьці".

Пасьля гэтага ён паслаў данясеньне камандзіру дывізіі.

Камандзір узвода танкаў паслаў загаданьне начальніку калёны танкаў: „Узяць большыя дыстанцыі паміж машынамі, хутка зрабіць скачок у вёску Клінчаны. Быць у поўнай баявой гатоўнасьці."

## Другі эпізод

У 6 гадзін начальнік атрада знаходзіўся на вышыні 110,7. Ён бачыў, як застава разгарнулася: перадавыя аддзяленьні часткай уваходзілі ў вёску Падліпкі, часткай рухаліся па баках яе. На вышыні 110,7 знаходзіўся камандзір батарэі, які ўжо адкрыў агонь па бранявікох праціўніка. На поўнач ад дарогі каля Сял. дв. стаяла на пазыцыі батарэя. Броняўзвод адышоў на вёску Падліпкі, да якой з гары спускаўся ўзвод бронямашын праціўніка, пад агнём нашай батарэі. Бронямашыны вялі перастрэлку. З боку м. Кузьня батарэя праціўніка вяла чаргамі агонь: гранаты ірваліся каля паўночнай ускраіны в. Падліпкі. На гасьцінцы каля вышыні 90,0 паказалася галава пяхотнай калёны праціўніка. З боку могілак каталіцкіх і лесу на захад ад іх чуліся асобныя стрэлы.

Абвярнуўшыся назад, начальнік атрада ўбачыў, што калёна 1 роты прайшла галавой вышыню 109,3.

Ад разьезду №1 (правага) атрымана данясеньне ад 5—15 з в. Мішкенікі праз вёску Клічаны. „Прайшоў Мішкенікі. Праціўніка ня сустрэў. Рухаюся на Лясн".

Бранявікі адыйшлі на бліжнюю ўскраіну в. Падліпкі.

Начальнік атрада аддае папярэднія распараджэньні.

1. Камандзіру артдывізыёна: „разгортвайце другую батарэю".

2. Камандзіру 1 батарэі: „Агонь па пяхотнай калёне праціўніка".

3. Камандзіру кулямётнай роты: „Падтрымайце наступленьне заставы (2-й роты) і падрыхтуйце разгортваньне батальёна".

Камандзіру ўзвода танкаў: „Я рашыў разгарнуць батальён на фронце вышыня 114,0—могілкі каталіцкія і наступаць на м. Кузьня. У якім кірунку хутчэй разгорнуцца танкі і акажуць найбольшую падтрымку пяхоце?"

Камандзір узвода танкаў; „Танкі могуць дзействаваць усюды. Найлепшыя подступы да вышыні 114,0. Подступы да могілак каталіцкіх адкрыты з боку чыгункі, дзе можа зьявіцца бронепоезд. Ур. Горкі—дробны і рэдкі лес і для танкаў лёгка праходны. Праз 30—40 мінут танкі могуць ужо ўступіць у бой".

Начальнік атрада абвясьціў свае рашэньні: „наступаю 1 ротай з ўзводам танкаў цераз вышыню 114,0, ур. Горкі, на Сял. дв.; двума ротамі на фронце Падліпкі, могілкі каталіцкія. Першай задачай стаўлю аўладаньне вышынямі з пуняй (пун.), што ў 1 км.

на поўнач заходнюю ад в. Падліпкі". Пасьля гэтага камандзір узвода танкаў накіраваўся на выведку, а начальнік атрада аддаў вусны загад:

„1. Праціўнік высадзіўся на ст. Кузьня. Перад намі рота пяхоты з батарэяй і бронепоездам. Справа і зьлева нікога няма.

2. Атраду аўладаць м. Кузьня ўдарам з усходу і поўдня усходняга (удоўж гасьцінцу).

а) 2 роце наступаць удоўж гасьцінцу правей яго на фронце: Смаляны—Падліпкі.

б) 3-й роце дадаю ўзвод танкаў. Разгарнуцца на вышыні 114,0. Абхапіць левы флянг праціўніка, наступаючы лявей на дом Лясн.

в) 1-й роце дадаю батальённую пушку. Разгарнуцца на фронце Падліпкі—могілкі. Наступаць лявей гасьцінцу па абодвых баках лагчыны. Бліжэйшая задача: роце—выйсьці на фронт: вышыня з пуняй—Сял. дв. (у 1 км. на поўдзень ад гасьцінцу); далейшая—захапіць м. Кузьня.

г) Кулямётнай роце падтрымаць наступленьне 1-й і 2-й рот.

д) Арт. дывізыёну падтрымаць агнём адной батарэі разгортваньне 3-й роты і танкаў да ўварваньня іх ва ўр. Горкі, двума батарэямі забясьпечыць наступленьне 1-й і 2-й рот. АСП батарэй перадаць у 1-ю і 2-ю роту (чарцёж 35).

е) Я—на вышыні 110,7. Пасьля прасоўваньня рот—на вышыні каля могілак каталіцкіх".

Разам з гэтым начальнік атрада выслаў адно аддзяленьне коньніцы з двума бронемашынамі для псаваньня (падрыву) чыгуначнага палатна каля ручая, што ў $3^1/_2$ *км.* на поўдзень ад Кузьня.

Конным бакавым заставам было паслана загаданьне: забясьпечыць флянгі баявога парадку атраду заняцьцем: правай—вышыні 112,3, што на ўсход ад Мішкенікі, левай—вышыні 104,0, што на захад ад в. Навадзелі.

Усе гэтыя асобныя распараджэньні былі адданы к $6^{30}$. К гэтаму-ж часу пяхота праціўніка сілай больш роты з кулямётамі павяла наступленьне з лесу, што на поўнач ад в. Падліпкі, і прымусіла адыйсьці часьці 2-й роты; агнём батарэі наша пяхота была выбіта з могілак каталіцкіх, якія былі заняты пяхотай праціўніка. Аднак пад агнём батарэі і кулямётнай роты атраду праціўнік далей прасунуцца ня мог.

## Трэці эпізод

Камандзір узвода танкаў, атрымаўшы загаданьне начальніка атрада, пакінуў пры ім у якасьці дэлегата аднаго выведчыка, а другога паслаў да танкаў з загаданьнем: „Завесьці маторы. Наступаем у бой".

Ён сеў на матацыклет і, пасадзіўшы з сабой камандзіра узвода 3-й роты, які быў прадстаўніком ад яе пры начальніку атрада, паехаў наперарэз полем да гаёчку на ўсход ад в. Пад-

ліпкі, у якую ўваходзіла калёна роты. Камандзіра 3-й роты ён знайшоў назіраўшым за полем бою з выступу гары на захад ад гаю

Уразумеўшы са слоў камандзіра ўзвода сваёй роты і танкавага камандзіра задачу 3-й роты, камандзір яе сказаў, што вышле зараз выведку на вышыню 114,0 і далей на дом лясьнічага, а роту зьверне направа і павядзе ўдоўж усходняга краю гаю




Царцёж 35

цераз вышыню 104,1. Ён дадаў, што на грэбені на поўнач усходнюю ад смалянога заводу ім заўважана некалькі стралкоў праціўніка. Ён думае, што вышыню 114,0 прыдзецца займаць з боем.

Пасьля адданьня загаданьня выведчаму адзяленьню з ручным кулямётам і ўзводу станкавых кулямётаў аб высоўваньні ўперад за гай, камандзір роты загадаў камандзіру танкавага ўзвода: рота разгортваецца на поўночна-заходнім краю гаю каля 104,1 і наступае цераз 114,0 на Пун., на поўнач заходнюю ад 97,7. Танкаваму ўзводу разгарнуцца ў лагчыне, што 1 км. на ўсход ад 114,0 і наступаць уперадзе роты па гэтаму-ж кірунку. Першы пункт аднаўленьня сувязі на 114,0."

У $6^{00}$ камандзір танкавага ўзвода быў ужо каля вёскі Калічаны і застаў танкі ў поўнай баявой гатоўнасьці. Растлумачыўшы камандзірам танкаў і вадзіцелям задачу ўзвода, ён павёў танкі калёнай з адкрытымі люкамі па сьцежцы ўдоўж кустоў; павярнуў налева ў лес, вядучы танкі па лесе на вышыню ў ім (на ўсход ад 114,0). Адсюль ён паказаў вышыню 114,0 і загадаў: „Баявы курс на 114,0 і далей праз лес, мінаючы Смол. з поўначы на Пун. праз прагаліну. Задача: зьбіць праціўніка з 114,0, ня даць замацавацца на краю леса і атакаваць у раёне Пун. Баявы парадак—разгорнуты. Я—паміж паўзводамі. Інтэрвалы ня больш 100 м. Па машынах. Зачыніць люкі. Рабі, што я“. Камандзір узвода ўбачыў, што стралкі 3-й роты адыходзяць ад вышыні 114,0 на поўдзень пад агнём двух кулямётаў праціўніка на гэтай вышыні. Камандзірскі танк паварачвае на вышыню 114,0. За ім разгортваюцца астатнія.

Танкі накіроўваюцца на вышыню 114,0. Яны хутка знаходзяць кулямёты, якія адкрыта стаяць і вядуць агонь. Танкі адкрываюць кулямётны агонь. Людзі пачынаюць уцякаць. Танкі, ідучы на захад, прасьледуюць іх і зьнішчаюць кулямётным агнём. Танкі спускаюцца ў лагчыну на поўнач ад смалянога заводу і натыкаюцца на стралковы ўзвод праціўніка, які напалову зьнішчаецца і расьсейвацца агнём з танкаў. Наша батарэя абстрэльвае край лесу, што на поўдзень заходні ад смалянога заводу.

3-я рота займае вышыню 114,0 і наступае на бязымянную вышыню. Танкі захоўваюцца ў лесе пад бясшкодным флянгавым агнём аднаго кулямёта праціўніка з поўдня. Рота сваімі перадавымі аддзяленьнямі ідзе ў лес па сьлядох вусеніц танкаў.

У гэты-ж час 1-я рота, зьбіўшы праціўніка з вышыні каля могілак каталіцкіх, пад прыкрыцьцем агню абедзьвюх батарэй, вядзе наступленьне на поўдзень ад гасьцінцу. Праціўнік адыходзіць на вышыню з пуняй, адкуль агонь 3—4 кулямётаў і адной батэрэі праціўніка.

### Чацьверты эпізод

Танкавы ўзвод, прайшоўшы кусты, выходзіць на заходні край і трапляе пад агонь кулямёту і дробнакалібравай пушкі, якая страляе праз лясную прагаліну; месца разьмяшчэньня гэтай пушкі ніхто з танкістаў выявіць ня мог. Камандзір узвода, баючыся руху ўперад без дапамогі пяхоты, адводзіць танкі безадкладна назад за край лесу. Аднаму з некалькіх стралкоў, дагнаўшых узвод, камандзір узвода загадвае: „Знайдзіце камандзіра роты і далажыце яму, што без дапамогі пяхоты рухацца дальш танкі ня могуць. Спыніліся перад прагалінай. Уперадзе пушка і кулямёт праціўніка“.

Камандзір узвода чуе, што на захад ідзе моцны бой. Да танкаў падыходзіць камандзір узвода 3-й роты з двума стралковымі і адным аддзяленьнем ручнога кулямёта. Камандзір узвода танкаў выходзіць з танка і гаворыць сваім камандзірам і пяхот-

наму: „Я рашыў наступаць, каб дапамагчы суседняй роце, на вышыні з пуняй праз прагаліну. Мне патрэбна дапамога пяхоты адшукаць і падавіць або захапіць кулямёт і пушку працiўнiка.

Танкі з кустоў адкрываюць згрупаваны кулямётны і пушачны агонь па месцу, адкуль страляе пушка працiўнiка. Пяхота двума групамі хутка перабягае палянку і рухаецца па лесе ў абход пушкі і кулямёта. Танкі накіроўваюцца праз прагаліну. працягваючы абстрэл„ падазронага месца". Пяхота захопліває пушку. Некалькі стралкоў працiўнiка выбягаюць на палянку (прагаліну), але трапляюць пад агонь танкаў. Танкі выходзяць на вышыню з пуняй і агнём кулямётаў прымушаюць шпарка адступаць часьці працiўнiка, якія яшчэ б'юцца супроць 1-й і 2-й рот.

У рэзультаце ўдалага ўмяшаньня танкаў (удар ва флянг) працiўнiк адыходзіць па гасьцінцу пад прыкрыцьцем моцнага кулямётнага агню з вышыні 91,8, 90,0 і 85,3 і агню батарэі і броняпоезда, які страляў з боку вышыві 80,4. Танкі адыходзяць за грэбень вышыні з пуняй, дзе камандзір узвода устанавіў асабістую сувязь з камандзірам 3-й роты. Апошні паведаміў, што рота вельмі расьцягнулася ў глыбіню; неабходна яе сабраць, падцягнуць кулямёты і арганізаваць агонь. Танкі могуць зрабіць перадышку, бо рота безадкладна наступаць дальш ня здолее

## Пяты эпізод

Да вышыні з пуняй у 7[40] прыбыў камандзір батальёна, які паведаміў сваё рашэньне: аднавіць наступленьне ў 8[40] пасьля арганізацыі кулямётнага і артылерыйскага агню; галоўны ўдар на вышыню 90,0 і далей на паўночную ўскраіну м. Кузьня наносіць 3-я рота з ўзводам танкаў і 1-я рота, дапаможны ўдар на вышыню 85,3—2-я рота. Галоўны ўдар узмацняецца абхватам з поўначы па шашы ўзводам бронямашын і коннымі выведчыкамі (чарцёж 36). Артылерыйскі дывізыён падаўляе агонь і назіраньне працiўнiка на вышынях 90, 85,3 і вядзе барацьбу з броняпоездам. Атака па сыгналу—3 сінія ракеты.

Камандзір роты загадаў камандзіру танкузвода: „Задача танкавага ўзвода падтрымаць удар 3-й і 1-й роты, для чаго зьнішчыць кулямёты ў раёне 90,0. Выходная пазыцыя—паўночна-заходні вугал ур. Горкі. Заняць безадкладна. Кірунак атакі: 90,0, цэнтр м. Кузьня. Зборны пункт—заходняя ўскраіна—Кузьня Для садзейнічаньня танкам і забясьпечаньня з боку вышыні 91,8, якая павінна атакавацца конным узводам, а таксама і для агнявой сувязі з апошнім вылучаецца адно стралковае аддзяленьне са станкавым кулямётам, якое наступае ўступам правей танкаў. Адно стралковае аддзяленьне наступае сьледам за танкамі з іх выходнай пазыцыі. Уся астатняя рота вядзе наступленьне з фронту вышыні 97,7—пуня.

У 8[30] адна батарэя II дывізіёна адкрыла агонь па бронепоезьдзе, другая—па вышыні 90,0. Усе кулямёты адкрылі агонь

на падаўленьне праціўніка на вышынях 90.0 85,3 і 83,2. Па сыгналу 3 сінія ракеты часьці на ўсім фронце адначасова перайшлі ў наступленьне. Танкі пайшлі ў атаку адначасова з пяхотай, але хутка перагналі яе, і, манэўруючы па складках мясцовасьці пад агнём батарэі праціўніка, выйшлі ў раён—90,0. Артылерыя перанесла агоньу глыбіню на наступны грэбень. Танкі падавілі і зьнішчылі 3 кулямёты праціўніка, але левы танк быў падбіты некалькімі стрэламі асобнай гарматы праціўніка, якая страляла з ускраіны




Чарцёж 36.

м. Кузьня. Аднак танк захаваў здольнасьць весьці агонь (была перабіта толькі вусеніца) і адкрыў агонь па процітанкавай гармаце, даючы сыгналы—„процітанкавая пушка". Камандзір роты просіць камандзіра батальёна падавіць агнём батарэі гармату праціўніка, якая стаіць адкрыта.

Астатнія танкі накіраваліся на бязымянную вышыню на захад ад вышыні 90,0, дзе зьнішчылі адзін кулямёт, расьсеялі адзяленьне праціўніка, і адышлі назад у лагчынку. Часьці 3-й роты занялі вышыню 90,0 і, прайшоўшы праз танкі, павялі наступленьне на Кузьня. Батарэя адкрывае згубны агонь па асобнай гармаце праціўніка. Пад прыкрыцьцём гэтага агню танкі аднаўляюць свой рух за 3-й ротай.

Пад агнём батарэі броняпоезд праціўніка, баючыся быць адрэзаным ад Кузьня, спыніў агонь і адышоў на поўнач. Узвод 1-й роты заняў вышыню 83,2. Па шашы з паўночна-ўсходняй наступалі бранявікі (чарцёж 23); удоўж шашы ішоў у атаку конны ўзвод. 3-я рота пры дапамозе танкаў дасягае агародаў м. Кузьня і займае пасёлішча. У 10 гадзін пасьля кароткага вулічнага бою праціўнік быў выбіты з м. Кузьня.

Разбор. У даным прыкладзе мы маем выпадак выкарыстаньня танкаў і броняўтамабіляў. Гэты выпадак выходзіць з межаў узаемадзейства пяхоты і танкаў, бо камандзір батальёна зьўляецца тут не пяхотным начальнікам, а агульнавайсковым, аб'ядноўваючы ў сваіх руках пяхоту, коньніцу, артылерыю, танкі і бронеаўтамабілі.

Тактычная абстаноўка патрабавала хуткага аўладаньня ст. Кузьня і ўтрыманьня яе да падыходу дывізіі. Танкі зьяўляліся ў гэтым выпадку цяжкай зброяй пяхоты, заклікаанай да рашучага ўдару па неарганізаванаму ў агнявых адносінах праціўніку, да шырокага манэўру, які вынікаў з агульнай ідэі дзействаў, ініцыятывы і разуменьня ўсёй абстаноўкі пяхотнымі і танкавымі камандзірамі.

Камандзір батальёна (начальнік атрада), не чакаючы больш падрабязных даных па групоўцы праціўніка, сьмела разгортвае ўвесь атрад, безадкладна ўводзіць танкі, імкнучыся хутчэй аўладаць рубяжом: вышыня 97, 7—пуня—Сял. дв., аўладаньнем якім па сутнасьці амаль цалкам рашае задачу, пастаўленую яму камандзірам дывізіі.

Ён выкарыстоўвае танкі на лясным кірунку, звужаючым дзействы артылерыі. На гэтым кірунку танкі замяняюць артылерыю і нават кулямёты. На другім кірунку (левым) ён згрупоўвае агонь усёй артылерыі і кулямётнай роты. Атрымліваецца падвойны ўдар па вышыні з пуняй: танкамі ад вышыні 114,0 і артылерыі і кулямётамі ад могілак каталіцкіх.

У трэцім эпізодзе танкі дзействуюць на флянгу, а потым уперадзе перад пуняй пяхоты і рашуча пранікаюць у гай. У гаі камандзір ўзвода танкаў праяўляе ініцыятыву і, чуючы бой зьлева, рашае весьці атаку дальш на карысьць суседняй роты, ня лічачыся з вялікім адставаньнем сваёй (3-й) роты. Аднак ён правільна робіць, што ня кідаецца ў атаку адзін, а дзействуе разам з невялікай пяхотнай часьцю, падышоўшай да танкаў. У даным выпадку ня танкі суправаджалі пяхоту, але пяхота суправаджала танкі і ім садзейнічала ў зьнішчэньні процітанкавай гарматы.

У апошнім эпізодзе трэба зрабіць перагрупоўку. Намер камандзіра батальёна быў падоўжыць фронт баявога парадку хоць-бы за лік глыбіні яго для таго, каб больш шырока ахапіць праціўніка, разгрупаваўшы яго агонь, самаму-ж біць па кірунках, што сыходзяцца, згрупоўваючы свае намаганьні на невялікім фронце, што паступова памяншаецца. Танкі падоўж-

ваюць фронт пяхоты, наступаючы на яе флянг. Адно стралковае адзяленьне наступае шырокім фронтам за танкамі, паказваючы пяхотную атаку, адцягваючы ўвагу і агонь праціўніка. Галоўныя намаганьні атрада згрупоўваюцца на вышыні 90,0. Адсутнасьць акопаў у праціўніка, дрэнныя ўмовы маскіроўкі (голыя спады бяз расьліннасьці) давалі магчымасьць лёгка і хутка выяўляць танкам агнявыя сродкі праціўніка. Аб'екты атакі былі ацэнены ў агульных рысах без указаньня танкаваму ўзводу задач па зьнішчэньню тых або іншых агнявых сродкаў.

Аднак апошні эпізод у параўнаньні з папярэднімі мае характар большага мэтадызму, чым папярэдні, гэта тлумачыцца тым, што сустрэчная сутычка прывяла праціўніка да абароны.

## Галаўны атрад, узмоцнены танкавым узводам

(Аркушы 2, 3, 5, 6, вучэбных плянаў ускраін Гродна, выданьне Дзяржвыдату)

### Абстаноўка

Левая калёна 10 с. д:—30 с. п. з узводам коньніцы, аўтабронеўзводам, танкавым узводам і 1/10 а. п.—наступае па вялікай дарозе з м. Адэльск на горад Гродна, маючы задачай 22.8 выйсьці ў раён вёсак Новікі—Лайгаболі. К 10 гадзінам часьці калёны знаходзяцца ў палажэньні, указаным на чарцяжы 37.

Камандзір 30 с. п. знаходзіцца на вышыні з млынам і дрэвам, што ў паўкілёмэтры на поўдзень ад Выс. дзям. На гэтай-жа вышыні начальнік галоўнага атрада (камандзір II батальёна) і камандзір палкавога артылерыйскага дывізыёна.

На фронце завязалася моцная ружэйная і кулямётная перастрэлка. Кулямёты праціўніка вялі агонь па заставе, якая разгорталася, з вышынь: 91,0 у 1 км. на поўндзень ад х. Мал. Дзямідкава, з млынам і 97,6, што на поўнач ад Выс. Дзям. Да вышыні 97,6 з поўначы ад гаю рухаўся падзелена ўзвод пяхоты праціўніка. З лагчыны на поўнач ад вышыні 91,0 батарэя праціўніка адкрыла моцны агонь па вышыні 93,7. Па гасьцінцу рухалася калёна праціўніка да двух рот; галава яе праходзіла ручай на ўсход ад Мал. Дзямідкава.

Баявая паходная застава (узвод ад 1 батальёна) разгарнулася і павольна наступала ад вёскі Песьлі на вышыню з млынам на поўнач ад вёскі. Галаўная паходная застава (2-я рота) разгарнулася на фронце кузьня—Выс. Дзям.—Сял. дв. і ўжо панесла страты ад кулямётнага агню. Левая конная застава, сустрэнутая агнём аўтамату з вёскі Іванаўцы, адыйшла да Сял. дв. і вышыні 102,5. Палкавы дывізіён, даданы галаўному атраду, выехаў з калёны для заняцьця пазыцыі і павінен быў адкрыць агонь у $10^{10}$.



Новікі
Лайгаболі
Дойлідкі
37
102,7
Х Дзямідкава-Татарскае
Мал. Дзямідкава
20
Путна
21
88,4
2 роты
100,9
Х. Малдзямідкава
Радзевічы
40
Іванаўцы
91,0
Р. Баярка
Ф Дзямідкава
102,3
Ур. Бялочыха
Сялдв.
Дзямідкава
31
102,5
Каз. Выс.Дзям.
93,7
78,0
Кузьня
Песлі
16
101,4
91,8
Клінчаны
36
Галаўны атрад
0
1
2 км


Чарцёж 37.

Узвод бронемашын нарваўся на батальенную пушку праціўніка, страціў адну машыну і з двума астатнімі пад націскам агню батарэі адышоў на Дзямідкава. Справа былі чутны артылерыйскія стрэлы ў кірунку на ўр. Бялочыха.

## Рашэньне начальніка галаўнога атрада

Начальнік галаўнога атрада так ацаніў абстаноўку.

Праціўнік разгарнуў ужо сілы, большыя за нашы галаўныя часьці, якія ахоўваюцца, і папярэдзіў у адкрыцьці артылерыйскага агню. Па гасьцінцу падыходзіць калёна каля двух рот.




Чарцёж 38.

Магчымы рух якой-небудзь калёны ад Мал. Дзямідкава на Іваначы, як па больш укрытай дарозе чым гасьцінец. Праціўнік дзействуе энэргічна. Не пазьней чым праз паўгадзіны ўступіць у бой яго калёна. Выхад праціўніка на рубеж в. Песьлім—вышыня з млынам і дрэвам—дасьць яму вялікія выгады і можа прывесьці нас да зацяжнага бою. Наадварот для нас надзвычайна выгодна і важна выйсьці на камандуючы рубеж: ф. Дзямідкава, вышыня 91,0—вышыня 100,9. Заняцьце апошняй вельмі неабходна: яна камандуе над раёнам вёсак Путна—Мал. Дзямідкава—х. Мал. Дзямідкава, флянкіруючы шляхі праз гэты раён.

Начальнік галаўнога атрада рашыў: асядлаць скоўваючай групай гасьцінец на займаемым рубяжы, біць праціўніка ў абход яго правага флянгу, адкідаючы яго да р. Баяркі, і магчыма хутчэй захапіць вышыню 100,9 (чарцёж 38).

Камандзір палка быў згодзен з начальнікам галаўнога атрада і рашыў для падтрыманьня атраду разгарнуць безадкладна ўсю артылерыю і кулямётную роту 1 батальёна (з калёны галоўных сіл палка). Галоўныя сілы павярнуць на дарогу ў вёску Іванаўцы з мэтаю разгортваньня ў кірунку на вышыню 100,9 і нанясеньня адсюль галоўнага ўдару на вёску Мал. Дзямідкава.

Для захопу вышыні 100,9 начальнік галаўнога атрада накіраваў конны, танкавы стралковы і кулямётны ўзводы. Першы павінен быў выведаць і забясьпечыць, другі—захапіць і ўтрымаць да падыходу стралковага ўзвода, трэці з чацьвертым—замацаваць за сабой гэту вышыню да падыходу перадавых часьцей галоўных сіл.

Разбор. Камандзір палка і начальнік галаўнога атраду правільна ацанілі значэньне свайго левага флянгу: посьпех на кірунку вышынь 102,5—100,9 рашаў посьпехі бою. Патрабавалася вялікая шпаркасьць і рашучасьць дзействаў, каб ня даць праціўніку часу плянамерна разгарнуцца на занятым рубяжы, захапіць вышыню 100,9 і тым скаваць манэўр галаўнога батальёна і палка праціўніка. Правы кірунак (па гасьцінцу) правільна быў ацэнены як другарадны. Рака Баярка, у якую ўпіраўся правы флянг палка, надавала ўстойлівасьць скоўваючай групе, а адкрыты характар мясцовасьці спрыяў скоўваньню праціўніка кулямётным і артылерыйскім агнём. Скоўваньне праціўніка на фронце в. Дзямідкава—Выс. Дзям.—Сял. дв. працягам у 2 км. было-б не пад сілу адной стралковай роце, калі-б яна ня была ўзмоцнена падтрымкай 2 кулямётных рот і 5 батарэй. Калі мы ўлічым адлегласьць, якую павінны былі прайсьці з галоўных сіл палка кулямётная рота I батальёна і I а. д. для таго, каб разгарнуцца, і спрыяючыя ўмовы мясцовасьці для хуткага выбару назіральных пунктаў і агнявых пазыцый, то ўбачым, што дівізіён разгарнуўся-б праз 20—25 мінут., а рота—праз 40 мінут. Такія тэрміны даюць упэўненасьць, што рота II батальёна (галаўная застава) з посьпехам пратрымаецца на занятым рубяжы.

Ва ўмовах данай абстаноўкі выкарыстаньне танкавага ўзвода на флянгу баявога парадку (уперадзе яго) трэба прызнаць адзіна правільным рашэньнем. Шпаркі захоп вышыні 100,9 мог быць выкананы толькі танкамі, якія рухаюцца са скорасьцю ў 3 разы большай у параўнаньні з пяхотай, калі нават браць скорасьць апошняй роўнай 4 км. у гадзіну; у даным выпадку па мясцовасьці ў разгорнутым парадку. Зразумела, высылка ўперад на гэту-ж вышыню коннага ўзвода забясьпечвала выведку гэтага кірунку да высоўваньня ўперад танкаў і потым выведку і сувязь у часе захопу і ўтрыманьня гэтай вышыні. Танкі павінны былі ўтрымліваць вышыню 100,9 да падыходу стралковага ўзвода каля 30 мінут. Ва ўмовах сустрэчнай сутычкі такі тэрмін для танкаў зусім выпаўнімы. Для наступленьня на праціўніка, які загадзя абара-

нiецца і мае падрыхтаваную сыстэму агню і абароны, такі тэрмін быў-бы зразумела вялікі: у апошнім выпадку танкі здолелі-б утрымліваццa ня больш 15 мінут.

Які павінен быць характар узаемадзейства пяхоты, танкаў і коньніцы пасьля таго, як вышыня 100,9 будзе захоплена? Калі гэтай групе была пастаўлена задача захапіць і ўтрымліваць, то, значыць, яна павінна перайсьці да абароны. Аснову абароны павінен скласьці стралковы ўзвод з кулямётамі, танкавы ўзвод




Чарцёж 39.

павінен скласьці контрударную групу, а конны ўзвод—выведку і сувязь. Прыкладнае разьмяшчэньне гэтай зводнай групы на вышыню 100,9 указана на чарцяжы 39.

Было-б вельмі прывабным пусьціць танкі з дзьвюма ротамі (ударная група батальёна) на Іванаўцы і вышыню 97,6. Танкі бязумоўна паскорылі-б заняцьцё гэтай вышыні. Але гэты посьпех бясспрэчна быў-бы толькі чыста мясцовым посьпехам. Утрыманьне праціўнікам за сабой вышыні 100,9 (бяз танкаў яна не магла-б быць аднята ў праціўніка) магло б зьвесьці першапачатковы посьпех да нікчэмных рэзультатаў і выклікаць заўчаснае разгортваньне палка. А камандзір палка ставіў задачу галаўному атраду—хутка зьбіць праціўніка з тым, каб галоўныя сілы палка

маглі зьвярнуць у бок для манэўра. Такое выкарыстаньне танкаў было-б няўдалым і па той прычыне, што захоп вышыні 97,6 мог быць падтрыманы даволі моцным артылерыйскім агнём, што дазваляла абыйсьціся на гэтым кірунку бяз танкаў.

Застаецца адно пытаньне: хто аб'яднае дзействы асобных часьцей нашай зводнай манэўранай групы? Відавочна для выкананьня гэтай важнай задачы трэба было паслаць камандзіра роты, які і па вопыту і па пасадзе можа прыняць кіраўніцтва і пяхотай, і коньніцай, і танкамі.

---




Чарц; 40.




Чарц. 41.

## СТРАІ

КАЛЁНА ПА РОТНА



ПАРАДКІ













Чарц. 42.

# ЗЬМЕСТ